Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура
і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 46 (4692) 16 лістапада 2012 г.

Думкапісьменніка

## З чаго пачаць?



Праблема выкарыстання беларускай мовы сёння даволі часта ўзнімаецца на старонках сродкаў масавай інфармацыі, але ж, шчыра кажучы, ад таго, што яна ўзнімаецца, амаль ніяк не вырашаецца. Ну, можа, толькі праз артыкулы становіцца яшчэ больш зразумела, што мова наша жыве, ёй карыстаюцца, яе любяць, у ёй ёсць неабходнасць. Прапаноў, як вярнуць нашай мове страчаны аўтарытэт, на старонках газет і часопісаў таксама выказваецца вельмі шмат, і, магчыма, нехта яшчэ раз скажа: "Давайце пачынаць з сябе".

Пытанне ўводзін тытульнай мовы ва ўжытак людзей, не звязаных з ёй прафесійна, на мой погляд, не вырашыцца ніколі. Чаму я так мяркую? Зараз патлумачу. Паспрабуйце прымусіць размаўляць на якой-небудзь не зусім звыклай мове чалавека, які ўсё сваё свядомае жыццё размаўляў на іншай. Магчыма, але складана. Для гэтага патрэбна, каб людзі яго атачэння таксама размаўлялі на гэтай мове. Што адбываецца ў адваротным выпадку? Чалавек паспрабуе ёй карыстацца, прынамсі, нейкі прамежак часу, а потым, у рэшце рэшт, закіне гэту няўдзячную справу.

Асабіста для мяне — гэта мова маіх бацькоў. Для таго, каб яшчэ раз упэўніцца ў тым, трэба проста заехаць у вёску. Тут, як і стагоддзе таму, размаўляюць на мове продкаў. Няхай гэта так званая трасянка і яна крыху змененая з цягам часу, але ж звычайны вясковы чалавек думае на ёй, разважае.

Мяне як дырэктара сельскага Дома культуры, а на гэту пасаду я была прызначана амаль тры гады таму, вельмі прыемна здзівіў той факт, што справаздача ў аддзел культуры вядзецца менавіта на беларускай мове. На ёй складаюцца сцэнарыі, ладзяцца мерапрыемствы.

Можна прыводзіць мноства прыкладаў, як выкарыстоўваюць беларускую мову ў розных установах, на старонках сродкаў масавай інфармацыі, на радыё, тэлебачанні, але ж мяне як чалавека, які жыве ў Пінскім раёне, абурае такі факт: у 130-тысячным Пінску, сярод яго 14 агульнаадукацыйных школ і трох гімназій няма ніводнай з беларускамоўным навучаннем! І ў той жа час намнога лепей складваецца сітуацыя ў раёне: 27 сярэдніх і 3 базавыя школы — і ўсе (за выключэннем адной — пасялковай) беларускамоўныя. Але ж і тут праблем хапае, бо прадметы не заўсёды выкладаюцца на беларускай мове.

На маю думку, першаснае, што патрэбна для таго, каб беларуская мова не была нашым дзецям чужой, — гэта ўвядзенне яе ў праграмы выхавання дзіцячых садкоў, у праграмы навучання школ, ПТВ, ВНУ. І не толькі! Патрэбны комплекс мер, якія б забяспечылі паўнавартаснае выкарыстанне беларускай ва ўсіх тых сферах, што фарміруюць моўны прэстыж і дзе яна павінна і можа выкарыстоўвацца як дзяржаўная мова нашай краіны, бо беларуская літаратурная мова — гэта мова адукаваных, інтэлігентных людзей Беларусі.

**Марыя КОБЕЦ**

# След жывы і светлы

Мяркую, не толькі ў мяне, але ва ўсіх, хто з ім так ці інакш кантактаваў, Міхась Ларчанка (14.11.1907 — 31.7.1981) пакідаў адчуванне цеплыні і светласці. А кантактаваў ён са многімі — і як вядомы вучоны, доктар філалагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі БССР, і як дэкан (1943 — 1964), загадчык кафедры беларускай літаратуры (1943 — 1971), урэшце — проста выкладчык (да канца жыцця) філфака БДУ, і як кіраўнік шасці доктарскіх і звыш сарака кандыдацкіх дысертацый, і як… Гэтае "як" можна доўжыць і доўжыць, уключаючы нават ролю жаданага свата на вяселлях некаторых сваіх калег і вучняў.




**Вячаслаў РАГОЙША,
фота прадастаўлена
Беларускім дзяржаўным
архівам-музеем
літаратуры і мастацтва**

Бацькоўская цеплыня і чалавечая светласць гарнулі да Міхася Рыгоравіча такіх жа добрых і светлых людзей. Нельга не пагадзіцца з Фёдарам Янкоўскім, які аднойчы ў сваім абразку выказаўся так: "Калі б Міхась Ларчанка не напісаў нават аднае кніжкі, не быў навуковым рэдактарам і аднае манаграфіі, ён усё адно заслужыў бы нашу ўдзячнасць... Міхась Ларчанка гадаваў і выхоўваў цэлы вялікі калектыў, дружны і працавіты, літаратараў-літаратуразнаўцаў, гісторыкаў літаратуры, крытыкаў, вучоных-педагогаў". Варта назваць прозвішчы хаця б некаторых асоб, якіх прытуліў на кафедры беларускай літаратуры БДУ яе загадчык: Сцяпан Александровіч, Дзмітрый Бугаёў, Сяргей Гусак, Вольга Казлова, Алег Лойка, Іван Навуменка, Уладзімір Навумовіч, Вячаслаў Рагойша, Рыгор Семашкевіч, Любоў Тарасюк, Кузьма Хромчанка, Маргарыта Яфімава...

Свой светлы след пакінуў М. Ларчанка і ў беларускім літаратуразнаўстве. Першы доктар філалагічных навук па літаратуразнаўстве ў пасляваеннай Беларусі (1955), ён працаваў на некалькіх дзялянках: вывучаў формы і метад рэалістычнага пазнання свету прыгожым пісьменствам, што знайшло ўвасабленне ў двух яго ных манаграфіях — "На шляхах да рэалізма" (1958) і "Па шляху рэалізма" (1959), пісаў падручнікі па вусна-паэтычнай і пісьмовай беларускай літаратуры. У прыватнасці, М. Ларчанка — адзін з аўтараў "Нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры" (1956), суаўтар вучэбнага дапаможніка "Старажытная беларуская літаратура" (1968), "Беларуская вусна-паэтычная творчасць" (1966) і "Беларуская народна-паэтычная творчасць" (1979). Аднак, бадай, самай галоўнай і запаветнай тэмай вучонага было даследаванне ўзаемадзеяння беларускай літаратуры з іншымі славянскімі, найперш — усходнеславянскімі.

Распрацоўка гэтай тэмы пачалася яшчэ да вайны, з артыкулаў пра сувязі М. Горкага, Т. Шаўчэнкі, А. Міцкевіча з беларускай культурай і беларускім народам. Працягвалася ў пасляваенных брашурах "Творчасць Максіма Багдановіча" (1949), "А. М. Горкі і беларуская літаратура" (1951), "Тогалеўскія традыцыі ў беларускай літаратуры" (1952), у манаграфічным даследаванні "Сувязі беларускай літаратуры з літаратурамі суседніх славянскіх народаў у другой палове XIX ст." (1958). Аднак найбольш поўнае ўвасабленне тэма набыла ў грунтоўных манаграфіях "Славянская супольнасць" (1963), "Яднанне братніх літаратур" (1974), "Жывая спадчына" (1977) і "Літаратурнае пабрацімства славян" (выйшла пасля смерці аўтара — у 1984-м). Паступова не толькі пашыралася геаграфія даследаванняў вучонага — з беларуска-рускага, усходнеславянскага літаратурнага ўзаемадзеяння да агульнаславянскага, не толькі пабольшалі храналагічныя рамкі літаратуразнаўчага аналізу — з нейкіх паўтара вякоў да дзесяці. Удасканалілася сама методыка. М. Ларчанка пачаў застасоўваць найбольш перспектыўныя яе формы. Уводзіў ва ўжытак і новыя, невядомыя раней літаратурныя факты.

За той час, які прайшоў пасля напісання М. Ларчанкам некаторых артыкулаў і манаграфій, адбыліся змены і ў вывучэнні міжславянскіх літаратурных узаемасувязей: адшукаліся новыя факты, звернута ўвага на новыя аспекты сувязей. У спадчыне вучонага ёсць і тое, што ўжо належыць гісторыі нашай навукі пра літаратуру. Аднак, несумненна, многае і сёння служыць літаратуразнаўству і будзе яшчэ доўга яму служыць.

У М. Ларчанкі як даследчыка і прапагандыста славянскай супольнасці можна павучыцца многаму, у прыватнасці — паважліваму стаўленню да асобных фактаў літаратурнага працэсу, паўнаце і аб'ектыўнасці іх асвятлення. Дзеля навуковай ісціны даследчык гатовы быў ісці нават на рызыку, на жыццёвыя непрыемнасці. Прыгадаем: не хто іншы, як М. Ларчанка, першы ў беларускім літаратуразнаўстве заступіўся за некаторыя творы і асобных пісьменнікаў, якіх вульгарызатарская крытыка незаслужана ахайвала. Так, яшчэ ў 1939 г. літаратуразнавец высока ацаніў "Новую зямлю" Якуба Коласа, назваўшы яе творам "вялікай мастацкай сілы" — у адрозненне ад крытыкаў тыпу Бэндэ і Кучара, якія бачылі ў паэме "заклік да стварэння буйных кулацкіх гаспадарак". Нягледзячы на вострыя крытычныя стрэлы з самых высокіх устаноў, што ляцелі ў бок дэкана філфака, ён у першыя пасляваенныя гады па-новаму, як і належыць станоўча, ацаніў ролю газеты "Наша Ніва" ў гісторыі беларускай культуры, па-новаму, таксама ў станоўчым плане, перачытаў творы Алеся Гаруна і Ядвігіна Ш. Гэткую ж прынцыповую пазіцыю займаў М. Ларчанка і пры даследаванні славянскай міжлітаратурнай супольнасці. Адзін толькі прыклад. Аналізуючы адносіны М. Багдановіча да ўкраінскай літаратуры, даследчык звяртаў увагу і на пісьменнікаў, якіх у той час нельга было нават упамінаць у друку. У прыватнасці, маюцца на ўвазе У. Самійленка і Г. Чупрынка, што былі ў "чорных спісах" савецкай цэнзуры. У кнізе "Славянская супольнасць" даследчыку ўдалося расказаць пра артыкулы М. Багдановіча, прысвечаныя гэтым выдатным украінскім пісьменнікам, адзінай правіннасцю якіх было тое, што яны "не зразумелі" савецкай улады. Ідучы на пэўную рызыку, М. Ларчанка передрукаваў свае назіранні і ў пазнейшай кнізе "Яднанне братніх літаратур". І не проста перадрукаваў, а ўдасканаліў, узбагаціў іх, прывёўшы нават асобныя цытаты з Багдановічавых артыкулаў "В. Самийленко" і "Грицько Чупринка". На шчасце, таго разу ўсё абышлося.

М. Ларчанка падышоў да літаратурнай тыпалогіі, параўнальнай паэтыкі. І сёння актуальная яго думка, што праблема тыпалагічных сувязей і ўзаемасувязей "яшчэ зусім недастаткова распрацавана нашымі гісторыкамі літаратуры, канкрэтна не даследавана і не вывучана прыстасавальна да развіцця нацыянальных літаратур".

Заслугоўваюць увагі і некаторыя іншыя думкі М. Ларчанкі — пра сутнасць і функцыі мастацкага перакладу, літаратурныя традыцыі як форму літаратурных кантактаў, характар уплываў адной літаратуры на другую. Не выклікае сумнення, што лепшае, зробленае М. Ларчанкам у даследаванні міжлітаратурных узаемасувязей і найперш — у вывучэнні славянскай міжлітаратурнай супольнасці, застанецца яшчэ доўга ў актыве нашага літаратуразнаўства, будзе спрыяць мацаванню дружбы паміж беларускім і іншымі славянскімі народамі.

*Віншуем нашага шаноўнага аўтара — прафесара Белдзяржуніверсітэта, доктара філалагічных навук Вячаслава Пятровіча Рагойшу — з атрыманнем ордэна Францыска Скарыны.*

## Пункцірам

✔Работнікі розных сфер адзначаны дзяржаўнымі ўзнагародамі. Так, ордэнам Францыска Скарыны ўганараваны загадчык кафедры тэорыі літаратуры Белдзяржуніверсітэта Вячаслаў Рагойша. Шэраг дзеячаў культуры атрымалі медалі Францыска Скарыны. Ганаровае званне "Народны арыст Беларусі" прысвоена мастацкаму кіраўніку фальклорнай групы "Купалінка" Алене Тальковай, "Народны мастак Беларусі" — мастаку-жывапісцу Анатолю Бараноўскаму. Таксама загадам прысвоены званні Заслужанага артыста, дзеяча культуры і работніка сферы адукацыі Беларусі.

✔Прызам Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі "За гуманізм і духоўнасць у кіно" на Мінскім міжнародным кінафоруме ўганараваны рэжысёр расійскай стужкі "Честное пионерское" Аляксандр Карпілоўскі.

✔ Арыстакратычны баль прайшоў 10 лістапада ў Нясвіжскім палацы. Як зазначыў на яго адкрыцці міністр культуры Беларусі Павел Латушка, гэта падзея "адкрые новую старонку ў гісторыі культуры краіны, паспрыяе адраджэнню нацыянальных традыцый". Цяпер вядуцца перамовы, каб Мінск і Нясвіж у наступным годзе прынялі іншыя балі — напрыклад, Дрэздэнскі і Венскі.

✔ У межах царкоўна-грамадскай выстаўкі-форуму "Праваслаўная Русь", што праходзіў у Маскве, былі ўручаны дыпломы і памятныя прызы лаўрэатам VII адкрытага конкурсу выданняў "Асвета праз кнігу". Спецыяльны прыз конкурсу "За захаванне духоўнай і культурнай спадчыны" атрымала Выдавецтва Беларускага Экзархата за кнігу "Я — сын Ваш. Летопись белорусской шляхты" Анатоля Статкевіча-Чабаганава.

✔Гэтымі днямі ў Гомелі праходзіць беларуска-расійскі форум маладых журналістаў "Агульны погляд у будучыню", арганізаваны Міністэрствам інфармацыі Беларусі, Пастаянным камітэтам Саюзнай дзяржавы, Беларускім саюзам журналістаў, БРСМ. Як зазначылі ў Пастаянным камітэце, работа па фарміраванні пазітыўнага стаўлення да інтэграцыйных працэсаў менавіта ў асяродку маладых перспектыўных прадстаўнікоў медыясферы з'яўляецца вельмі значнай.

✔Бюджэт II Нацыянальнай тэатральнай прэміі склаў каля 900 мільёнаў беларускіх рублёў. Пры гэтым больш як 200 мільёнаў — гэта сродкі спонсараў і мецэнатаў. Памер адной прэміі складае ад 60 да 250 базавых велічынь.

✔Прадстаўнікі дзевяці краін бяруць удзел у II Міжнародным конкурсе вакалістаў імя выбітнай беларускай опернай спявачкі Ларысы Александроўскай. На ўрачыстым закрыцці конкурсу, якое пройдзе заўтра ў Белдзяржфілармоніі, выступяць лаўрэаты.

✔ Рэспубліканскі конкурс эстраднай песні, што праходзіць з 15 па 18 лістапада ў Наваполацку, сабраў юных выканаўцаў з усёй краіны. Завіталі на свята і госці з гарадоўпабрацімаў Наваполацка. Статус рэспубліканскага конкурсу, які праводзіцца не першы год, атрымаў толькі сёлета.

Падрыхтавала **Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# «Не!» — бездухоўнасці

Сярод усіх ордэнаў, якія ўручаюцца сёння, "За вернасць і веру" — асаблівы. Заснавальнікамі яго з'яўляюцца Міжнародны дабрачынны фонд "Сям'я — Адзінства — Айчына", Грамадскі савет па маральнасці і Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Бацькі і настаўнікі — за адраджэнне праваслаўнай адукацыі".

**Віктар ЦЯРЭШКА**

Дарэчы, эскіз узнагароды распрацаваў сам старшыня гэтага грамадскага аб'яднання, выканаўчы дырэктар Выдавецтва Беларускага Экзархата Уладзімір Грозаў.

Днямі ў Доме літаратара ва ўрачыстай абстаноўцы адбылося ўручэнне ордэна "За вернасць і веру" за нумарам адзін. Атрымаць яго выпаў гонар старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаю Чаргінцу. Выбар кандыдатуры — невыпадковы. Мікалай Іванавіч — не толькі вядомы пісьменнік, а і знакаміты дзяржаўны і грамадскі дзеяч. У яго творчасці належнае месца займае тэма духоўнасці, адстойваюцца высокія ідэалы сямейных каштоўнасцей. Плённая праца М. Чаргінца і ў Грамадскім савеце па маральнасці. За асаблівы ўклад у справу духоўна-маральнага адраджэння грамадства ён ўганараваны ордэнам.

Уручыць М. Чаргінцу ордэн "За вернасць і веру" прыехаў сустаршыня Саюза пісьменнікаў Беларусі і Расіі, акадэмік Акадэміі Расійскай славеснасці знакаміты расійскі пісьменнік Уладзімір Крупін. Менавіта У. Крупін стаў першым лаўрэатам Патрыяршай літаратурнай прэміі, уручанай у 2011 годзе.

Мікалая Чаргінца віншавалі таксама Уладзімір Грозаў і іншыя літаратары. Аўтар шматтомнага збору летапісу беларускай шляхты "Я — сын Ваш" Анатоль Статкевіч-Чабаганаў уручыў Уладзіміру Крупіну тры кнігі з гэтай бібліятэкі духоўнасці, што паспела атрымаць прызнанне не толькі ў Беларусі, а і далёка за яе межамі.



*Генадзь Пашкоў, Мікалай Чаргінец, Анатоль Статкевіч-Чабаганаў, Уладзімір Крупін, Уладзімір Грозаў.*

## Узнагароды

# Прэміі Мінскага аблвыканкама

У Заслаўі, пад Мінскам, адбыўся заключны этап культурна-асветніцкай праграмы "Сям'я — Адзінства — Айчына". Па традыцыі актыўны ўдзел у праекце, зарыентаваным на падтрымку сямейных каштоўнасцяў, забеспячэнне дэмаграфічнай бяспекі краіны, прымае Саюз пісьменнікаў Беларусі. Не аднойчы і літаратары Міншчыны бралі ўдзел у самых розных канцэртах, святочных праграмах, семінарах, "круглых сталах", якія ладзяць арганізатары акцыі.

І, відаць, невыпадковым падаецца і тое, што Літаратурныя прэміі Мінскага аблвыканкама ўручаліся якраз на мерапрыемстве ў Заслаўі. Заслужаныя ўзнагароды — дыпломы і грашовыя прэміі — атрымалі паэты Сяргей Карыцька і Рагнед Малахоўскі, празаікі Алена Брава і Алег Буркін, дзіцячыя пісьменнікі Таццяна Дашкевіч і Генадзь Аўласенка. Прэмія Мінскага аблвыканкама прысуджаецца не першы год. Сярод яе лаўрэатаў — Дзмітрый Вінаградаў, Рыгор Сакалоўскі, Анатоль Смалянка, Бранілаў Зубкоўскі, Вольга Савасцюк, Наталля Голубева, Зіновій Прыгодзіч і іншыя творцы, якія ўваходзяць у склад Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Каменціруючы падзею, начальнік Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Мінскага аблвыканкама Руслан Трухан заўважыў:

— Нам прыемна, што ў вобласці складваецца добрая творчая каманда людзей, якія шануюць духоўныя каштоўнасці, арыгінальна выкладаюць свой погляд на рэчаіснасць. З цікавасцю прачытаў аповесці Алены Брава з Барысава, дзіцячую кнігу пра Вятрыску і яго дзіўныя прыгоды Генадзя Аўласенкі з Чэрвеня, творы Таццяны Дашкевіч.

Сярод новых здабыткаў пісьменнікаў вобласці — кнігі Браніслава Зубкоўскага, Паўла Жукава, Вольгі Нікольскай, якія нядаўна пабачылі свет.

**Сяргей ШЫЧКО**

## Перспектывы

# Пра Беларусь раскажуць кнігі

14 лістапада ў сталіцы Індыі Нью Дэлі, у вялікім выставачным комплексе "Прагаці Майдан", распачаў працу XXXII Міжнародны гандлёвы кірмаш. Сёлета Беларусь выступае краінай-партнёрам выстаўкі.

На нацыянальным стэндзе нашай дзяржавы, плошчай каля 300 квадратных метраў, прадстаўлена прадукцыя больш як 60 вядучых айчынных прадпрыемстваў. Адметна і тое, што на выстаўцы апроч дасягненняў навукі і тэхнікі наведвальнікі могуць пазнаёміцца з кніжнымі навінкамі краіны. Так, дэлегацыя Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь на чале з дырэктарам выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" Таццянай Бяловай на калектыўным стэндзе міністэрства прадстаўляе лепшыя кніжныя навінкі, што сёлета пабачылі свет у дзяржаўных выдавецтвах.

Як падкрэсліла намеснік дырэктара па інфармацыйна-аналітычнай рабоце выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" Кацярына Аксёнава, у выдавецтве спецыяльна да Міжнароднага гандлёвага кірмашу ў Нью Дэлі пабачылі свет шэсць кніг новай серыі казак народаў свету на англійскай мове. Гэта беларускія, украінскія, рускія казкі, а таксама каляндныя гісторыі, якія распавядаюць пра культурныя адметнасці народаў.

Думаецца, што нашы кнігі зацікавяць індыйскага чытача. А падчас кірмашу будуць зроблены новыя крокі да беларуска-індыйскага супрацоўніцтва ў галіне кнігавыдання.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Юбілеі

# З кагорты пісьменнікаў Уздзеншчыны

**Сцяпан МІРШЧЫНА**

У вёсцы Стальбоўшчына на Уздзеншчыне віталі з 90-годдзем з дня нараджэння пісьменніка-земляка Васіля Гурскага. У мясцовы сельскі клуб прыйшлі павіншаваць літаратара аднавяскоўцы, калегі па творчай працы (ва Уздзенскім раёне цэлае супольніцтва членаў СПБ — Віктар Сабалеўскі, Галіна Нічыпаровіч, Дзмітрый Вінаградаў, Зоя Калкоўская), работнікі раённых аддзелаў адукацыі, культуры, раённай бібліятэкі, мясцовых школ і сельгаспрадпрыемства. Усе добрымі словамі віталі былога партызана і франтавіка, актыўнага ратая літаратурнай нівы. А сам пісьменнік, на творчым рахунку якога 31 кніга прозы і публіцыстыкі, сустракаў гасцей новай кніжачкай апавяданняў "Маленькія хітруны", якая толькі што пабачыла свет. Рукапісы новых зборнікаў В. Гурскага ляжаць у беларускіх выдавецтвах. І, магчыма, у хуткім часе пабачаць свет.

Старшыня Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесь Карлюкевіч перадаў ветэрану віншаванні ад рэспубліканскага творчага аб'яднання і ўручыў Васілю Рыгоравічу медаль "За вялікі ўклад у літаратуру". Сапраўдны даклад пра творчасць юбіляра зрабіў яшчэ адзін госць урачыстасцей — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь празаік, драматург, публіцыст, галоўны рэдактар часопіса "Белая Вежа" Васіль Шырко, які даўно ведае уздзенскага старажыла, неадночы спрыяў яго творчым здабыткам. Дарэчы, лёс Васіля Рыгоравіча настолькі цікавы, што ён падштурхнуў Дзмітрыя Вінаградава да стварэння асобнай кнігі пра пісьменніка-земляка.

Літабсягі

# Сустракайце казку

**У Ждановіцкім спецыяльным дашкольным дзіцячым доме прайшла чарговая акцыя "Маміна казка", ініцыяваная Беларускім саюзам жанчын і Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь пры падтрымцы Дзіцячага Фонду ААН (ЮНІСЭФ) у Беларусі.**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Сталым чытачам "ЛіМа", бадай, не трэба тлумачыць назву акцыі. Бо менавіта так, "Маміна казка", называецца кніга, што выйшла сёлета ў РВУ "Літаратура і Мастацтва". Як прызнаўся яе складальнік — пісьменнік, намеснік дырэктара РВУ "Выдавецкі дом «Звязда»"-галоўны рэдактар часопіса "Нёман" Алесь Бадак, у яго дзяцінстве кожны меў свае зацікаўленасці: некаму падабаліся творы Янкі Маўра, іншым — Аркадзя Гайдара. Але народныя казкі любілі ўсе. Згоду з укладальнікам выказала і Святлана Сітнікава, намеснік старшыні грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз жанчын", старшыня яго мінскага абласнога аддзялення, рэктар Мінскага абласнога інстытута адукацыі.

Акцыя была распачата 30 жніўня ў Радашковіцкім дзіцячым доме. Другое мерапрыемства адбылося ў кастрычніку ў Бабруйску. Нарэшце, з трэцім арганізатары завіталі ў Ждановічы.

Дырэктар дзіцячага дома Тамара Красоўская мае рацыю, калі сцвярджае: усмешкі для дзяцей надзвычай важныя. Прэзентацыя "Мамінай казкі" ператварыла адно з памяшканняў дзіцячага дома ў сапраўднае сузор'е сонечных праменьчыкаў. І справа не толькі ў тым, што кожнае дзіця атрымала ў падарунак асобнік кнігі і салодкі пачастунак (акрамя названых асоб у Ждановічы завіталі намеснік старшыні Мінскага райвыканкама Сяргей Шаблыка, начальнік Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Мінаблвыканкама Руслан Трухан і намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Мінскага аблвыканкама Марыя Сіротнік).



*Выхаванцы дзіцячага дома з новай кніжкай.*

Галоўнае, што дзеці ўбачылі: іх жыццё і лёсы неабыякавыя шэрагу людзей. І калі Алесь Бадак чытаў ім адну з казак, і калі самі жыхары дзіцячага дома спявалі песні пра восень і хмарку, ужываліся ў ролі маленькага гноміка і грыбочкаў, паказвалі зайца, ваўка і лісіцу — гэта былі для іх імгненні сапраўднай радасці.

Дзеці вераць у цуды. Магчыма, гэтая сустрэча дапамагла ператварыць некаторыя з іх у рэальнасць.

Арт-лінія

# Ад панядзелка да панядзелка

**У панядзелак, 19 лістапада, будуць названыя спектаклі-пераможцы II Нацыянальнай тэатральнай прэміі. Конкурс у Беларусі праходзіць другі год, і на яго прадстаўляюцца найлепшыя пастаноўкі, якія ідуць на сцэнах вядучых тэатраў краіны.**

**Ірына ТУЛУПАВА, фота Кастуся Дробава**

Афіцыйнае адкрыццё конкурсу адбылося на пачатку гэтага тыдня, 12 лістапада... Увечары з аншлагам прайшоў спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа "Леаніды не вернуцца на Зямлю" паводле рамана Уладзіміра Караткевіча "Нельга забыць". Але яшчэ перад адкрыццём удзень для маленькіх гледачоў Беларускі тэатр "Лялька" прэзентаваў казку Х. К. Андэрсэна "Прынцэса і свінапас".

Нягледзячы на тое, што большасць пастановак-намінантаў прагледжана, пакуль яшчэ не вядомы спектакль-дамінанта. Напэўна, яшчэ рана рабіць прагнозы: гледача чакаюць відовішчы розных фарматаў, стыляў, напрамкаў, а журы конкурсу (у яго складзе 112 чалавек, старшыня — А. Дудараў) мусіць зрабіць складаны выбар — з добрага вылучыць найлепшае. Але ж тыдзень, падчас якога можна было набыць многае для пашырэння свайго культурнага досведу, падыходзіць да завяршэння. Прычым, шчыльнасць у тэатральнай прасторы максімальная: каб пабачыць усе спектаклі-намінанты, трэба глядзець як мінімум па дзве пастаноўкі ў дзень!

Нагадаем: сёлета з 39 работ вызначана 16 спектакляў, якія спаборнічаюць за права быць першым у адной з 10 намінацый: вызначаюцца лепшы спектакль, лепшы спектакль тэатра лялек, спектакль для дзяцей і пастаноўка па творы сучаснага беларускага аўтара, лепшая рэжысёрская работа, жаночая і мужчынская ролі. Будуць адзначаны таксама лепшая работа мастака-пастаноўшчыка, музычнае афармленне спектакля, работа харэографа-пастаноўшчыка. Такім чынам, улічваюцца ўсе складнікі, якія робяць спектакль паспяховым.

Сярод спектакляў-намінантаў — "Аіда" Дж. Вердзі Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь; "Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл" Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы; "Вянчанне" Вітольда Гамбровіча Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек; "Фігара.tut" па П'еру Бамаршэ Сучаснага мастацкага тэатра УП "Віртуозы сцэны" ды іншыя.



*На прэс-канферэнцыі з нагоды адкрыцця Нацыянальнай тэатральнай прэміі.*

На заканчэнне форуму плануецца правесці "круглы стол" "Сучасны беларускі тэатр: тэндэнцыі і праблемы развіцця" — своеасаблівы агляд набыткаў перад тым, як будзе дадзены пачатак наступнай, трэцяй Нацыянальнай тэатральнай прэміі.

Повязі

# Спадчына Песняроў па-кітайску

**Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа прымаў гасцей і пераможцаў конкурсу перакладаў выдатных твораў Янкі Купалы ды Якуба Коласа на кітайскую мову.**

**Дар'я ШОЦІК, фота Кастуся Дробава**

Арганізатарамі такога творчага змагання выступілі Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ, Інстытут Канфуцыя ў МДЛУ пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Беларусь у Кітайскай Народнай Рэспубліцы і Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь.

Дырэктар музея Зінаіда Камароўская перакanana, што слова трэба даносіць так, каб кожны ўспрыняў паэзію, зразумеў сэнс запаветаў, якія пакінуў творца нашчадкам. На ўрачыстым адкрыцці з вітальным словам да аўдыторыі звярнуўся першы сакратар па пытаннях адукацыі і культуры пасольства КНР у Рэспубліцы Беларусь Мэй Ханьчэн, які падкрэсліў значнасць і ролю перакладчыцкай дзейнасці:

— У Кітаі расце цікавасць да беларускай культуры. Таму конкурс перакладаў Коласа і Купалы на кітайскую мову карысны і важны не толькі для беларускага, але і для кітайскага народа.

І гэта сапраўды так. Дарэчы, кітайскі мастак Ао Тэ стварыў цікавыя партрэты класікаў. Работы цяпер знаходзяцца ў музеях Янкі Купалы ды Якуба Коласа.

У 1982 годзе ў Мінску выйшла кніга "А хто там ідзе?" з перакладамі аднайменнага верша на мовы народаў свету. Прынамсі, і на кітайскую мову, які прагучаў у выкананні Таццяны Бейдзінай.

Самым інтрыгуючым момантам вечарыны стала падвядзенне вынікаў конкурсу. Пераможцамі ў намінацыі "Паэзія" сталі студэнты Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта Крысціна Гоцава і Яо Юань за пераклад верша Якуба Коласа "Лес". Другое месца атрымалі студэнты з гэтай жа ВНУ Валерыя Наўрось і Інь Сяашань, якія пераклалі верш Янкі Купалы "Пакахай мяне, дзяўчынка". Узнагароду таксама атрымала і студэнтка БДУ Вольга Кулай за перастварэнне верша Купалы "Мая вера". Лепшымі перакладчыкамі названы Крысціна Макарачкіна (МДЛУ) і Лю Чжэюань — БДАМ (урывак з трылогіі Якуба Коласа "На ростанях"); у студэнтаў лінгвістычнага Яны Радзілавец і Лі Мэндзяо другое месца, на трэцім — Дар'я Супруновіч і Лі Цісюань (Якуб Колас, "Зло — не заўсёды зло").



*Узнагароды пераможцам уручае Міхась Міцкевіч.*

З-пад пяра

Літаратурны музей Максіма Багдановіча адной з галоўных спраў лічыць клопат пра дзетак, якія трапілі ў складаную жыццёвую сітуацыю: напрыклад, засталіся без апекі бацькоў, цяжка захварэлі. А таму арганізавалі акцыю "Падары дзіцяці кнігу", каб падтрымаць выхаванцаў прыватнай сацыяльна-педагагічнай установы "SOS — Дзіцячая вёска Бараўляны": перадалі дзіцячую літаратуру, а таксама трохтомнік Максіма Багдановіча. Супрацоўнікі музея распавялі дзецям пра самога паэта, падкрэсліваючы асаблівую любоў Максіма да літаратуры. Ён быў настолькі апантаным чытальнікам, што сябры часам называлі яго "Максім-кніжнік", і гэтая мянушка нават стала адным з яго псеўданімаў. Для выхаванцаў вёскі быў паказаны і лялечны спектакль "Батлейка". Гэтая сустрэча выхаванцаў дзіцячай вёскі Бараўляны і супрацоўнікаў музея Максіма Багдановіча стала першай, але не апошняй: наперадзе яшчэ абавязкова будуць цікавыя акцыі, сумесныя праекты, і галоўнае — радасць у дзіцячых сэрцах.

**Таццяна ШЭЛЯГОВІЧ**

Мастацкая галерэя Інстытута тэалогіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта запрашае на персанальную выстаўку жывапісу вядомага гомельскага мастака Аляксандра Гайлевіча. Экспазіцыя складаецца з 30 твораў, напоўненых любоўю да неба, сонца, зямлі, прыроды. Да жыцця ўвогуле. Работы мастака ўражваюць цеплынёй каларыту, пяшчотай і мяккасцю фарбаў, пошукам раю ў кожнай кветачцы, у кожным дрэве, у кожнай аблачынцы Беларусі. Аляксандр Гайлевіч добра вядомы прыхільнікам маляўнічага пейзажу ў Мінску, Гомелі, Мазыры, Светлагорску, Маскве, Санкт-Пецярбургу, Кіеве і іншых месцах, бо яго экспазіцыі не раз радавалі вока як беларускага гледача, так і замежнага.

**Аляксандра ДВАРЭЦКАЯ**

Сацыяльная выстаўка-кірмаш для людзей старэйшага пакалення "50 Плюс" адбылася ў сталічным Палацы мастацтва. Як паведаміў старшыня праўлення выставачнага прадпрыемства "Экспафорум" Аляксандр Савін, ладзілася 75 розных мерапрыемстваў. Сярод іх — літаратурна-музычныя вечары, танцавальны лікбез, майстар-класы па стужачным дызайне, бярэсце, інкрустацыі саломкай, пляценні з саломкі і лазы, вышыўцы гладдзю, тэхніцы лапікавага шыцця, вязанні, лямцавым дызайне, акварэлі… Члены народнай студыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва пад кіраўніцтвам Валянціны Жыткевіч падрыхтавалі для людзей сталага ўзросту 300 падарункаў. Мерапрыемства наведала больш як 32 тысячы чалавек.

**Раіса МАРЧУК**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць глыбокія спачуванні паэтэсе Таццяне Лейцы ў сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам — смерцю МАЦІ.

# «І новае жыццё пачнецца…»

Днямі споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння славутага нямецкага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі (1912) Герхарта Гаўптмана (15.11.1862 — 6.06.1946). Яму, як і Генрыку Ібсену, Аўгусту Стрындбергу, Бернарду Шоу, абавязаны сваімі дасягненнямі драматургія і тэатр Еўропы канца XIX — першай паловы XX стст.

**Ева ЛЯВОНАВА**

Будучы пісьменнік нарадзіўся ў сям'і заможнага селяніна-сілезца; яго дзед удзельнічаў у паўстанні ткачоў, якое адбылося ў 1844 г. і ўвайшло ў сусветную гісторыю рабочага руху. Сам Гаўптман закончыў рэальнае вучылішча, пасля займаўся ў мастацкай школе, слухаў лекцыі ў Енскім і Берлінскім універсітэтах, захапляўся скульптурай і жывапісам, вывучаў палітычныя і прыродазнаўчыя дысцыпліны, цікавіўся тэалогіяй, шмат падарожнічаў.

У літаратуры Гаўптман дэбютаваў як паэт і навеліст. Да яго найбольш значных празаічных твораў адносяцца раманы "Юродзівы Эмануэль Квінт" (1910) і "Атлантыда" (1912); у аснову апошняга пакладзена гісторыя маладога чалавека, які падчас акіянічнага падарожжа з Еўропы ў Новы Свет перажывае нечуванай моцы шторм і гібель парахода. Праз лічаныя месяцы пасля апублікавання рамана свет даведаўся пра жахлівую трагедыю з пасажырскім лайнерам "Тытанік". У асобе аўтара "Атлантыды" ўбачылі своеасаблівага празорцу, а ў яго творы — грозную перасцярогу чалавецтву напярэдадні Першай сусветнай вайны.

Між тым асноўнае слова Гаўптман прамовіў не ў прозе, а ў драматургіі. У гэтым сэнсе вельмі істотным для пісьменніка сталася знаёмства з суайчыннікаміі-натуралістамі Арно Хольцам і Ёханэсам Шлафам, якое шмат у чым вызначыла праблематыку і паэтыку яго ранніх п'ес. Аднак дыяпазон уплываў на Гаўптмана не абмяжоўваўся натуралізмам: драматург звяртаўся да Шэкспіра і Гётэ, Тургенева і Дастаеўскага, Ібсена і Талстога. У 1945 г., падводзячы рахункі свайму вялікаму жыццёваму і творчаму шляху, ён пісаў: "Вытокі маёй творчасці ўзыходзяць да Талстога… Мая драма «Перад узыходам сонца» ўзнікла пад уздзеяннем «Улады цемры», яе своеасаблівай, смелай трагедыйнасці". П'есай "Перад узыходам сонца", напісанай у 1889 г., тады ж распачало сваю дзейнасць берлінскае тэатральнае таварыства "Вольная сцэна". Твор прынёс аўтару сапраўдную вядомасць і займеў доўгае сцэнічнае жыццё ў тэатрах Еўропы.

Ключавы персанаж драмы — Алена Краўзэ, чалавек выключна маральны, цэльны, трагічна адзінокі ў сваёй сям'і. Усе яе намаганні скіраваны на тое, каб захаваць сябе, абараніцца ад жудасных заган, што загубілі яе бацьку і сястру, забілі ў іх усё чалавечае. І выключэннем вакол дзяўчыны амаль няма — пануюць хцівасць, распуста, п'янства, крывадушнасць. Вырвацца б з гэтай багны, але — як? Збегчы з каханым, але — каго пакахаць? І вось з'яўляецца ён, Альфрэд Лот, зусім не падобны да іншых; шчыры і сумленны, ён прысвяціў сваё жыццё барацьбе "за ўсеагульнае шчасце". "Каб я стаў шчаслівым, усе людзі вакол мяне павінны быць шчаслівымі. Дзеля гэтага мусяць знікнуць галеча і хваробы, рабства і подласць", — кажа ён Алене. Ды толькі ратаваць чалавецтва бывае нашмат лягчэй, чым аднаго, але канкрэтнага чалавека. Якраз гэты "вельмі, вельмі добры чалавек", як гаворыць пра яго Алена, і давяршыць яе трагічны лёс. Перакананы пазітывіст, Лот у пытаннях кахання, як і ва ўсіх астатніх, "цвярозы і лагічны": для сваёй будучай сям'і ён лічыць "самым важным нарадзіць фізічна і духоўна здаровае пакаленне", а таму яго выбранніца павінна мець бездакорную спадчыннасць. Нечакана для сябе даведаўшыся пра цёмныя бакі сям'і Краўзэ, Лот вырашае аваладаць сваімі пачуццямі, паколькі "гэта мае сэнс", інакш кажучы — збегчы, пакінуўшы закаханую ў яго Алену на непазбежную гібель. Фінал драмы робіць уражанне поўнай безвыходнасці: пад крыкі п'янага бацькі, які вяртаецца з карчмы, дзяўчына скончвае жыццё самагубствам.

Вобраз Лота ўспрымаецца неадназначна. Яго не зламалі ні турма, ні іншыя нягоды, і гэты стаіцызм і бескампраміснасць не могуць не выклікаць павагі. Але перакананні, ператвораныя ў догму, робяць з Лота эгаіста, пазбаўляюць яго паводзіны арганічнасці. Усё, што яго турбуе, "павінна мець практычную мэту", і толькі. Таму "Вертэр" Гётэ — "бязглуздая кніга", "для слабых", Ібсен і Заля — "наогул не мастакі", бо прапануюць чытачу "лекі", а не творчасць. Глыбока ў душы Лот, мабыць, і сам усведамляе пэўную ненатуральнасць уласнага жыцця ("Ведаеш, я ж яшчэ не жыў! Да гэтага часу я яшчэ не жыў!"), аднак перамагчы сябе самога ён не ў стане.

Тым не менш звесці змест п'есы да чарговай — гэтым разам нямецкай — інтэрпрэтацыі тэорыі спадчыннасці нельга. Паводле аўтарскага вызначэння, гэта "сацыяльная драма": Гаўптман уздымае пытанні тагачаснага грамадскага становішча ў краіне, паказвае, што дэмагагічнымі разважаннямі пра "нязручнасці", якія нясе багацце гаспадару, і пра ўласныя "высокія ідэалы" часта прыкрываецца бязмежная сквапнасць і жорсткасць. Той жа Гофман, зяць Алены, — не алкаголік, у адрозненне ад жонкі і цесця, але бессаромнейшы і страшнейшы за іх, бо яго дабрабыт расце на брудзе, на "балоце", у якое ён не супраць спіхнуць і Алену.

П'еса Гаўптмана распавяла пра трагедыю жыцця, якое абарвалася, ледзь распачаўшыся, "перад узыходам сонца". Да тэмы распаду кроўных сувязей, духоўнай ізаляванасці асобы ён звярнуўся і ў сваіх сацыяльна-псіхалагічных драмах "Свята прымірэння" (1890) і "Адзінокія" (1891).

У 1892 г. пісьменнік завяршыў працу над драмай "Ткачы". Сюжэт твора ўзыходзіць да гісторыі паўстання сілезскіх ткачоў 1844 г. (гэтай падзеі Генрых Гейнэ прысвяціў свой славуты верш "Сілезскія ткачы"). Драма Гаўптмана займела вялікі рэзананс не толькі ў Германіі, але і за яе межамі.

Герой п'есы — масавы, што вынікае ўжо з яе назвы, аднак Гаўптман здолеў паказаць ткачоў не як безаблічны, шэры натоўп; многія вобразы псіхалагічна рэльефныя, глыбока індывідуалізаваныя. Большасць герояў яднае ў грозную плынь імкненне "самім пастаяць за сябе", хоць раз "уздыхнуць на поўныя грудзі". Пакуты голаду, галеча, хваробы, смерць дзяцей — вось жахлівыя прыкметы побыту ткачоў. Жудаснае ўражанне пакідае эпізод трапезы ў адной з хацін: сям'я радуецца, бо на вячэру пашчасціла раздабыць сабачыну. Зло персаніфікуецца ў фабрыкантах, паліцыі, духавенстве (менавіта пастар падказвае ідэю падавіць бунт, "гэтую нечуваную брыдоту", з дапамогай паліцыі). Але і рабочых драматург не ідэалізуе: сярод іх ёсць штрэйкбрэхеры і здраднікі. Сімпатыі аўтара — на баку паўстанцаў, якія выйшлі змагацца за "лепшае жыццё". Паказальна, што Гаўптман не даводзіць падзеі ў п'есе да рэальнага фіналу. Як вядома, паў-станне сілезскіх ткачоў было літаральна затоплена ў крыві; п'еса ж, гэты гімн народу-паўстанцу, абрываецца на самай высокай ноце: нават расстрэл не спыняе рабочых, апантаных жаданнем паламаць станкі, у якіх яны бачаць галоўную прычыну сваіх бедаў. Пісьменнік памайстэрску выкарыстоўвае прыём палілогу, асабліва арганічны ў канцы драмы: спевы і стрэлы, смех і крыкі жаху перадаюць усё напружанне сітуацыі.

Палітра мастацкіх структур Гаўптмана не вычэрпвалася эстэтыкай натуралізму і рэалізму. У сваёй вяршаванай драме "Патанулы звон" (1896) ён сінтэзуе рысы сімвалізму і неарамантызму, рэаліі нямецкай правінцыі і карціны, народжаныя аўтарскай фантазіяй, фальклорныя матывы і элементы хрысціянскіх паданняў. Насельнікі гор — Вадзянік і Лясун, старая мудрая чараўніца Віттыха і юная залатавалосая фея Раўтэндэлейн, гномы і эльфы — з пагардай ставяцца да жыхароў "даліны", "людзейваўкоў", для якіх "пачуцці — грэх, зямля — труна, нябёсы сінія — труны той вечка…" (тут і далей пераклад наш. — **Е. Л.**). Жыццё ж "гор" падпарадкавана законам хараства і гармоніі.

Але вобразы-сімвалы "даліны" і "гор", ёмістыя самі па сабе, нашмат больш складаныя. Тыя ж казачныя істоты ўражваюць разнастайнасцю сваіх характараў, паводзін, аблічча — мудрыя, разважлівыя, але і камічныя, знешне нават брыдкія. У гэтым сэнсе эстэтыка Гаўптмана блізкая да мастацкіх прынцыпаў рамантыкаў, таго ж Гюго з яго ўяўленнямі пра гратэск, пра неабходнасць спалучэння ў адным персанажу высокага і нізкага. Насельнікі "гор" пагарджаюць "слабым, вартым жалю чалавечым родам", але самім ім не дадзена адчуваць глыбока і аддана. Толькі пакахаўшы Генрыха, Раўтэндэлейн пачынае разумець, што такое пакуты і слёзы. У той жа час жыццё людзей, пры ўсёй яго недасканаласці і абыдзёншчыне, па-свойму больш паўнакроўнае за ціхамірнае існаванне горных фей і духаў. Генрых і яго жонка Магда па натуры чужыя адно аднаму, Магда не разумее нават сэнсу слоў Генрыха, не тое што яго творчых пакут. Для яе ён — перадусім чалавек, муж, бацька яе дзяцей. Але і гэтага дастаткова, каб звар'яцець ад гора і кінуцца ў раку, на дне якой пахаваны злашчасны звон, створаны рукамі і сэрцам мужа.

Магда і Раўтэндэлейн — нібы дзве пуцяводныя зоркі, адна з якіх вабіць лілейчыка Генрыха да зямлі, другая — да горных вяршынь, да мары. Мастаку ж трэба і тое, і іншае. Трагедыя Генрыха ў тым, што ён не ў стане сплавіць абодва гэтыя пачаткі ў сваёй творчасці. Ён і сам цалкам сатканы з супярэчнасцей: дзёрзкі і слабы, горды і варты жалю, шчыры і славалюбны. "Душа і б'ецца ў ім і рвецца". Сваю "раздзёртасць" усведамляе і сам майстар: "Там, у даліне, я чужы — і свой, але і сярод гор чужы і свой я…" Раней і лепей за іншых Генрых зразумеў, што звон, у які ён уклаў усю сваю душу, "не для вышыняў створаны, не можа ў вяршынях горных водгук абуджаць…" Смерць, нарэшце, падводзіць рысу пад духоўнымі парываннямі мастака.

Пра тое, што творчыя прынцыпы аўтара "Патанулага звона" шмат у чым узыходзяць да эстэтыкі рамантызму, сведчыць і сама тэма мастака і мастацтва: ёй у свой час аддалі даніну нямецкія рамантыкі Наваліс, Брэнтана, Гофман, героі якіх — паэты, музыканты, летуценнікі — таксама марылі пра згоду частак і цэлага, пра гармонію і прыгажосць.

Гэтыя і іншыя творы Гаўптмана, з самай, бадай, славутай п'есай "Перад заходам сонца" ўключна (ён назаве яе гэтак па аналогіі з першай сваёй драмай), адметныя шматстайнасцю вобразна-выяўленчых сродкаў, глыбокім псіхалагізмам, насычаны сімваламі, якія надаюць прыватным канфліктам абагульненасць. Відавочна, пачынаючы з п'есы "Перад узыходам сонца", праз усю творчасць Гаўптмана лейтматывам пройдзе вобраз сонца як сімвал жыцця, жаданага абнаўлення, духоўнага свята. "Па сонцы я сумую — маім бацьку…" — гэтае тужлівае прызнанне чуе з вуснаў Генрыха чытач "Патанулага звона". Паводле завяшчання пісьменніка, ён і пахаваны быў на паўночным узбярэжжы перад узыходам сонца.

Цягам змрочных дванаццаці гадоў фашызму Гаўптман заставаўся ў Германіі, ва ўнутранай эміграцыі, у поўнай ізаляцыі ад айчыннага і сусветнага чытача. Між тым пісаць ён не перастаў; як прысуд фашызму і своеасаблівы запавет наступнікам успрымаецца знакамітая тэтралогія, заснаваная на антычных сюжэтах пра лёс Атрыдаў, але звернутая, без сумневу, да сучаснасці. Драматург яскрава паказаў, як зацьменне розуму, бесчалавечнасць, прага крыві абрынаюць род Атрыдаў і ўсю Грэцыю ў бездань злачынстваў і смерці. Не страціў ён і надзеі на будучае і нашчадкаў; у вершы, створаным у першы дзень 1945 г., ён пісаў:

*І год двухтысячны надыдзе,*
*і новае жыццё пачнецца,*
*і новым цудам пераўзыдзе*
*усё, што цудамі завецца.*

Творы Гаўптмана ад самага іх з'яўлення прыцягвалі ўвагу шматлікіх тэатраў свету. У канцы XIX — пачатку XX ст. у Беларусі (Мінску і Віцебску) былі пастаўлены драмы Гаўптмана "Рамізнік Геншэль" і "Патанулы звон". Мяркуючы па водгуках мясцовых газет, беларуская публіка прыхільна паставілася да гастроляў тэатральных труп з Масквы і Пецярбурга, сярод спектакляў якіх былі і пастаноўкі п'ес Гаўптмана. Так, паводле звестак, рупліва сабраных У. Сакалоўскім (кніга "Пара станаўлення", 1986), увесну 1908 г. вялікі поспех мела ў мінскага гледача драма Гаўптмана "Заложніца Карла Вялікага" ў выкананні трупы У. Мерхольда. "Новая п'еса Гаўптмана — прыгожая, паэтычная гістарычная паэма кахання старога ўсемагутнага караля да ісландскай заложніцы Герзуінды, — цытуе У. Сакалоўскі газету "Минский курьер" ад 6 сакавіка 1908 г. — Герзуінда — язычніца, якая не ведае розніцы паміж дабром і злом, дзіця лясоў і гор, лёгкая, як сарна, і непакорная, як арліца. Герзуінда выведзена найталенавіцейшым з сучасных драматургаў з уласцівым яму тонкім, амаль ажурным уменнем тварыць. Гэтак жа ўмела абмалявана магутная фігура вялікага караля, які ў старыя гады пазнаў каханне, пакуты і душэўны разлад з самім сабою". З рэцэнзіямі і артыкуламі, прысвечанымі п'есам Гаўптмана і іншых нямецкіх аўтараў, у беларускім друку выступалі У. Самойла, Д. Бохан і інш. Папулярызацыяй твораў нямецкага пісьменніка займалася, у прыватнасці, Мінскае літаратурна-артыстычнае таварыства, якое пачало сваю дзейнасць у 1906 г.

Пазней, у розныя час, беларускія тэатры неаднойчы звярталіся да драматургіі Гаўптмана, гэтаксама як неаднойчы са спектаклямі па яго п'есах гастраліравалі па Беларусі расійскія тэатры. Асабіста мне ў гэтым сэнсе назаўсёды запомнілася ігра двух таленавітых акцёраў — незабыўнага масквіча Міхаіла Царова і нашага Расціслава Янкоўскага, абодвух — у адной і той жа ролі галоўнага героя драмы "Перад заходам сонца" сямідзесяцігадовага саветніка Маціаса Клаўзена, калекцыянера і выдаўца, мудрага гуманіста, вялікага эрудыта, які стаў ахвярай уласных дзяцей.

Адчувальны ўплыў Гаўптмана і на беларускую літаратуру. У прыватнасці, Янка Купала, адказваючы на пытанне Л. Клейнбарта пра тое, хто з аўтараў зрабіў на яго асаблівае ўражанне ў часе творчага станаўлення, у лісце ад 21.09.1928 г. назваў — поруч з Байранам, Шэкспірам, Шылерам, Сервантэсам, Ібсенам, Гамсунам і іншымі — і Гаўптмана.

*«Творы Гаўптмана ад самага іх з'яўлення прыцягвалі ўвагу шматлікіх тэатраў свету. У канцы XIX — пачатку XX ст. у Беларусі (Мінску і Віцебску) былі пастаўлены драмы Гаўптмана "Рамізнік Геншэль" і "Патанулы звон". Мяркуючы па водгуках мясцовых газет, беларуская публіка прыхільна паставілася да гастроляў тэатральных труп з Масквы і Пецярбурга, сярод спектакляў якіх былі і пастаноўкі п'ес Гаўптмана.*

# Сябры яго — дзеці

Уладзімір ЛІПСКІ,
фота Уладзіміра Крука

18 лістапада адзначаецца 100 год з дня нараджэння вядомага пісьменніка Паўла Кавалёва. З ім у свой час сябраваў, падтрымліваў творчыя стасункі Уладзімір Ліпскі. Прапануем іх колішнюю гутарку. Тэкст яе раней не друкаваўся, захоўваецца ў асабістых архівах аўтара.

**— Павел Нічыпаравіч, з вышыні вашых гадоў што найбольш помніцца і хвалюе?**

— Найчасцей прыгадваецца пражытае. Вёска Склімін на Клімаўшчыне і начлежныя песні, вучоба і настаўнічанне, праца ў газеце "Звязда", у Штабе партызанскага руху і ў апараце ЦК КПБ, сакратарства ў Саюзе пісьменнікаў БССР і рэдактарства ў "Вожыку", "Полымі" — усё гэта значныя вехі майго жыцця. Кажуць, жыццё — імгненне. Мо і праўда. Але калі на схіле гадоў усведамляеш, што пражыў з карысцю для людзей і нешта добрае зрабіў, — гэта шчасце.

**— А што найбольш запомнілася з маленства?**

— Ля рэчкі Іпуць пасвіў кароў. Залезу на алешыну — цэлы свет бачу... Кнігі любіў. Сямігодку скончыў адзін з першых у вёсцы. О! Па тым часе — грамацей несусветны!.. Чытаў вяскоўцам газеты. Пісаў пра першыя крокі калектывізацыі, ганьбіў кулакоў, лайдакоў. І аднойчы, калі вяртаўся са сходу, нехта выцяў цаглінай па галаве. У райгазеце з'явіўся артыкул "Абаронім селькора Кавалёва ад кулакоў"...

**— Мне здаецца, Павел Нічыпаравіч, што да ўсіх вашых кніжак, а яны выходзілі і на рускай мове, і на адыгейскай, азербайджанскай, таджыкскай, польскай, нямецкай, кітайскай, можна было б паставіць адзін эпіграф: "З пражытага".**

— Гэта праўда. Нічога нельга так па-майстэрску выдумаць, як ёсць у самім жыцці. Вы не ведаеце, што такое цырбулі? Дык слухайце. Прыехаў аднойчы ў госці дзед Ахрэм. Ён пра ўсё распытваў. А гаворка ў яго з жывых, трапятkіх слоў, здаецца, патрымаць іх у руках можна. Аднойчы дзед падняўся з-за стала і сказаў: "Ну ж і нацурбаліўся..." Ніхто з дзяцей не зразумеў гэтага слова. І вось што расказаў дзед гарадскім унукам: "У сям'і нас было дванаццаць душ. Гэта тады яшчэ, калі ваш бацька быў такі малы, як вы цяперака. Жылі бедна. Бывала, сядаем за стол, а на ім пуста. У вялікую міску крышылі драбнюткімі кавалачкамі хлеб. Хлеб залівалі халоднаю кіпячонаю вадой. Прыгаршчу-дзве сыпалі солі. А наверх некалькі кропель алею. Усё гэта перамешвалі. А потым усе разам уміналі гэтыя цырбулі. Ах, смаката якая... Асабліва вясною, калі есці няма чаго. З таго часу і жыве гэтае слова "нацурболіўся". А цяпер зразумейце, чаму я так сказаў пасля вашага гарадскога абеду?.."

Вось кароткі змест апавядання "Цырбулі". Ніякай выдумкі, просты сюжэт. У гэтым апавяданні кавалачак і майго жыцця...

**— Павел Нічыпаравіч, ваша аповесць "Андрэйка" вядома не аднаму пакаленню юных чытачоў. Яна, мне думаецца, адкрыла вас як пісьменніка, адкрыла ваша добрае, чулліваe сэрца, пацвердзіла, што дзе б вы ні працавалі, на ўсё жыццё ў душы засталіся настаўнікам. Раскажыце, як вы пісалі аповесць "Андрэйка"?**

— Уявіце: ідзе вайна. Наша рэдакцыя, перасоўная друкарня, разам з фронтам рухаецца па ахопленай пажарышчам краіне. Жудасныя малюнкі ўбачанага тут жа пераплаўляюцца ў публіцыстычныя словы. Адначасова ў нетрах душы збіраецца матэрыял для мастацкага твора. Мяне як былога настаўніка найбольш хваляваў лёс дзяцей. Завошта яны гінуць? У чым іх правіннасць? Якім будзе іх лёс, а значыць, і заўтрашні дзень Айчыны? Дзесьці ж і свае, пяцігадовая Нэлка і трохгадовы Валерык разам з жонкай Зояй



Антонаўнай, бадзяліся па свеце. З імі развітаўся з першага дня вайны. Ліхалецце раз'яднала нашу сям'ю так нечакана і так жорстка. Пра свой тагачасны душэўны стан сказаў пазней у апавяданні "Соль" словамі камандзіра атрада Яўгена Харошкі: "У самога, гледзячы на вас, сэрца, як бяроста ў агні, скруцілася, баліць па ўсіх..."

Адразу ж пасля вайны ўзяўся сказаць сваё слова пра дзяцей, іх ранняе сталенне, мужнасць і адвагу. Так і нарадзілася аповесць "Андрэйка".

**— Вядома, Павел Нічыпаравіч, што ваш "Андрэйка" некалькі разоў перавыдаваўся, перакладзены на іншыя мовы...**

— Для мяне галоўнай ацэнкай сталі чытацкія водгукі. Хлынуў быў паток лістоў, як пазнаёміцца з Андрэйкам, дзе ён жыве, ці сустрэўся са сваім бацькам пасля вайны? Чытацкая пошта прымусіла мяне пісаць новыя раздзелы аповесці. Неўзабаве выйшла дапрацаваная, дапоўненая кніга. І зноў сыпанулі лісты. Вось адзін з іх. Ліст са Старапаля ад Вольгі Ламачэнкі: "Паважаны пісьменнік Павел Кавалёў! Вялікі дзякуй за добрую кнігу. Багата чытала я пра партызан, але амаль заўсёды кнігі заканчваліся трагічна: забіты, памёр у шпіталі, замучаны ў гестапа. Як добра, што Андрэйка жывы і сустрэўся пасля вайны з бацькам..."

**— Ваша аповесць "Лёнька Гром" таксама прызнана шырокім колам чытачоў. Іх усхвалявала гісторыя пасляваенных падлеткаў, якія трапілі пад уплыў вуліцы, пакінулі школу, а іх верхавода Лёнька Рамановіч апынуўся ў калоніі. На якім жыццёвым матэрыяле пісалася гэта аповесць?**

— Мне хацелася паказаць, дзе і ў чым выток ранняга падзення пасляваенных падлеткаў. Прычын мноства, але галоўная — вайна. У Лёнькі няма маці, у Вовы Бокуця — бацькі. Вось гэтыя пасляваенныя бязбацькавічы і выйшлі бадзяжнічаць па гарышчах ды цёмных вуліцах. Але на іх шляху паўсталі сапраўдныя людзі — лейтэнант міліцыі Круглік, загадчыца дзіцячага пакоя Патапенка, выхавацелька калоніі Аксана Міхайлаўна і іншыя. Гэтыя людзі ведаюць цану жыццю, барацьбе і змаганню за чалавека. Яны самі прайшлі праз пекла вайны.

Вось маладая і рухавая Ніна Рыгораўна Патапенка. Яна сустрэла вайну ўжо студэнткай першага курса педінстытута. У жніўні 1941-га ўступіла ў народнае апалчэнне, брала ўдзел у цяжкіх баях за родны Гомель. Вайна зрабіла яе медсястрой, і яна, параненая, сустрэла перамогу ў Кёнігсбергу. Такога выхавацеля нельга не паважаць. Яму нельга не верыць. І багата каго з падлеткаў Ніна Рыгораўна выратоўвае ад калоніі, выводзіць у людзі... Такія мне сустракаліся ў жыцці. Пра іх лёгка пісалася. Добра ведаў і жыццё падлеткаў пасляваеннай пары. Пра іх не напісаць проста не мог.

**— У вашай творчасці, Павел Нічыпаравіч, ёсць яшчэ адна "чырвоная" тэма. Гэта — дзеці і сям'я. Вы заўсёды звяртаецеся да сям'і сваіх герояў, разглядаеце яе як касмадром, на якім рыхтуецца і запускаецца ў жыццё новы чалавек. Што вы скажаце на гэта?**

— Для дзіцячага пісьменніка мала любіць дзяцей. Трэба ведаць педагогіку выхавання, "механіку" загартоўкі іх характараў.

З вялікай творчай адказнасцю я працаваў над апавяданнямі, якія ўвайшлі ў кнігу "Жывi сабе, зайчык!". Галоўны герой апавяданняў Дзед дае ўрокі жыцця сваім унукам — як трэба любіць зямлю, па якой ходзіш; кветачку, якая хораша пахне; дрэўца, пад якім можна адпачыць...

**— І не толькі сваім, а яшчэ чатырнаццаці тысячам, да якіх трапіла кніга "Жыві сабе, зайчык!". А хто вашы настаўнікі ў жыцці і ў творчасці? Ад каго вы самі чэрпалі жыццёвую мудрасць, хто вам даваў урокі дабрыні?**

— Мне пашчасціла сустракацца з добрымі людзьмі. Падрыхтаваў кнігу ўспамінаў "Назаўсёднае". Яна пра мае незабыўныя сустрэчы, пра маіх, можна сказаць, настаўнікаў. Бачыўся і гаварыў з самім Чкалавым. Праводзіў і сустракаў Фадзеева, Кажэўнікава... На другі дзень вайны быў у Купалы і замаўляў у яго артыкул для "Звязды". Памятаю, у яго артыкуле быў такі радок: "Вораг знойдзе сваю магілу на ўласнай зямлі". Нехта ў рэдакцыі паправіў: "Вораг знойдзе сваю магілу на нашай зямлі". Званю яму: як быць? "Я так не пісаў, — гаворыць. — Здыміце, Паўлючок, з нумара мой артыкул". Так і пакінулі, як пісаў Купала. Але газета не выйшла: ноччу немцы разбамбілі электрастанцыю...

З Кузьмой Чорным у вайну жыў у адным пакоі. Шчаслівымі імгненнямі жыцця засталіся сустрэчы з Коласам, Бядулем, Глебкам, Мележам, Лыньковым, Куляшовым...

Вось адна з маіх рэліквій — ліст ад Янкі Маўра: "...Прачытаў апавяданне "Гордасць". Прачытаў ад пачатку да канца з цікавасцю, што са мною бывае рэдка". Іван Міхайлавіч робіць канкрэтныя заўвагі і далей піша: "Калі такія (і яшчэ больш прыдзірлівыя) заўвагі вам могуць спадабацца, то я прапанаваў бы ў далейшым паказваць мне тое-сёе перад друкаваннем: не можа быць, каб нельга было знайсці спосабу палепшання..."

Гэта пісьмо і ёсць самы сапраўдны ўрок творчасці. Мне, лічу, страшэнна пашанцавала, што ў пару майго пісьменніцкага станаўлення ў літаратурным асяроддзі існавала вельмі прыязная творчая атмасфера: збіраліся разам, чыталі рукапісы, раіліся, умелі гаварыць адзін аднаму добрыя словы. Таленавітым і нястомным быў тагачасны кіраўнік Саюза пісьменнікаў, чалавек найдабрэйшай душы Міхась Ціханавіч Лынькоў...

**— Многія маладзейшыя, Павел Нічыпаравіч, могуць пазайздросціць вашай творчай актыўнасці. З цікавасцю прачытаў вашу аповесць "Судзі сябе сам" пра сучасных падлеткаў. "Казік, Уладзік і іншыя" — твор, які раскрывае яшчэ адну хвалюючую старонку гістарычнага летапісу ўсенароднай партызанскай барацьбы і разам з тым паказвае, як мацавалася ў сумеснай антыфашысцкай барацьбе дружба савецкіх людзей і славакаў. Пра што яшчэ хацелася б напісаць для юных чытачоў?**

— Нешта робіцца, нешта пішацца, а ў той жа час сядзіць ува мне нейкая незадаволенасць. Гаворачы бюракратычнай мовай, не рэалізаваў увесь свой жыццёвы багаж. На жаль, задумы і планы пераганяюць магчымасці... Шкадаваць пачынаю, што хапаўся ў свой час за розныя тэмы, а трэба было трымацца толькі дзіцячай літаратуры... У той жа час і радуюся — падрастае таленавітая маладая змена. Ёй зычу творчага неспакою.

---

Сяргей ПАНІЗНІК

## Успомненае цяпло

**Да 200-годдзя Паўлюка Багрыма (14.11.1812 — 1891?)**

**1.**

*Плыла няволя небам шэрым.*
*Звінелі глуха ланцугі.*
*Душа пакутніцкая — веру! —*
*жыла на востраве тугі.*
*Пераламалі хвалі*
*вёслы,*
*наўкруг — няволя-акіян.*
*Над ёю гусі неслі вёсны*
*у Край, дзе жыў стары Баян.*
.........................................
*Каваль прыцых, а на паперы*
*сумоўе слоў адолеў мох...*
*...Паэты*
*у вяках —*
*асверы,*
*рабы прыкутых перамог.*

**2.**

*Вясна. Ды скрыпуча полазу.*
*І чуецца свіргат вякоў.*
*"Хацелася б з Вашага голасу*
*мне накаваць жаўрукоў!"*
*А ласка даўно запрошана*
*на ўспомненае цяпло...*
*...Няскрушаным,*
*тут, пад Крошынам*
*станеш ты*
*на крыло.*

## Над чарамі натхнення

*...З шчасцем на вас азірнуся.*
Паўлюк Багрым

У далёкім 1975 годзе я наведаў радзіму Паўлюка Багрыма. Любасна было адчуваць клопаты землякоў пра Каваля і Паэта. Сямідзесяціпяцігадовы крошынец Зігфрыд Лукашэвіч хадзіў каля святынь і распавядаў, як яны даглядаюць магілу знакамітага творцы, як турбаваліся пра сціплы помнічак ва ўшанаванне дарагога ім чалавека — каб раскрыліць славу



*Зігфрыд Лукашэвіч. Крошын. 1975.*
*Фота С. Панізніка.*

земляка. Зігфрыд паклікаў сваю суседку пані Ірыну Еўсявіцкую адчыніць касцёл і ўгледзецца на іх абярэг — багрымаўскую жырандолю. Пашаната, гонар за свайго чарадзейніка адчуваліся ў кожным слове і руху маіх прыязных знаёмцаў.

Ці ж маглі падумаць яны, што неўзабаве пачнуцца свары вакол імя Багрыма сярод навачасных "следапытаў"? Што звычкай стане абкрадаць саміх сябе, гасіць галасы мрояў, не летуцець, а мітусіцца над чарамі натхнення?

Гляджу на даўні здымак Зігфрыда Лукашэвіча, сапраўднага абаронцы Багрыма: ён і сёння просіць усіх нас рабіць так, каб Каваль-Паэт не быў у крыўдзе, мог са шчасцем на нас азірнуцца з вышыні свайго юбілею.

# На іржышчы часу…

Творчасць Янкі Купалы, народнага паэта Беларусі, класіка айчыннай літаратуры, была цесна звязана з жыццём роднага краю, усіх рэгіёнаў нашай Радзімы. Многія творы мастака паўставалі да жыцця на аснове яго паездак па рэспубліцы ў складзе гэтак званых пісьменніцкіх брыгад, наведання гарадоў, мястэчак і вёсак.

**Мікола МІКУЛІЧ**

Як паказваюць факты, Я. Купала меў непасрэднае дачыненне да шмат якіх з'яў і падзей з жыцця Барысава і Барысаўшчыны, неаднаразова бываў тут у сувязі з арганізацыяй і правядзеннем розных грамадска-культурных мерапрыемстваў і літаратурных сустрэч. Напрыклад, 22 — 24 мая 1932 года ён разам з некаторымі іншымі беларускімі пісьменнікамі наведаў Барысаў, каб выступіць перад рабочымі прамысловых прадпрыемстваў горада, на творчых вечарах. Дакладна вядома, што ў гэтыя дні паэт удзельнічаў ва ўрачыстым пасяджэнні райкама камсамола, выступаў у мясцовым сельскагаспадарчым тэхнікуме.

Фактычна ўвесь ліпень 1934 года Я. Купала разам з пісьменнікамі І. Гурскім і В. Кавалём правёў у Барысаве ў сувязі з творчай камандзіроўкай. Паэт выступаў на літаратурным вечары для партыйна-камсамольскага і прафсаюзнага актыву ў клубе імя М. Горкага, на запалкавай фаб-рыцы "Пралетарская перамога". За гэты час пісьменнікі наведалі многія мясцовыя калгасы, піянерскія лагеры, іншыя ўстановы.

12 верасня 1934 года Я. Купала выступаў у Барысаве на партыйна-камсамольскім сходзе, які быў прысвечаны І Усесаюзнаму з'езду савецкіх пісьменнікаў.

Як вядома, у канцы 1920-х — 1930-я гады ў Беларусі і ва ўсім Савецкім Саюзе актыўна праходзіла кампанія па калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Летам 1930 года да ліку асоб, якія падлягалі раскулачванню, былі аднесеныя маці Я. Купалы Бянігна Іванаўна і сястра Леакадзія. У гэты час паэт адзначаў 25-годдзе сваёй літаратурнай дзейнасці, выступаў на шматлікіх урачыстых мерапрыемствах і сходах у гарадах Беларусі і Маскве. Пасля настойлівых захадаў маці і сястра былі ссаджаныя з цягніка з раскулачанымі, які рухаўся на Котлас, якраз у Барысаве.

Падчас адзначанага намі знаходжання Я. Купалы ў Барысаве ў творчай каман-дзіроўцы (з 1 па 27 ліпеня 1934 года) ён напісаў паэму "Барысаў". Гэта невялікі ліраэпічны твор, прысвечаны знамянальнай на тую пару падзеі — адкрыццю ў горадзе помніка Леніну. Па ўсім відаць, паэма стваралася лёгка і хутка, бо была закончана ўжо 6 ліпеня. Упершыню яе апублікавала газета "Звязда" 11 ліпеня 1934 года, дарэчы, пад назвай "Да адкрыцця помніка Леніну ў Барысаве". Пад тэкстам твора стаяла пазнака: Скупліно, калгас «Чырвоны баец»… Пад назвай "Барысаў" паэма была надрукавана ў часопісе "Полымя рэвалюцыі" (№ 8 за 1934 год). Урывак з яе пад загалоўкам "І памёр стары Барысаў" апублікавала газета "Літаратура і мастацтва" 12 ліпеня 1934 года.

Варта заўважыць, што паэма Я. Купалы "Барысаў" зацікавіла шматлікіх перакладчыкаў. Яна была перакладзена М. Браўнам і С. Гарадзецкім на рускую мову, Т. Масэнкам — на ўкраінскую, Н. Зар'янам — на армянскую, Э. Матузявічусам — на літоўскую.

1930-я гады былі надзвычай складаным, цяжкім і трагічным перыядам у гісторыі беларускай літаратуры і культуры. Мастацкія творы гэтага часу характарызаваліся тым, што ў іх лірычны пачатак, пластыка суб'ектыўнага аналізу, душэўна-чалавечае самавыяўленне ледзь не цалкам выцясняліся грамадска-сацыяльным быццём, адлюстраваннем гэтак званых працоўных будняў, здзяйсненняў і перамог рабочых і калгаснікаў. Шырокае распаўсюджанне і нават папулярнасць тады набылі жанры лірычнага дзённіка, паэтычнага рэпартажу, вытворчага нарыса, якія будаваліся паводле прынцыпу аўтарскага водгуку на з'явы і падзеі рэчаіснасці, галоўным чынам, як сёння б сказалі, на грандыёзныя гаспадарча-эканамічныя і сацыяльныя праекты.

Гэтыя працэсы, натуральна, закранулі і паэзію Янкі Купалы, якая развівалася ў сістэме вядучых светапоглядна-ідэалагічных каардынат часу і фактычна была звернута да выканання "сацыяльнага заказу партыі". Творчасць Я. Купалы 1930-х гадоў характарызавалася аднамерным паказам падзей рэчаіснасці, публіцыстычна-дэкларатыўнай танальнасцю, налётам рытарычнасці і ілюстрацыйнасці, што выявілася, напрыклад, у паэме "Над ракою Арэсай", вершах "Працай дружнай, калектыўнай", "Нашай Канстытуцыі", "Я — калгасніца…" і інш. Чалавек, асоба, індывідуальнасць адыходзілі на другі план, а то і зусім растваραліся ў адлюстраванні грамадска-сацыяльнага асяроддзя, а на першым плане фігуравала гэтак званая калектыўная эмоцыя.

Усё ці амаль усё з адзначанага засведчыла і паэма "Барысаў". Твор напісаны ў характэрным для паэтыкі Я. Купалы сказавым стылі і пабудаваны паводле распаўсюджанага ў тыя гады прынцыпу супрацьпастаў-лення сучаснага, новага грамадскага ладу, шчаслівай сацыялістычнай рэчаіснасці, змрочнаму нацыянальнаму мінуламу, якое не інакш як калечыла і нішчыла чалавечых жыцці і лёсы. У сувязі з гэтым паэма выразна падзяляецца на дзве ўнутрана звязаныя паміж сабою часткі. Змест першай з іх складаюць асаблівасці гістарычнай рэтраспекцыі. Паэт звяртаўся ў далёкую даўніну, калі "паўстаў Барысаў ў сотні гоняў", да часоў панавання на Барысаўшчыне князёў і цароў, якія "турмы будавалі, // кавалі кайданы". Ён згадваў Паўночную вайну Расіі са Швецыяй, нашэсце войск Напалеона, падзеі Першай сусветнай вайны, белапольскую акупацыю. Усё гэта, сцвярджаў Я. Купала, абарочвалася для нашай Радзімы стратамі і няшчасцямі, якія засталіся ў народнай памяці:

*Былі войны, бітвы, —*
*Слёзы, кроў лілся;*
*Шведа, Банапарта*
*Сляды засталіся.*

*Ў Бярэзінскіх водах*
*Немец паіў коні, —*
*Вільгельмава зграя*
*У памяці й сягоння.*
*……………………*
*Паны прывіталі*
*Цябе, мой Барысаў,*
*Вісельняй, і куляй,*
*І пажарным прыскам.*

1930-я гады былі надзвычай складаным, цяжкім і трагічным перыядам у гісторыі беларускай літаратуры і культуры. Мастацкія творы гэтага часу характарызаваліся тым, што ў іх лірычны пачатак, пластыка суб'ектыўнага аналізу, душэўна-чалавечае самавыяўленне ледзь не цалкам выцясняліся грамадска-сацыяльным быццём.



Другая, асноўная, частка паэмы звернута да ўслаўлення гэтак званых вытворчых дасягненняў рабочых і калгаснікаў Барысаўшчыны, іх ударнай працы, поспехаў і перамог у справе сацыялістычнага будаўніцтва. Паэт апяваў іх шчаслівую долю, працэсы індустрыялізацыі і калектывізацыі, як пазней адзначыць крытыка ў асобе Ц. Ліякумовіча, сцвярджаў "неадольнасць новага жыцця, стваральную энергію народных мас, размах тэмпаў сацыялістычнай перабудовы". "Спалены Барысаў // Збыўся акупантаў, — чытаем у паэме, — рукой бальшавіцкай // паўстае гігантам".

*Паўстае з руінаў*
*Кветкаю ружовай,*
*Фабрыкі, заводы*
*Заводзіць нанова.*

*Коміны пад небам*
*Задымелі дымам,*
*Гудкі загудзелі*
*Над усёй радзімай.*

Тут міжволі прыгадваюцца словы з вядомага "пакаяннага" ліста Я. Купалы, напісанага ім пасля спробы самагубства 20 лістапада 1930 года. "Гіганцкімі крокамі ідзе культурнае і эканамічнае будаўніцтва Беларусі, — адзначаў у ім паэт. — Краіна, быўшая ўвасабленнем рабства, убоства і беспрасветнай цемры, ператвараецца ў краіну вольнай працы. На месцы некалі гнілых дрыгвяных балот вырастаюць фабрыкі, заводы, электрастанцыі. На месцы ўбогіх сялянскіх палосак красуюцца калгасныя нівы, навейшыя дасягненні агранаміі, тэхнікі і пладатворнай калектыўнай працы…

Будуецца сацыялізм…"

Вялікія працоўныя поспехі і дасягненні народа, падкрэсліваў Я. Купала ў паэме, сталі магчымымі дзякуючы мудрай і дальнабачнай палітыцы камуністычнай партыі, дзейнасці яе ідэйнага кіраўніка і натхніцеля Леніна, "які ўдзень і ўночы // ўвесь свой век змагаўся // за справу рабочых". Жыхары Барысава на свае ахвяраванні пабудавалі помнік Леніну як увасабленне еднасці шырокіх народных мас і правадыра, "каб ленінскай славы // шлі йшчэ далей весці". Адкрыццё гранітнага помніка "у Барысаўскім парку // для вякоў патомных" з'яўляецца ключавым момантам у развіцці сюжэтнага дзеяння твора.

Паэма заканчваецца заклікам да новага Барысава берагчы заваёвы сацыялістычнага ладу жыцця, ахвярнай стваральнай працы людзей:

*Не паддайся снам спакойным*
*Пад шчаслівым небам:*
*Хітры вораг за мяжою*
*Набівае стрэльбы.*

Паэма Янкі Купалы "Барысаў" прасякнута сцвярджэннем утапічна-ілюзорных ідэй і поглядаў аўтара. Ёй нестае дакументальнай праўды падзей і фактаў, глыбіні і арыгінальнасці мастацкага асэнсавання рэчаіснасці. Трэба пагадзіцца з акадэмікам У. Гніламёдавым, які ў сваёй манаграфіі "Янка Купала: жыццё і творчасць" адзначае: "У ідэйна-мастацкіх адносінах паэма "Барысаў", якую Купала напісаў па тагачаснаму сацыяльнаму заказу (ці загаду), падобна на дзясяткі і сотні такіх жа абстрактна-схематычных, пазбаўленых праўды твораў, якія былі выкліканы да жыцця той гістарычнай эпохай".

Трэба пагадзіцца з акадэмікам У. Гніламёдавым, які ў сваёй манаграфіі "Янка Купала: жыццё і творчасць" адзначае: "У ідэйна-мастацкіх адносінах паэма "Барысаў", якую Купала напісаў па тагачаснаму сацыяльнаму заказу (ці загаду), падобна на дзясяткі і сотні такіх жа абстрактна-схематычных, пазбаўленых праўды твораў, якія былі выкліканы да жыцця той гістарычнай эпохай".

Аднак усё гэта толькі падкрэслівае вялікую значнасць таго, што зрабіў Янка Купала ў неспрыяльных для плённай мастацкай творчасці ўмовах для беларускага народа, яго літаратуры і культуры. Паэт валодаў магутным і яркім талентам ідэйна-эстэтычнага абагульнення. У яго творах глыбокае рэалістычнае адлюстраванне рэчаіснасці пераплятаецца з высокімі ўзлётамі рамантычнай фантазіі, лятункавымі духоўна-ірацыянальнымі азарэннямі героя. Яны ўслаўляюць сацыяльна-маральныя асновы і прынцыпы, спосабы і формы жыццядзейнасці беларусаў у кантэксце глабальных быційных працэсаў і пераўтварэнняў першай паловы XX стагоддзя.

Лірыка і эпас Янкі Купалы адлюстравалі характэрныя асаблівасці нацыянальна-гістарычнага лёсу беларускага народа, яго духоўнага светапогляду, інтарэсаў і памкненняў. Яны скіраваны да раскрыцця глыбінь чалавечага духу, яго ўзаемадзеяння са светам сацыяльнай прыроды і грамадскага развіцця, да выяўлення складанай і супярэчлівай філасофіі жыцця на зямлі.

# Крадзеж ці цэнзура?

## Развагі пра лёс другой рэдакцыі паэмы Якуба Коласа “Сымон-музыка”

Летам 1924 г. Якуб Колас вяртаўся з творчага адпачынку ў Кіславодску. Там ён канцэптуальна перарабіў паэму “Сымон-музыка”. Аднак у дарозе яе скралі. Гэта засведчыў сам паэт. Такую версію пачалі лічыць афіцыйнай. Але калі прасачыць лёс другой рэдакцыі паэмы больш пільна, то ўзнікаюць пытанні. Іх і хацелася б тут акрэсліць.



**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

У страшныя 1930-я гг. аўтар з мэтай перавыдаць паэму “Новая зямля” сам пераацэньвае свой твор, кажучы пра разыходжанне лейтматыву паэмы з ідэйнымі дамінантамі новай эпохі. Але да перапісвання “Новай зямлі” справа не дайшла.

Між тым гэтага кону не пазбегла паэма “Сымон-музыка”, апошняя, трэцяя рэдакцыя якой, закончаная ў 1925 годзе, была канцэптуальна перайначана. Найперш Якуб Колас прыбірае рэлігійныя матывы, онім “маскаль”, перароблівае развязку на аптымістычны лад (пра гэта апублікавана ўжо нямала даследаванняў — перадусім працы У. Конана і М. Мушынскага). Адзін з момантаў перапісвання твора, які меў і прамежкавы варыянт — згубленую ці скрадзеную так званую другую рэдакцыю — і сёння застаецца дарэшты нявысветленым. Гэты момант звязаны наўпрост з вяртаннем паэта да тэмы падзелу Беларусі ў 1921 г.

Ужо ў першай рэдакцыі Якуб Колас зрабіў экскурс у гісторыю, кажучы пра “споркі сілаю” на беларускай зямлі. Трэцяя рэдакцыя была куды больш нейтральнай, але захавала радкі пра тое, што:

*З двух бакоў “айцы” дубінай*
*Заганялі нас у рай!*
*Кроў лілася ручаямі,*
*Здрада чорная расла,*
*Што папамі і ксяндзамі*
*Ў сэрцы кінута была.*
*І цяпер над вамі, брацце,*
*Яшчэ ў сіле той раздор —*
*І папоўскае закляцце*
*І ксяндзоўскі нагавор.*

Гэты ўрывак атрымлівае інтэрпрэтацыю, скіраваную супраць абодвух бакоў савецка-польскага падзелу. Прынамсі, да такога прачытання схіляюць падкрэсленыя намі радкі, у якіх аўтар прызнаецца, што ранейшае становішча застаецца “ў сіле”.

Непасрэдна тэма падзелу ўсплывае і ў наступных радках паэмы:

*Родны край! ты разарваны,*
*І на захад ад мяжы*
*Пан пыхлівы, надзіманы*
*Моцна сцягвае гужы…*

Гэта страфа некаторымі даследчыкамі літаратуры, а таксама малодшым сынам Песняра М. Міцкевічам бачыцца змененай: расійскі бок у кантэксце дзяльбы не згадваецца.

Тым не менш гэта версія застаецца дакументальна не пацверджанай і з гэтай прычыны не ўводзіцца акадэмічнымі тэкстолагамі ў навуковы ўжытак, што пакідае яшчэ адну таямніцу гісторыкам літаратуры. Хоць пра тое, што другая рэдакцыя мела хутчэй за ўсё яўны антысавецкі (ці як мінімум непажаданы для бальшавікоў) змест і, такім чынам, не задавальняла бальшавіцкіх цэнзараў, ускосна сведчыць адсутнасць чарнавікоў і невялікая колькасць Коласавых каментарыяў (калі не браць пад увагу агульныя словы, сказаныя аўтарам нібы для адчэпнага: маўляў, перарабіў ды скралі ці да т. п). З іх шэрагу звяртае на сябе ўвагу паметка Якуба Коласа ад 10 чэрвеня 1927 г. на амаль трохгадовай даўніны (8 — 9 ліпеня 1924 г., з Кіславодска) лісце да жонкі, у якой падкрэсліваецца, што рукапіс паэмы “Сымон-музыка” скрадзены. Навошта спатрэбілася тая паметка? І самае галоўнае — для каго яна прызначалася? Наўрад ці самому сабе. Хіба з памяці аўтара магла сцерціся такая творчая страта? А значыць, зусім не сабе, а тым, хто задумаецца над лёсам паэмы. Але ўсё стала б на свае месцы, калі б мы даведаліся, што дзеянні паэта былі ўзгодненыя з “рэдакцыямі” цэнзуры ці іншых, больш сур’ёзных органаў дзяржаўнага парадку.

Дзіўна таксама, што аўтар пакінуў толькі даволі абстрактнае, прасторавае тлумачэнне, чаму ён перарабіў канцоўку — з песімістычнай на аптымістычную. Хаця гэтай і іншым зменам у паэме можна было з лёгкасцю даць лагічную прасавецкую інтэрпрэтацыю.

Выбітны коласазнавец У. Конан не абвяргае інфармацыі пра крадзеж другой рэдакцыі, але і дадае: “Вядомы нам сучасны твор — гэта ўжо другі варыянт савецкай рэдакцыі. Першы варыянт гэтай рэдакцыі (1924) цэнзура вярнула аўтару на дапрацоўку — абавязковую тады самацэнзуру”. Дый сам Якуб Колас у лісце да жонкі пісаў, што “занёс Шукевічу ў цэнзуру апошні раздзел «Сымона-музыкі»”. Значыць, рукапіс быў не толькі скончаны, але і аддадзены на разгляд цэнзарам. І толькі потым другая рэдакцыя паэмы нібыта знікла! Супадзенне ці лагічнае развіццё падзей?



Адбітак фрагмента першай рэдакцыі паэмы “Сымон-музыка” (1918).

І яшчэ адна дэталь. Бытавая. Вага “чамаданчыка”, узятага ў дарогу пісьменнікам. Пачытаем, што ён піша ў лісце да жонкі: “Дарма я валок гэтыя чамаданы. <...> Калі я пачну ставіць сваю абэрыну, то ў мяне аж пуза трашчыць. Ну, але ж у дарозе не кідаць іх. Буду пакутаваць да канца і верна трымацца чамадана”. І гэта словы чалавека, сіла рук якога стала напаўлегендарнай. Дзеля прыкладу даверымся старэйшаму сыну класіка Данілу Міцкевічу, які да таго ж быў і адным з найлепшых даследчыкаў жыцця свайго слыннага бацькі. Алесь Барскі занатаваў такую яго згадку: “Быў сярэдняга росту. Даволі моцнага складу цела. Вочы цёмныя. Меў шмат сілы. Мог дужацца з двума-трыма семінарыстамі і ўсіх перамагчы. Любіў цягацца на пальцах і рэдка каго не перамагаў (гаворачы гэта, Даніла Міцкевіч схваціў сваім сярэднім пальцам мой сярэдні палец і я пачуў, як цягне не толькі маю руку, але і ўсяго мяне). Вось бачыце, — цягнуў расказ Даніла Міцкевіч, — а мне ж семдзесят чатыры гады. Ведайце, што бацька мяне без цяжкасці перацягваў тады, калі я быў намнога мацнейшы, чым сёння”. Наколькі можна было неўпрыкмет скрасці Коласаў чамадан, калі яго вельмі дужы гаспадар сам ледзь з ім спраўляўся, сказаць немагчыма. Тым не менш супастаўленне дае глебу для ўзнікнення яшчэ аднаго пытання пра крадзеж, а адсюль — яшчэ аднаго сумнення адносна афіцыйнай, агульнапрынятай версіі пра другую рэдакцыю паэмы “Сымон-музыка”.

Нягледзячы на вобразнасць крылатага выслоўя, варта нагадаць, што рукапісы не гараць і нейкія сляды павінны былі застацца. Ці не тымі слядамі з’яўляюцца выяўленыя слынным гісторыкам В. Скалабанам дакументы пра цэнзараванне Галоўлітам недзе напрыканцы 1924 г. паэмы, пададзенай аўтарам на разгляд ужо ў перапрацаваным выглядзе? Арыгінал тэксту, які згадваецца ў дакуменце і які даў бы адказ на пастаўленае пытанне, пакуль не адшуканы. І хаця аўтары каментарыяў схіляюцца да таго, што пастанова Галоўліта па паэме “тычыцца трэцяй рэдакцыі, тэкст якой быў аддадзены Коласам, каб атрымаць дазвол на выданне твора”, узнікае пытанне, як паэт мог аддаць на разгляд у снежні 1924 г. твор, закончаны толькі ў маі ці чэрвені 1925 г., пра што ў каментарыях таксама гаворыцца.

У святле гэтай інфармацыі выкрышталізоўваецца гіпотэза, што аўтарскае рэдагаванне паэмы “Сымон-музыка” бракавалася цэнзурай як мінімум два разы (летам 1924 г. і наступнай зімой). Унясенне ў твор правак, якія задаволілі цэнзуру, урэшце было скончана Якубам Коласам летам 1925 г. — і паэму аператыўна апублікавалі. Афіцыйна за тым варыянтам замацавалася найменне трэцяй рэдакцыі — канчатковай версіі твора, дапушчанай да чытачоў.

# Урокі дабрыні і спагады

Кніга Вольгі Нікольскай з інтрыгуючай назвай “Мы — агенты Колбафир…”, выдадзеная РВУ “Літаратура і Мастацтва”, стала выдатным падарункам дзецям і дарослым.

Чытаеш аповесць-казку — і адчуваеш дабрыню, чалавечнасць і вялікую любоў аўтара да свету, асабліва да братоў нашых меншых.

Вольга Нікольская надзяляе сваіх герояў цярпеннем, кемлівасцю, уменнем знаходзіць выйсце з дапамогай сяброў са, здавалася б, бязвыхадных сітуацый. У дзівосным горадзе Н., куды пісьменніца пасяляе персанажаў, пануе атмасфера спагадлівасці, чуллівасці, узаемнага клопату. Вольга Нікольская не толькі таленавіты аўтар, але і выдатны педагог, які ненавязліва дае ўрокі дабрыні і дастойных паводзін. Яе кніга будзе карыснай і дзецям, і дарослым, асабліва тым, якія бяздумна абыходзяцца з нашымі чатырохногімі сябрамі. Бяруць іх, як забаўкі, у кватэры, а пры самых нязначных цяжкасцях выкідаюць, як непатрэбныя рэчы.



Дзецям патрэбныя не толькі кніжкі-забаўлянкі, але і праблемныя — пра жыццёвыя цяжкасці, страты, няўдачы. Галоўнае, каб яны былі напісаныя цікава, у даступнай форме, каб у іх перамагалі дабрыня і справядлівасць.

Каларытная і адначасова простая мова, прадуманы сюжэт аповесці-казкі будуць даспадобы маленькім чытачам. Аўтару не бракуе фантазіі, дзеянне развіваецца дынамічна, драматызм узмацняецца з кожным эпізодам. Выразныя ілюстрацыі выдатнага мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Сяргея Волкава настройваюць на захапляльнае прачытанне казкі Вольгі Нікольскай.

Добра было б, каб кінематаграфісты-мультыплікатары зацікавіліся яе творчасцю. Праблема бяздомных жывёл існуе і настойліва патрабуе вырашэння не толькі сродкамі закона, але і сродкамі мастацтва.

**Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ**



Іван ЖДАНОВІЧ

## Знак Бліскавіцы

### *Містэрыя слова*

*Спачатку*
*Ў бязмежным бязмежжы*
*Нічога, ахутаным змрокам,*
*Пакінула знак Бліскавіца —*
*Назвалі яе потым Словам…*
*І з цемры тае непрагляднай,*
*Апладненай сілаю Слова,*
*Стварылася Неба і зоры,*
*І ў муках бязмежна вялікіх*
*Галактыка родная наша,*
*І Сонца,*
*А потым — Зямля…*
*І доўгія тысячагоддзі*
*Планета цярпліва чакала,*
*Пакуль навучылася мора*
*Драбіць непрыступныя скалы,*
*І церці каменне ў пясок,*
*Пакуль навучалася мора*
*Быць маці й надзейнай калыскай*
*Для першых раслін і жывёл…*
*Тады толькі выйшлі няспешна*
*На ўзмор'е пясчанае сосны,*
*Калі пра далёкае Слова*
*Забылася быццам бы ўсё,*
*Што толькі вучылася думаць…*
*Спявалі тым соснам смалістым*
*Пад звон іх жывы, меднастволы,*
*Пра знак Бліскавіцы забыты*
*Хіба што лагодныя хвалі,*
*Бо ў працы не страцілі мару*
*Данесці той знак Чалавеку.*
*Ды ведалі ж лірныя сосны,*
*І ведала мудрае мора,*
*Што доўга чакаць давядзецца*
*Яго, спадкаемцу.*
*Ён будзе*
*Ўладальнікам боскага Знаку!*
*Чаканнем знясілены, сосны*
*Гублялі смалістыя слёзы —*
*Але суцяшала іх мора,*
*Бо марыла боскае слова*
*У вусны ўлажыць Чалавеку…*
*І зноў, нібы хвалі, збягалі*
*Над берагам тысячагоддзі…*
*А людзі, што ўсталі на ногі,*
*Жылі ды жылі ўсё без Слова.*
*Сышлі ўжо магутныя сосны —*
*Пары не змаглі дачакацца.*
*Бо людзі дзялілі здабычу,*
*Адзін аднаго забівалі —*
*А песень не слухалі мора*
*У клопатах пра выжыванне,*
*Пра ежу, і род, і багацце…*
*Чаго ж бо далей тут чакаці*
*Нястомнаму спеўнаму мору?..*
*Што даць ім, зняверaным людзям,*
*Што ўпоцемках сэнсу шукалі*
*Зямнога свайго існавання,*
*Крывёй напаўняючы рэкі?..*
*Забілася мора ў адчаі —*
*І рэшткай апошняй надзеі*
*Пад ногі разгубленым людзям*
*Выкідвала даўнія слёзы*
*Тых сосен, што гралі над морам,*
*Чакаючы гэтых істот…*
*Ды й тыя дзівосныя слёзы*
*Не ўразілі сэрцы людскія:*
*Не бачылі іх злыя вочы,*
*Тапталі стамлёныя ногі,*
*Ні ў чым не знаходзячы сэнсу,*
*Бо знакаў не бачылі людзі:*
*Бо людзі не ведалі Слова.*
*…Быў першы — не ведаю, хто ён,*
*Які на някідкім бурштыне*
*Працёр невыразныя знакі,*
*Напетыя морам пад сонцам,*
*Найграныя ветрам на соснах,*
*Ды ўсклікнуў: — КРАСА!!!*
*І ўспыхнула зноў Бліскавіца,*
*І мора ўздыхнула спакоем —*
*І цемра з вачэй адступіла,*
*І сэнсам завабіла далеч —*
*Бо Слова свяшчэннае ўрэшце*
*Гукнулася радасным рэхам*
*З таго, дабіблейскага часу,*
*Калі не было ані промня*
*Ў бязмежным бязмежжы Нічога…*



Вольга ШПАКЕВІЧ

## Душа-скарбонка

*У маёй душы-скарбонцы*
*Назбіралася за век*
*Столькі неба, столькі сонца*
*Столькі чысціні ад рэк!*

*Там цвітуць сады і кветкі*
*І гудуць-пяюць лясы,*
*Золатам паўсцяж палеткі*
*Наліваюць каласы.*

*А ўжо колькі тых азёраў*
*Пасялілася ў душы,*
*Што збіраюць ноччу зоры*
*У глыбокія каўшы.*

*А на самым дне скарбонкі*
*Для вяселля і для ўцех*
*Столькі песень, песень звонкіх,*
*Што ірвуцца узляцець!*

*І яшчэ любові звонку*
*Да ўсяго, што тут жыве,*
*У сваю душу-скарбонку*
*Я наскладвала за век.*

## Званок

*Нібы ластаўка першая весняя,*
*Нібы гром сярод лютай зімы,*
*Пазваніў ты — і радаснай песняю*
*Кожны міг, кожны дзень мой звініць.*

*Ці сустрэчу ўспомніў ты даўнюю,*
*Ці расстання гаркавы дымок?*
*Ну, чаму ж маю долю нядалую*
*Не схацеў ты зыначыць, не змог?*

*Кожны дзень, кожны міг — у чаканні я,*
*А ў грудзях — ні маны, ні хлусні.*
*Ты пачуй мае словы адчайныя*
*І яшчэ хоць разок пазвані.*

## Палеская паводка

*А на Палессі зноў паводка:*
*Пайшла вада ва ўсе канцы,*
*І вечарамі ў лёгкіх лодках*
*Плывуць дзяўчаты і хлапцы,*

*І неба зноў купае зоры*
*У ледзяной пакуль вадзе,*
*І месяц сцежку срэбрам торыць*
*І ўслед за лодкамі ідзе.*

*Вярба свае пупышкі поіць,*
*Прачнецца першаю ад сну,*
*Нядзелькай вербнаю святою*
*Па хатах разнясе вясну.*

*А на Палессі зноў паводка:*
*Зямля ўмываецца вадой.*
*Палессе! Я хоць і далёка,*
*Але душой заўжды з табой!*

## Сум па радзіме

*Я даўно не была на Палессі,*
*На радзіме далёкай сваёй:*
*У чарнічна-грыбным нашым лесе,*
*Над вірліваю Сцвігай-ракой.*

*Не была я даўно на Палессі.*
*Я з душою знямелай, пакуль*
*Не пачую жаночыя песні*
*І крынічную мову бабуль.*

*Без радзімы — мне свет*
*увесь цесны…*
*Помню, ў лодцы з каханым плыла…*
*Я даўно не была на Палессі:*
*Сумавала, хоць неяк жыла.*

## Я — жанчына

*Я — жанчына,*
*я ведаю словы,*
*Што ў сэрцы тваім прарастуць.*
*Я падслухала ў лесе вясновым,*
*У вянок іх чароўны ўпляту.*

*Я пазычыла ў неба блакіту*
*І адцення ў палескай ракі,*
*У чарніц, спелым сокам налітых,*
*Каб пагляд быў глыбокі такі.*

*Яснасць дзень дакляруе зімовы,*
*Восень дрэвам прычоскі ўзаб'е.*
*Ад бабулі я знаю замовы,*
*Што каханне варожаць табе.*

*Я спякоты набралася ў лета,*
*Чысціні — у цнатлівых бяроз.*
*Я, жанчына,*
*сатканa з сакрэтаў,*
*Але ў іх мая сутнасць і лёс.*



Фота Раісы Марчук



Дар'я ЛЁСАВА

## І — птушкаю над шчасцем, да Белае Русі!..

***

*Мае сябры, аблокі!*
*Мае сябры, вятры!*
*А Ты адзін, далёкі,*
*Мяне ці чуеш Ты?*
*Не ведаю, адкуль я…*
*Не ведаю, за чым…*
*І ў песні ёсць пакулле,*
*Ёсць жар у ёй і дым.*
*Балюча адчуваю,*
*Што я — не як усе…*
*І хочацца мне раю,*
*Святлістасці ў расе.*
*Пад яблынькай упасці*
*І яблык надкусіць…*
*І — птушкаю над шчасцем,*
*Да Белае Русі!*

***

*О, гэта не прыдумаць!*
*Такая я — як ёсць!*
*У песні, самай сумнай, —*
*Бярозка-маладосць.*
*Далёкі мой таварыш,*
*Мой цёплы друг і брат!*
*Са мной сустрэцца марыш?*
*Прыходзь у райскі сад!*
*О, хопіць месца сэрцу*
*Твайму каля мяне!*
*Хай хтосьці чужы смяецца,*
*А за мяне радней*
*Не знойдзеш анікога*
*Ты, колькі б ні шукаў!*
*Ты будзеш мне за Бога*
*Каля жытоў і траў.*
*Адна на свеце казка*
*Пра шчасце і бяду.*
*Зноў зорнай станеш краскай,*
*Якую не знайду…*

***

*Я так няправільна жыву,*
*Я так няправільна рыдаю!*
*Я так няправільна заву*
*Цябе сярод нарцысаў маю!*
*Бясконца бегаю туды,*
*Дзе не знайсці нічога.*
*І не хапае мне вады,*
*І нестае мне Бога.*
*Дарога белая — палын,*
*Дарога, як душа, — сівая.*
*Ды жураўліны ў небе клін*
*Мяне гукае!*

***

*Нябедная я, нябедная,*
*Хоць няма й халадзільніка…*
*Я — над Зямлёй, з другам Ветрам я,*
*Над мілай Радзімаю.*

*Ратую яе ад спёкі,*
*Ратую яе ад смагі.*
*Ратую й Цябе, далёкі,*
*Сваёю адвагай!*

*Нічога няма бясследнага!*
*І на душы калі шрамы,*
*Далёкі, успомні светлае,*
*Гукні сваю Маму!*

*Больш не скажу нічога.*
*Добра мне — у нябёсах.*
*Толькі адна трывога:*
*Мамачка, вытры слёзы!..*

# Купала і Колас: дарога да праўдзівых біяграфій

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь прайшла прэзентацыя кнігі дакументаў і матэрыялаў "Купала і Колас, вы нас гадавалі".

**Мікола БЕРЛЕЖ**

Творчы праект, які складаецца з трох тамоў, пачалі выдаваць у 2010 годзе. Першая частка другой кнігі пабачыла свет у 2011-м. Сёлета айчынныя архівісты сумесна з рэдакцыйна-выдавецкай установай "Літаратура і Мастацтва" завяршылі працу над выданнем зборніка архіўных матэрыялаў, прысвечаных класікам, звязаных з іх творчасцю, грамадскай дзейнасцю, паўсядзённым жыццём.

Прэзентацыя выдання зусім не стала падсумоўваннем той шматаблічнай працы, якую вялі па збору дакументаў архівісты не толькі Беларусі, але і Расіі. На фоне ацэнкі здзейсненага болей гаварылася пра магчымасці і перспектывы. У кнігі — два ўкладальнікі: Віталь Уладзіміравіч Скалабан (у жніўні 2011 года ён пайшоў з жыцця) і Вячаслаў Дзмітрыевіч Селяменеў. Два руплівыя архівісты, дзякуючы пошукавым і арганізацыйным высілкам якіх купалазнаўства і коласазнаўства набыло новы, трывалы грунт. Ды і не толькі купалазнаўства і коласазнаўства, а і ўвогуле гісторыя беларускай літаратуры. Выдатна, што сустрэча чытача з унікальным зборнікам супала з выданнем новых поўных збораў твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Ёсць магчымасць параўноўваць, звяраць, удакладняць. Відаць, невыпадкова і тое, што выдадзеныя масавым тыражом (амаль што роўным тыражу Збору твораў Якуба Коласа) тамы "Купала і Колас, вы нас гадавалі" дастаткова хутка разыходзяцца з выдавецтва і кнігарняў.

Праграмным для архівістаў краіны можна назваць выступленне на прэзентацыі дырэктара Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі краіны, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Адамушкі. Ён нагадаў праекты гэтага года, у якіх прадстаўніча выкладзены новыя знаходкі шукальнікаў гістарычнай праўды. І сярод іх — зборнік дакументаў па "беларускай гісторыі" Айчыннай вайны 1812 года, які, дарэчы, меў шырокі розгалас і ў Расіі, сярод расійскіх навукоўцаў. Гаворачы пра кнігу,



дзеля якой сабраліся прысутныя, Уладзімір Іванавіч адзначыў асаблівую ролю ў яе збіранні супрацоўнікаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва на чале з Ганнай Вячаславаўнай Запартыкай. Многія з яе калег і раней старанна вышуквалі купалаўскія і коласаўскія дакументы. Цяпер зробленае імі стала вартай асновай зборнікаў.

Эмацыянальную нотку, душэўны успамін прыўнёс завочны ўдзел у прэзентацыі члена-карэспандэнта Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі Міхася Мушынскага. Не здолеўшы прысутнічаць у зале архіва, ён перадаў ліст — шчымлівы, напоўнены болем і надзеямі на вечную памяць пра энцыклапедыста, архівіста Віталя Скалабана. Калі выконваючы абавязкі дырэктара архіва Мікалай Рудакоўскі зачытваў радкі, напісаныя шаноўным літаратуразнаўцам, перад вачыма ў многіх паўставаў жыццерадасны, заўжды энергічны Віталь Уладзіміравіч Скалабан. Чалавек пайшоў з жыцця, а засталіся не толькі зробленыя, укладзеныя ім кнігі, а яшчэ і мноства ідэй, праектаў, якія рэалізоўваць ужо будуць яго наступнікі. Нацыянальны архіў — гэта ўнікальная скарбонка чалавечай памяці, люстэрка рэчаіснасці на працягу значнага адрэзка часу. І, відавочна, кнігі, зборнікі, газетныя і часопісныя публікацыі дакументаў пра мінулае і часам забытае — важкі клопат архівістаў і выдаўцоў. Рэзананс, які выклікаў трохтомнік "Купала і Колас, вы нас гадавалі", — добрае таму пацвярджэнне.

З расповедаў, як пачыналася работа над падрыхтоўкай і выданнем трохтомніка "Купала і Колас, вы нас гадавалі", якімі былі першыя крокі архіва і выдавецтва, якую падтрымку аказала рэалізацыі гэтай справы Міністэрства інфармацыі краіны, выступіў выконваючы абавязкі дырэктара — галоўнага рэдактара РВУ "Выдавецкі дом «Звязда»" Алесь Карлюкевіч. Заначыў ён і тое, што архівістамі краіны падрыхтаваны і шэраг іншых адметных праектаў, якія ў хуткім часе будуць увасоблены ў жыццё. А гэта — і апісанне бібліятэкі колішняга кіраўніка Беларусі Панцеляймона Кандратавіча Панамарэнкі (дарэчы, таксама гэтую працу ініцыраваў і кіраваў ёю Віталь Уладзіміравіч Скалабан), і летапіс Дукорскай праваслаўнай царквы (супрацоўнік БДАМЛІМ У. Кулажанка знайшоў яго ў фондзе сумна вядомага Л. Бэндэ), а таксама кнігі архівістаў Ганны Запартыкі і Міхася Шумейкі. Будзем спадзявацца, што і гэтыя выданні прыйдуць да чытача, будуць мець шырокі розгалас.

## У падтрымку чытання



Фота Кастуся Дробава

**Пісьменнік Леанід ЛЕВАНОВІЧ:**

# Бохан хлеба — і кніга

У нашай хаце, якую бацька збудаваў пасля вайны, — ранейшую спалілі немцы, — не было ніводнай кнігі. Маці мая абсалютна непісьменная, бацька скончыў тры класы царкоўна-прыходскай школы. Сям'я вялікая, абуць, адзець, пракарміць дзяцей, заплаціць падаткі — бацькам было не да кнігі. А ўва мне з самага маленства жыла вялікая прага чытання.

Як цяпер памятаю: моцнае ўражанне ад кнігі Янкі Маўра "У краіне райскай птушкі". Потым старэйшая сястра Параска, якая працавала ў бальніцы, набыла "Повесть о настоящем человеке" Барыса Палявога. Дарэчы, каштавала кніга сем рублёў. Я "праглынуў" твор за некалькі дзён. І ўсё запомніў. Улетку, калі мы, вясковая дзятва, пасвілі цялят, я апавядаў пра лётчыка Аляксея Мярэсьева. Сябрукі слухалі разявіўшы раты, а цяляты вольна пасвіліся на забароненай сенажаці.

Чытаў я і старыя газеты, якімі былі абклеены сцены хаты. Ведаў усіх журналістаў і аўтараў "Звязды", "Калгаснай праўды", "Социалистического земледелия". Ставіў табурэт і чытаў усё падрад. Асабліва любіў фельетоны, зайздросціў кандыдатам філасофскіх навук — іхнія артыкулы былі самыя доўгія. На жаль, фельетоны амаль зніклі са старонак газет, як і нарысы, замалёўкі.

Што чытаю цяпер? Нядаўна закончыў магутны двухтомны раман рускага савецкага класіка Леаніда Лявонава "Піраміда". З многімі творамі знаёмлюся ў часопісах. Атрымаў чытацкую асалоду ад рамана Зінаіды Дудзюк "Слодыч і атрута", аповесці Уладзіміра Гаўрыловіча "Анёлак мой, анёлак" (надрукавана ў "Полымі"). А ў "Нёмане" ўразіў і ўзрадаваў Валерый Казакоў аповесцю "Под мерный скрип невидимых колёс". Які каларытны, эмацыянальны і паэтычны твор! Назвы раздзелаў гавораць самі за сябе: "Сенокос", "Самогонка", "По чернику", "Лазьня" — так, менавіта з мяккім знакам! Чытаеш, нібыта напісана па-руску, а рэаліі ўсе нашы, родныя, і ў падтэксце невынішчальны беларускі дух. Чавускі раён, адкуль родам аўтар, недалёка ад маёй Касцюкоўшчыны, таму я чытаў аповесць і быццам падарожнічаў па сваёй вёсцы, якой, на жаль, ужо няма — знішчыў Чарнобыль.

Некалі мудры француз Дэні Дзідро зазначыў, што калі народ перастае чытаць, ён перастае думаць. І гэта праўда. Таму вельмі важна, што сёлетні год аб'яўлены Годам кнігі, годам чытання.

Хачу пажадаць чытачам "ЛіМа", дый усім беларусам, каб на стале былі заўсёды бохан хлеба — і кніга.

## Прэзентацыя

# «Я буду маліцца за роднае слова…»

Гэты радок паэтэсы Іны Фраловай стаў лейтматывам творчага вечара "Шчасце зямное", што адбыўся ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.

**Вольга НОРЫНА**

Нагод для імпрэзы было шмат. На пачатку года Іна Мікалаеўна атрымала членскі білет Саюза пісьменнікаў Беларусі і ўвосень добра падрыхтавалася да творчай справаздачы. Убачыў свет зборнік вершаў "Там у светлых барах", рэдактарам і аўтарам прадмовы да якога з'явіўся Віктар Шніп. Сёлета на старонках часопіса "Маладосць" адзначыліся і выхаванцы І. Фраловай: па даручэнні СПБ яна кіруе студыяй "Маліна-ўскія галасы" пры дзіцячай бібліятэцы № 15 у мінскім мікраёне Малінаўка. Падзяка за гэта супрацоўніцтва прагучала ад загадчыцы бібліятэкі Алы Аўласенкі. У спіс спраў гэтага года ўвайшлі і выступленні ў Польшчы: Іна Фралова — удзельніца фальклорнага гурта "Вербіца" Палаца культуры МТЗ пад кіраўніцтвам Алеся Свірскага. Актыўны яе ўдзел у мерапрыемствах СПБ быў адзначаны ганаровай граматай, якую ўручыў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. "Няма паэта, калі ў яго радках няма болю за чалавека, за Радзіму, — упэўнены Міхась Паўлавіч. — У паэтэсы Іны Фраловай усё гэта ёсць". Не прамінуў М. Пазнякоў нагадаць, што галоўная гераіня імпрэзы — маці траіх дзяцей і нядаўна адзначыла юбілей.

Шмат добрых слоў сказалі пра творчасць і асобу І. Фраловай і тыя, хто блаславіў яе першыя крокі на паэтычным шляху — Мікола Шабовіч, кандыдат філалагічных навук, дацэнт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка, выпускніцай факультэта дашкольнага выхавання якога з'яўляецца Іна, і галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Віктар Шніп, які быў рэдактарам і яе дэбютнага зборніка 2011 года "Чакаю першы снег".

Паэзія І. Фраловай — адкрытая, пранікнёная, па-жыццёваму глыбокая — гучала ў выкананні аўтара і салісткі гурта "Вербіца" Жанны Швец (на музыку словы Іны Фраловай паклаў Анатоль Міхальчэнкаў). Прэм'ерай песні-малітвы, прысвечанай вёсачцы Шыпкі, сосны ля якой, упэўнена паэтэса, трымаюць неба, парадаваў Дзмітрый Пятровіч.

Яшчэ адзін з безумоўных талентаў І. Фраловай — уменне сябраваць. Доказам таму сталі віншаванні кіраўніка польскага гурта "Кантус кордзіс" Яніны Хвалько і песні Зміцера Усціна-ва; музычны падарунак цымбалісткі Таццяны Краснабаевай, выступленне Зміцера Дземідовіча, які прысвяціў Іне жартоўны верш "Граблі" па матывах нядаўняга суботніка СПБ.

Вядучая Наталія Касцючэнка і Іна Фралова пабудавалі вечарыну як шчыры сяброўскі дыялог пра тое, з чаго ж складаецца зямное шчасце. І наўрад ці нехта стане спрачацца з Інай, што шчаслівы — той, чыё сэрца належыць Радзіме. І радкі, народжаныя гэтай любоўю, пачуты светам.

**Баранова, Л. И.** Внеклассные занятия по воспитанию нравственной культуры младших школьников: [о культуре поведения, о правилах общения, о нравственных качествах, о духовном мире] / Л. И. Баранова. — 2-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 182 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-520-587-7.

**Барыс, С. В.** Адзінкі вымярэнняў: даўнія і сучасныя: даведнік для настаўнікаў і вучняў / С. В. Барыс. — Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2012. — 239 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-471-476-9.

**Беларуская мова**: навучальныя і кантрольныя пераказы: 5–9-я класы: дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / [Г. М. Валочка і інш.]; Нацыянальны інстытут адукацыі. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 219 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-0234-3.

**Вучэбная праграма абавязковага факультатыўнага курса для ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання** / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2012–

Асновы бяспекі жыццядзейнасці: 2–9-я класы. — 2012. — 43 с. — 3600 экз. — ISBN 978-985-559-088-1.

**Вучэбная праграма для класаў з вывучэннем мовы нацыянальнай меншасці і класаў з навучаннем на мове нацыянальнай меншасці ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі (вучэбны прадмет "Літаратура нацыянальнай меншасці")** / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2010–

Польская літаратура: 1–11-я класы. — 2012. — 89 с. — Частка тэксту на польскай мове. — 110 экз. — ISBN 978-985-559-123-9.

**Вучэбная праграма для ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання** / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2010–

Беларуская літаратура: 5–11-я класы. — 2012. — 125 с. — 7200 экз. — ISBN 978-985-559-121-5.

**Галузо, И. В.** Астрономия : контрольные и самостоятельные работы: 11-й класс: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / И. В. Галузо, В. А. Голубев, А. А. Шимбалев. — Минск: Аверсэв, 2012. — 96 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-19-0057-8.

**Груша, М. Ю.** Беларуская мова: 4-ты клас: чароўны сшытак: [для настаўнікаў] / М. Ю. Груша, І. Ц. Сухаверава. — 6-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 95 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-19-0313-5.

**Изучаем и исследуем природу**: учебно-методическое пособие к полевой практике и модульная программа по изучению природы для учреждений дополнительного образования и внеклассной работы учащихся общеобразовательных учреждений / Министерство природных ресурсов и охраны окружающей среды Республики Беларусь, Министерство образования Республики Беларусь, Учреждение образования «Республиканский экологический центр детей и юношества»; [составители: Л. С. Чумаков, А. Е. Ковалева, Т. А. Рысенкова]. — Минск: БГАТУ, 2012. — 106 с. — 115 экз. — ISBN 978-985-519-472-0.

**Карань, Л. В.** Английский язык: 3–11-е классы: примерное календарно-тематическое планирование: пособие для учителей учреждений общего среднего образования: [2012/2013 учебный год / Карань Лариса Викторовна]; Министерство образования Республики Беларусь. — Минск: Национальный институт образования: Аверсэв, 2012. — 144 с. — 4100 экз. — ISBN 978-985-559-114-7 (Национальный институт образования). — ISBN 978-985-19-0166-7 (Аверсэв).

**Карпушин, С. В.** Литературная классика на экране / С. В. Карпушин, В. И. Самусенко; Государственное учреждение образования «Минский областной институт развития образования». — Минск: МОИРО, 2012. — 150 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7049-06-6.

**Ковалевская, А. В.** Поговори со мной: книга для родителей и детей / [А. В. Ковалевская, Е. М. Коврова]; Общественное объединение «Здоровый выбор». — Минск: В.И.З.А. ГРУПП, 2012. — 116 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-6834-43-4.

**Косаревская, Т. П.** Проверяем домашние задания. Математика: 6-й класс: к учебному пособию «Математика. 6» авторов Е. П. Кузнецова [и др.] под ред. Л. Б. Шнепермана, 2010 / Т. П. Косаревская. — 3-е изд. — Минск: Сэр-Вит, 2012. — 183 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-419-645-9.

**Математика**: 6-й [класс]: самостоятельные и контрольные работы: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с русским языком обучения: [в 2 кн.]: в 4 вариантах / [Е. П. Кузнецова и др.]. — 3-е изд. — Минск: Аверсэв, 2012.

Кн. 2: 3, 4 варианты. — 2012. — 141 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-19-0332-6.

**Математика**: контрольные и самостоятельные работы: 5–9-е классы: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / [Т. А. Адамович и др.]; Национальный институт образования. — Минск: Аверсэв, 2012. — 141 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-0059-2.

**Математика**: курс начальной школы в таблицах: [новая редакция / составитель Канашевич Татьяна Николаевна]. — 5-е изд. — Минск: Букмастер: Кузьма, 2012. — 112 с. — 10050 экз. — ISBN 978-985-549-264-2 (Букмастер). — ISBN 978-985-453-553-1 (Кузьма).

**Методика преподавания русского языка и литературного чтения**: методические рекомендации для студентов учреждений высшего образования педагогических специальностей: в 4 ч. / Министерство образования Республики Беларусь, Барановичский государственный университет; [составитель Ж. А. Головко]. — Барановичи: БарГУ, 2012–

Ч. 1: Состав слова. Грамматика. Орфография. — 2012. — 61 с. — 130 экз.

**Методические рекомендации по подготовке учащихся к олимпиадам в профильных сменах летних оздоровительных лагерей Минской области** / [под общей редакцией Е. А. Сокол]; Государственное учреждение образования «Минский областной институт развития образования». — Минск: МОИРО, 2012. — 47 с. — Часть текста на белорусском языке. — 150 экз. — ISBN 978-985-7049-05-9.

**Нестандартные уроки по математике**: 5–7-е классы: пособие для учителей учреждений общего среднего образования / [Т. А. Богдашич и др.]. — 3-е изд., переработанное. — Мозырь: Белый Ветер, 2012. — 126 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-538-700-9.

**Планы-канспекты ўрокаў па беларускай мове**: 9-ты клас: дапаможнік для настаўнікаў агульнаадукацыйных устаноў. — 3-е выд. — Мазыр: Белы Вецер, 2012.

1-е паўгоддзе / [М. М. Аляксеева і інш.]. — 2012. — 79 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-538-725-2.

**Практические задания для учащихся к урокам обществоведения** / Государственное учреждение образования «Минский областной институт развития образования»; [составители: С. М. Апанасевич и др.; под общей редакцией Н. А. Демидовой]. — Минск: МОИРО, 2012. — 158 с. — 520 экз. — ISBN 978-985-7049-02-8.

**Прастора ўрока – прастора здароўя: арганізацыя здароўезберагальнага асяроддзя на ўроках беларускай мовы і літаратуры**: (з вопыту работы) / Дзяржаўная ўстанова адукацыі "Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі"; [складальнік: І. А. Серадзінская]. — Мінск: МАІРА, 2012. — 84 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7049-07-3.

**Рубан, Т. Т.** Эффективные формы организации совместной деятельности детей и взрослых в начальной школе: (из опыта работы) / Т. Т. Рубан, И. П. Рабец; [под общей редакцией Т. А. Неборской]; Государственное учреждение образования «Минский областной институт развития образования». — Минск: МОИРО, 2012. — 78 с. — Часть текста на белорусском языке. — 300 экз. — ISBN 978-985-7049-01-1.

**Семья и школа. Современные подходы к взаимодействию** / Государственное учреждение образования «Минский областной институт развития образования»; [составители: Н. В. Кравцова, Е. В. Филиппович, И. Н. Фираго]. — Минск: МОИРО, 2012. — 98 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7049-03-5.

**Тиринова, О. И.** Введение в школьную жизнь: учебно-методическое пособие для учителей учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / О. И. Тиринова. — Минск: Аверсэв, 2012. — 327 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-19-0140-7.

**Учебная программа для классов с изучением языка национального меньшинства и классов с обучением на языке национального меньшинства в учреждениях общего среднего образования (учебный предмет «Язык национального меньшинства»)** / Министерство образования Республики Беларусь. — Минск: Национальный институт образования, 2010–

Польский язык: 1–11-е классы. — 2012. — 62 с. — 140 экз. — ISBN 978-985-559-067-6.

**Учебная программа для учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения** / Министерство образования Республики Беларусь. — Минск: Национальный институт образования, 2008–

Русская литература: 5–11-е классы. — 2012. — 117 с. — 7500 экз. — ISBN 978-985-559-033-1.

**Цірынава, В. І.** Уводзіны ў школьнае жыццё = Введение в школьную жизнь: вучэбны дапаможнік для 1-га класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / В. І. Цірынава. — 2-е выд. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2012. — 63 с. — 93820 экз. — ISBN 978-985-559-054-6.

**Цыбульская, С. І.** Беларуская мова: 5–11-я класы: кантрольныя работы: дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / С. І. Цыбульская. — 6-е выд. — Мінск: Сэр-Вит, 2012. — 176 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-419-639-8.

### Пазашкольная агульная адукацыя. Самаадукацыя

**Европейский опыт признания профессиональных квалификаций, полученных в результате неформального и спонтанного обучения** / Министерство образования Республики Беларусь, Республиканский институт профессионального образования; [авторы-составители: О. В. Дехтяренко и др.]; под редакцией Э. М. Калицкого. — 2-е изд., стереотипное. — Минск: РИПО, 2012. — 138 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-503-224-4.

**Современные тенденции развития дополнительного образования взрослых**: материалы научно-методической конференции, 3 мая 2012 г.: [к 50-летию создания системы повышения квалификации и переподготовки в Белорусском национальном техническом университете / редколлегия: Б. М. Хрусталев и др.]. — Минск: БНТУ, 2012. — 127 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-550-009-5.

### Выхаванне, адукацыя і навучанне спецыяльных груп асоб. Спецыяльныя школы

**Бумаженко, Н. И.** Управление образованием лиц с ограниченными возможностями: практическое пособие: [для студентов] / Н. И. Бумаженко. — Витебск: ВГУ, 2012. — 138 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-517-348-0.

**Крупинская, Е. И.** С любовью и верой – к успеху: (из опыта работы логопеда) / Е. Крупинская. — Минск: Паркус плюс, 2011. — 19 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-90192-4-1.

**Медведская, Е. И.** Гиперактивные дети: механизмы коррекции поведения / Е. И. Медведская; под общей редакцией М. П. Осиповой; Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина. — Брест: БрГУ, 2012. — 102 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-473-862-8.

**Основные показатели развития системы специального образования в Республике Беларусь, 1995–2011 годы** / Министерство образования Республики Беларусь, Главный информационно-аналитический центр; [составитель: Санжаровская Н. М.]. — Минск: ГИАЦ Министерства образования Республики Беларусь, 2012. — 107 с. — 64 экз.

**Спецыяльныя агульнаадукацыйныя і дапаможныя школы і школы-інтэрнаты для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця Рэспублікі Беларусь**: па стану на пачатак 2011/2012 навучальнага года: (статыстычны даведнік) / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Галоўны інфармацыйна-аналітычны цэнтр. — Мінск: ГІАЦ Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, 2012. — 103 с. — 35 экз.

### Прафесійная адукацыя. Прафесійныя каледжы. Палітэхнікумы

**Барановская, С. М.** Учебная литература для учреждений профессионально-технического и среднего специального образования: методические рекомендации в помощь авторам / С. М. Барановская; Министерство образования Республики Беларусь, Республиканский институт профессионального образования. — 5-е изд., стереотипное. — Минск: РИПО, 2012. — 27 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-503-222-0.

**Инженерно-педагогическое образование: проблемы и пути развития**: материалы международной научно-практической конференции, Минск, 17–18 мая 2012 г.: в 2 ч. / под общей редакцией С. Н. Анкуды. — Минск: МГВРК, 2012. — ISBN 978-985-526-144-6.

Ч. 1. — 123 с. — Часть текста на английском и белорусском языках. — 80 экз. — ISBN 978-985-526-145-3.

Ч. 2. — 157 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-526-146-0.

**Калицкий, Э. М.** Профессионально-техническое образование Республики Беларусь в контексте мировых тенденций: монография / Э. М. Калицкий, Н. Е. Потапенко, О. Н. Синельникова. — Минск: РИПО, 2012. — 155 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-503-195-7.

**Психологическое сопровождение образовательного процесса**: сборник научных статей / [редколлегия: О. С. Попова (отв. редактор) и др.]. — Минск: РИПО, 2011–

Вып. 2. — 2012. — 260 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — 100 экз. — ISBN 978-985-503-212-1.

**Установы адукацыі Рэспублікі Беларусь, якія рэалізуюць адукацыйныя праграмы прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі**: па стану на пачатак 2011/2012 навучальнага года : (статыстычны даведнік) / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Галоўны інфармацыйна-аналітычны цэнтр. — Мінск: ГІАЦ Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, 2011. — 104 с. — 50 экз.

**Шкляр, А. Х.** Учебно-методические комплексы в профессионально-техническом образовании: теоретические основы и проектирование: монография / А. Х. Шкляр, С. М. Барановская. — 4-е изд., стереотипное. — Минск: РИПО, 2012. — 66 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-503-223-7.

### Вышэйшая адукацыя. Універсітэты. Акадэмічнае навучанне

**Высшее образование Республики Беларусь: информационное и нормативно-методическое обеспечение приема в учреждения высшего образования в 2012 году**: справочник / Министерство образования Республики Беларусь, Государственное учреждение образования «Республиканский институт высшей школы»; [составители: С. В. Мирошникова и др.]. — Минск: РИВШ, 2012. — 177 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-500-548-4.

**Дзяржава і творчая асоба**: II Рэспубліканская навукова-тэарэтычная канферэнцыя, 4 лістапада 2011 г. / [рэдкалегія: Вінакурава С. П. (старшыня) і інш.]. — Мінск: БДАМ, 2012. — 251 с. — 60 экз.

**Жлоба, С. П.** Полевые этнографические исследования: учебно-методическое пособие для студентов исторических специальностей университета / С. П. Жлоба, И. С. Чернякевич; [научный редактор К. К. Красовский]; Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина. — Брест: БрГУ, 2012. — 235 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-473-854-3.

**Зарубежное научное сотрудничество: опыт и возможности аграрных вузов**: материалы международной научной конференции, 17–18 мая 2012 г. / [под общей редакцией Н. В. Казаровца]. — Минск: БГАТУ, 2012. — 164 с. — Часть текста на английском языке. — 60 экз. — ISBN 978-985-519-465-2.

**Канцавая, Г. М.** Дыпломныя і курсавыя работы па мове: метадычныя рэкамендацыі для студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі / Г. М. Канцавая, В. М. Шавель; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Баранавіцкі дзяржаўны ўніверсітэт. — Баранавічы: БарДУ, 2012. — 58 с. — 50 экз.

**Конкурс «Лучшая дипломная и научно-исследовательская работа студентов в области менеджмента и контроля качества»**: (сборник документов) / Государственный комитет по стандартизации Республики Беларусь. — Минск: Белорусский государственный институт стандартизации и сертификации, 2012. — 18 с. — 10 экз.

**Крытэрыі ацэнкі ведаў абітурыентаў, паступаючых ва ўстанову адукацыі «Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў» у 2012 годзе** / Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў; [агульная рэдакцыя – Л. Ф. Голікаква]. — Мінск: БДУКМ, 2012. — 95 с. — 100 экз.

**Организация и проведение производственной (экономико-управленческой) практики**: пособие для студентов специальности 1-26 02 01 «Бизнес-администрирование» / [В. В. Самойлюкович и др.]; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский национальный технический универстет, Кафедра «Основы бизнеса». — Минск: БНТУ, 2012. — 94 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-525-905-4.

**Организация образовательного процесса**: информационно-методический сборник / Министерство внутренних дел Республики Беларусь, Академия Министерства внутренних дел Республики Беларусь. — Минск: Академия МВД Республики Беларусь, 2007–

№ 8 / [редколлегия: А. Л. Савенок и др.]. — 2012. — 88 с. — 75 экз.

**Организация работы органов студенческого самоуправления в учреждении образования «Белорусский торгово-экономический университет потребительской кооперации»**: учебно-методическое пособие для студенческого актива, кураторов студенческих групп, воспитателей / Белкоопсоюз, Белорусский торгово-экономический университет потребительской кооперации, Отдел идеологической и воспитательной работы с молодежью; [авторы-составители: В. Ф. Колесникова, И. А. Андрейчик]. — Гомель: БТЭУПК, 2012. — 40 с. — 70 экз. — ISBN 978-985-461-958-3.

**Планирование идеологической и воспитательной работы в БГУИР на 2011/2012 учебный год**: сборник методических материалов / Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники, Управление воспитательной работы с молодежью. — Минск: БГУИР, 2012. — 163 с. — 25 экз. — ISBN 978-985-488-872-9.

**Подготовка учителя начальных классов: проблемы и перспективы**: материалы II Международной научно-практической конференции, г. Минск, 24 ноября 2011 г. / [редколлегия: Н. В. Жданович и др.]. — Минск: БГПУ, 2012. — 387 с. — Часть текста на белорусском языке. — 120 экз. — ISBN 978-985-541-067-7.

**Правила приема в высшие учебные заведения**: [утверждено Указом Президента Республики Беларусь 07.02.2006 № 80] / Министерство образования Республики Беларусь. — Минск: БГУИР, 2012. — 25 с. — 26 экз.

**Профессионально ориентированное обучение межкультурной коммуникации: вопросы теории и практики**: сборник научных статей / [редколлегия: М. Г. Богова, Т. В. Бусел, Н. П. Грицкевич]. — Минск: РИВШ, 2012. — 170 с. — Часть текста на английском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-500-547-7.

**Профессорско-преподавательский состав учреждений высшего образования Республики Беларусь**: по состоянию на конец 2011 г.: (статистический справочник) / Министерство образования Республики Беларусь, Главный информационно-аналитический центр. — Минск: ГИАЦ Министерства образования Республики Беларусь, 2012. — 135 с. — 12 экз.

**Рекламные технологии**: пособие по выполнению курсовых работ для студентов специальности 1-26 02 03 «Маркетинг» специализации 1-26 02 03 01 «Рекламная деятельность» / Белкоопсоюз, Белорусский торгово-экономический университет потребительской кооперации, Кафедра маркетинга; [авторы-составители: Т. Н. Байбардина и др.]. — Гомель: БТЭУПК, 2012. — 87 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-461-962-0.

Унікальны праект

# Загадкавыя і таямнічыя

З задавальненнем паведамляю, што выданні серыі “Славутыя мастакі з Беларусі”, распачатай у гэтым годзе, карыстаюцца попытам: першую кнігу “Іван Хруцкі” ўжо перавыдалі, другі яе тыраж з палічак кнігарань разабраны. Наступная кніга серыі — “Станіслаў Жукоўскі”, тэкст якой і ўкладанне належаць аўтару ідэі, каардынатару праекта, генеральнаму дырэктару Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзіміру Пракапцову. Выданне змяшчае на сваіх старонках рэпрадукцыі твораў не толькі з калекцыі беларускай скарбонкі мастацтва, але і з Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі і Яраслаўскага мастацкага музея.


“Веранда”. 1911.

## “ЗАГАДКАВАСЦЬ І ТАЯМНІЦА ТВОРАЎ”

Лёс сусветна вядомага мастака пачынаецца пад дэвізам “насуперак”. Любоў да музыкі, паэзіі і малявання, прывітую яму маці Марыяй Вяржбіцкай, дваранкай родам з Варшавы, што атрымала адукацыю ў Парыжы, бацька Станіслава не ўхваляў. Юльян Жукоўскі, у якога пасля паўстання 1863 года царскія ўлады канфіскавалі ўсю маёмасць, пазбавілі саслоўных правоў і прывілеяў, а двух братоў адправілі ў Сібір на катаргу, намагаўся даць сынам такую адукацыю, што прыносіла б “кавалак хлеба”. Малодшаму прадвызначаў прафесію лесніка ці агранома і аддаў у беластоцкае рэальнае вучылішча. Але там Станіславу было наканавана сустрэцца з настаўнікам С. Южаніным. Дзякуючы яго дапамозе будучы мастак не толькі асвоіў асновы пейзажнага жывапісу, але і паступіў у Маскоўскае вучылішча жывапісу, ваяння і дойлідства — употай ад бацькі і без яго дапамогі. Для гэтага давялося прыпісаць сабе два гады. Каб аплаціць заняткі ў якасці вольнага слухача, пражыванне ў інтэрнаце, пракарміцца, ён вымушаны працаваць няспынна, каб на выручаныя ад продажу пейзажаў сродкі мець магчымасць выжыць у Маскве… Яго настаўнікі — С. Каровін, М. Касаткін, А. Архіпаў, В. Паленаў, пазней да гэтага шэрагу далучыцца І. Левітан, аднакурснік В. К. Бялыніцкі-Біруля. Дапытлівасць, жаданне і руплівая праца — і хутка яго творы набудуць “загадкавасць і таямніцу”, адзначаную калекцыянерамі і даследчыкамі. Праз год заняткаў, на першай вучнёўскай выстаўцы, ён экспануе 13 карцін, для якіх спатрэбілася чатыры залы.

## НА ТЭМУ МАЁНТКАЎ І ПАЛАЦАЎ

Жукоўскі прыехаў у Маскву ў 1882 годзе, а ўжо праз тры гады атрымаў ад Савета Маскоўскага мастацкага таварыства пасведчанне і білет “для вольнага пражывання ва ўсіх гарадах Расійскай імперыі”. Гэта азначала свабоду маляваць дарагія сэрцу мясціны. І Станіслаў едзе на радзіму, дзе “льецца Нёман срэбраводны”. “Веснавы вечар” з гэтага плённага перыяду трапляе ў калекцыю П. Траццякова, “Май” адзначаны прэміяй Таварыства.

Яшчэ праз два гады Станіслаў Жукоўскі паспяхова здае экзамены ў Маскоўскае вучылішча жывапісу, ваяння і дойлідства, робіцца яго паўнапраўным вучнем



Вокладка кнігі.

і жэніцца са сваёй аднакурсніцай Аляксандрай Ігнацьевай. Праз год карціну “Веснавая вада” літаральна з выстаўкі перасоўнікаў, дзе яна паспяхова экспанавалася, набывае Рускі музей імператара Аляксандра III, а імя нашага суайчынніка гучыць у плеядзе такіх майстроў, як А. Саўрасаў, В. Паленаў, В. Сяроў, І. Левітан. У 1901 годзе мастак атрымлівае медаль за твор “Месяцовая ноч” (1899). Крытыка адзначае наватарскі падыход, за Жукоўскім “замацавана” тэма маёнткаў і палацаў.

## ДЗЕ ПАТРЭБНЫ МАСТАК?

Даследчыкі лічаць росквітам таленту С. Жукоўскага першае дзесяцігоддзе мінулага стагоддзя. Менавіта ў гэтыя гады напісаны “Возера Сенеж”, “Ветрана на возеры”, “Плаціна”, “Восеньскі вечар”, “Возера Молдзіна”. Тады ж творца адкрывае ўласную двухгадовую школу для навучання мастакоў шырокага профілю. Цікавы факт: сярод яго навучэнцаў былі вядомыя графік І. Нівінскі і паэт У. Маякоўскі — майстар плаката. Творы С. Жукоўскага, А. Куінджы і І. Левітана адзінагалосна прызнаны шэдэўрамі рускага жывапісу.

1917-ы… Школа закрыта. Грамадзянская вайна прымушае пераехаць з Масквы да брата ў маёнтак ля возера Молдзіна, а потым пагроза голаду гоніць мастака з сям’ёй у Вятку. (С. Жукоўскі ўжо ажаніўся другі раз — са сваёю колішняй студэнткай). “Працаваць апантана”, як адзначае У. Пракапцоў, яму не нова: мастак не адмаўляецца ні ад роспісу тэатральных дэкарацый, ні ад стварэння пейзажаў. Канкурэнты, аднак, мясцовым геніям не патрэбны — яму не дазваляюць правесці персанальную выстаўку ў памяшканні Вяткаўскага мастацкага музея. Але ён не адступаецца — у выніку 45 карцін экспануюцца ў доме купца Клабукова, дзе іх паглядзелі каля васьмі тысяч чалавек.

У 1921 годзе 75 работ мастак выстаўляе ў Маскве. Але тэматыка яго твораў — апяванне дваранскіх сядзіб — аўтаматычна пераводзіць яго ў ворагі дзяржаўнай ідэалогіі (“мир — хижинам, война — дворцам”). Станіслаў Жукоўскі абʼяўлены “па-за кругам сапраўднага мастацтва”, перастае атрымліваць запрашэнні на выстаўкі. С. Жукоўскі вымушаны зʼехаць у Варшаву (тэрыторыя яго роднага краю на той час адышла да Польшчы).

Можна толькі ўяўляць, з якімі пачуццямі мастак пакідае краіну — з ёй звязана трыццаць з пражытых сарака васьмі гадоў. Але… Наперадзе яго чакаюць дваццаць гадоў плённай працы, выстаўкі, узнагароды, прэміі. Творы Жукоўскага набываюць Нацыянальны музей Варшавы, Нацыянальная галерэя Кракава, музеі іншых гарадоў Польшчы. Станіслаў Жукоўскі ўступае ў польскае Грамадства заахвочвання мастакоў і далучаецца да групы блізкіх па творчым духу мастакоў-імпрэсіяністаў. Праз першую жонку перадае ў Маскву на продаж 11 палотнаў, напісаных у Польшчы, — ён не хоча, каб пра яго забыліся ў Расіі. І нават атрымлівае ў 1936 годзе ад кіраўніка Акадэміі мастацтваў запрашэнне вярнуцца ў СССР з прапановай майстэрні і месца ў акадэміі. Ды, навучаны гістарычным вопытам, адмаўляецца.

Можна рабіць безліч гіпотэз наконт таго, што было б, калі б С. Жукоўскі вярнуўся ў Маскву. Але “история не имеет сослагательного наклонения”. Мастак загінуў у канцы 1944 года ў канцлагеры ў Прушкаве, куды трапіў як актыўны ўдзельнік Варшаўскага паўстання. Наш славуты зямляк пахаваны ў агульнай магіле з жыхарамі Варшавы.

Кніга выдавецтва “Беларусь”, прысвечаная яго жыццю і творчасці, дае магчымасць пазнаёміцца з 31 работай з вялікай калекцыі “загадкавых і таямнічых” палотнаў выдатнага майстра.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**


“Лясная дарога”. 1898.


“Восень у сядзібе”. 1906.

Літсувязі

# Беларуская паэзія для сербаў

Тэмай чарговага мерапрыемства таварыства “Беларусь — Сербія” стаў нядаўні выхад у свет “Анталогіі беларускай паэзіі” на сербскай мове — выдання, прысвечанага 130-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа.



Адбылася цікавая гаворка пра тое, як кніга складалася, як перакладалася, як знайшоўся яе спонсар, а таксама як яна ўспрымаецца сербскай крытыкай і чытацкай публікай.

Са зместам “Анталогіі” знаёмства адбылося пры ўдзеле аўтараў — вядомых беларускіх паэтаў Міхася Башлакова, Міхася Пазнякова і Генадзя Пашкова. Яны чыталі свае вершы на роднай мове, а студэнткі-сербісткі БДУ Кацярына Гусянкова, Наталля Мацюшэўская і Ганна Навумава — у перакладзе вядомага сербскага славіста Міадрага Сібінавіча.

Вёў вечар старшыня таварыства, прафесар Белдзяржуніверсітэта і акадэмік Сербскай Акадэміі навук і мастацтваў Іван Чарота, які з’яўляецца ўкладальнікам “Анталогіі беларускай паэзіі” для сербаў.

Дарэчы, ён зусім нядаўна вярнуўся з Сербіі, дзе атрымаў міжнародную ўсеправаслаўную прэмію “Багародзіца Трохручыца”, якую за сукупныя творчыя дасягненні жыццяў яму ўжо ў мінулым годзе прысудзіў фонд імя Іванкі Мілошавіч (Чыкага, ЗША). Наш зямляк папоўніў шэраг лаўрэатаў ранейшых гадоў — такіх слынных сербскіх паэтаў, як Мація Бечкавіч, Стэван Раічкавіч, Слабадан Ракіціч, Любамір Сімавіч і Міласлаў Тэшыч, а таксама пісьменнікаў-багасловаў, як Афанасій Еўціч, Амфілохій Радавіч. Акрамя таго ў Бялградзе Іван Чарота браў удзел у Міжнародным кніжным кірмашы, сустракаўся з дырэктарам Нацыянальнай бібліятэкі, якой падарыў беларускія кнігі сербскай тэматыкі, усталёўваў сувязі з выдаўцамі Сербіі.

А на гэтым вечары пісьменнік і філолагу І. Чароту ў сувязі з яго 60-годдзем першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў уручыў медаль “За вялікі ўклад у літаратуру”, падкрэсліўшы, што тут маецца на ўвазе ўнёсак у дзве братнія літаратуры — беларускую і сербскую.

Падтрымліваць настрой пасапраўднаму паэтычны, узнёслы хораша дапамагалі квартэт юных флейтыстаў і ансамбль Універсітэта культуры “Этна-Суполка”.

**Аляксей ЦІМАФЕЕЎ**

Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

# Выстава

*Апавяданне*



Майстэрня мастака — гэта не проста асобны свет, а цэлая галактыка. І кожны, хто хоць раз пабываў там, ніколі не забудзе. Усё памяшканне загрувашчана карцінамі ў рознай стадыі выканання. Паўсюль і прадметы для аздаблення нацюрмортаў-партрэтаў: геаметрычныя фігуры, штучная садавіна-агародніна, калоны і нават цэлыя порцікі, а таксама іншыя дэкаратыўныя "цацкі" для стварэння шэдэўраў. А пасярэдзіне — абавязковы мальберт, за якім сядзіць сам мэтр мастацтва, з пэндзлямі і палітраю. Перад ім, калі пашанцуе, — аголеная даўганогая мадэль у позе царыцы. І, безумоўна, ніякіх гледачоў: таінства стварэння шэдэўра павінна заставацца таінствам…

Лявон Мурашкевіч пераступіў парог майстэрні, скінуўшы паліто і капялюш, адразу ж пачаў працаваць: выстава праз некалькі дзён, і ён не меў права спазніцца. Прабегся вачыма па спісе карцін. Потым пачаў адбіраць эскізы. Убачыўшы першы з іх, Мурашкевіч нібы аслупянеў: ён пераблытаў папкі — узяў не тую! Трэба было вяртацца дамоў. Але… Гэта былі эскізы яшчэ *таго* тысячагоддзя — часу яго маладосці і надзеі на лепшае… Вось першыя пейзажы з розных куточкаў Беларусі — стажкі сена на беразе рэчкі, стромыя сосны ўздоўж Брэсцкай шашы, стары дзот каля Заслаўя, нарачанскія хвалі… Лявон раптам зразумеў, што яму не хочацца нікуды ехаць — Бог з ёю, з той выставай, — куды яна дзенецца? Мурашкевіч заварыў гарбату, закурыў і пачаў перабіраць эскізы — сапраўдныя старонкі сваёй памяці. Адзін ліст слізгануў на падлогу і знік пад зэдлікам, накрытым цёмнай тканінай. Лявон ціха вылаяўся, потым нахіліўся і, намацаўшы лісток, падняў яго. Сэрца затахтала, калі мастак зірнуў на малюнак: з яго на Лявона глядзела вельмі прыгожая дзяўчына. Яна стаяла пад вадаспадам, і тугія струмені лашчылі прыгажуню, як быццам хвалі пад танюсенькаю накідкаю-дымкаю самыя патаемныя куточкі яе цела, бліскуча-бела-аксамітнага. Але позірк… адначасова смелы, рашучы, ён быў поўны пяшчоты і шчырасці. Гэта быў позірк дзяўчыны, якая кахае шчыра і самаададдана…

Лявон залюбаваўся ёю. На вочы нават нагарнуліся слёзы, калі ён успомніў усё…

***

Тое лета было асабліва спякотным. Цень не мог ратаваць ад сонечных промняў, а яны бязлітасна праціналі сухое паветра, як мячы джэдаяў з фільма "Зорныя войны" Лукаса. І тады сонечныя ўдары былі не рэдкасць. Якраз тут, у піянерлагеры пад Мінскам, праходзіў педагагічную практыку Лявон Мурашкевіч, будучы мастак: як ні дзіўна, усё пачыналася з педвучылішча, хаця потым былі і Акадэмія мастацтваў, і выставы…

Аднойчы дзве дзяўчыны-важатыя і яшчэ адзін хлопец, з якімі Мурашкевіч працаваў у лагеры, вырашылі пайсці на Мінскае мора — пазагараць і пакупацца. Паклікалі яны і Лявона. Магчымасці зрабіць эскіз-другі ўпускаць ён не хацеў і таму, падумаўшы (усё ж чалавек жанаты!), згадзіўся.

Сонца ўжо даўно стаяла над гарызонтам — кампанія юнакоў і дзяўчат утульна размясцілася на пляжы. Мурашкевіч і яго прыяцель Ягор адразу ж памчаліся на марозіва і напітак, а дзяўчаты — Алена і Маша — пабраліся на самае яркае сонца. Вярнуўшыся, хлопцы далучыліся да дзяўчат. Пакуль астатнія частаваліся марозівам, Лявон узяў паперу, алоўкі і, лежачы на пяску, пачаў маляваць. Неўзабаве Алена, Маша і Ягор пайшлі купацца. Лявон адмовіўся.

Паглыбіўшыся ў працу, Мурашкевіч спачатку не заўважыў, што на яго галаву ўпала некалькі кропель. Яшчэ адна пстрыкнула на паперу — брудны след застаўся на малюнку. Лявон падняў галаву: над ім стаяла чарнявая Маша. Цёмны купальнік рабіў яе прыгожую фігурку яшчэ больш стройнай, ды сонечны "німб" над галавой — ён так сляпіў вочы! Дзяўчына здавалася сапраўднай багіняй, што выйшла з марской пены. А кропелькі вады на яе целе гэта пацвярджалі.

— Слухай, Лявон, ты што, майстэрню тут знайшоў? Пайшлі купацца, а то хутка назад, у лагер. Гайда!

Лявон не ўмеў плаваць, а плёскацца пасабачы ля берага ён не хацеў. Таму адмоўна пакруціў галавой.

— Як жа цябе можна адарваць ад тваіх малюнкаў? — не адставала Маша.

Потым дзяўчына прысела каля Мурашкевіча, нахілілася — і раптам дакранулася губамі да яго шчакі. Пры гэтым пасмачка яе мокрых валасоў упала на яго аголенае плячо. Лявон уздрыгнуў. Ён узняў вочы на Машу. Позіркі іх сустрэліся. Бяздонны блакіт дзіўных вачэй вабіў, прыцягваў… Раней Лявон не звяртаў асаблівай увагі на гэтую дзяўчыну. Як жа, жанаты чалавек! А тут… Лявон адчуваў, што пякучая іскра прабегла па ўсім целе — і аловак выпаў з ягоных пальцаў.

Маша прыгожым рухам прыняла мокрую пасмачку валасоў за вуха і гарэзліва зірнула на Лявона.

— Ну а зараз пойдзеш купацца?

Мурашкевіч не паспеў адказаць. Пачуўся голас Алены:

— А давайце на катамаране пакатаемся! Ягор, Лёва, а?

Лявон адклаў паперу і алоўкі. Сеў. Побач і сапраўды была станцыя пракату. Падлічылі грошы. Аказалася, што хопіць толькі на адзін двухмесны катамаран. А іх чацвёра. Што рабіць? Вырашылі: хлопцы будуць сядзець "за штурвалам", а дзяўчаты — стаяць за іх спінамі.

Калі адчалілі, Мурашкевіч адчуў трывогу. Чаму — пакуль не разумеў. Усё ж было цудоўна! Ласкавае сонца і цёплы ветрык, цёмна-сінія хвалі, якія ціхенька гайдалі катамаран. Маладыя людзі, захопленыя ўсім гэтым відовішчам, не заўважылі, як неўзабаве апынуліся на сярэдзіне вадаёма. Бераг бачыўся далёка. Іх было чацвёра, і яны — разам… Алена зацягнула нават песню пра адважнага капітана. Але Лявона не пакідала пачуццё трывогі.

Вецер пачаў мацнець, а неба — цямнець. Неўзабаве на ім з'явілася хмара, якая паступова разрасталася. І вось недзе пачуўся першы гром. Усе зразумелі: пачыналася навальніца.

— Хлопцы, давайце хутка да берага! — не ўтойвала свайго страху Алена. Яна стаяла за Ягорам, які і так налягаў на педалі з усіх сіл. Маша — выпадкова ці не? — была за спінай Лявона. Яна толькі сказала:

— Толькі не панікаваць. Усё будзе добра. Праўда, Лявон?

Тым часам Мінскае мора захвалявалася. Буйныя кроплі дажджу, як кулямётныя кулі, затахталі па паверхні, а катамаран пачало хістаць, як цацку, з боку на бок. Раптам з неба хлынуў такі паток, што ніякія парасоны, калі б яны і былі, нізашто не ратавалі б ад бязлітаснай стыхіі. Хлопцы і дзяўчаты імгненна прамоклі да ніткі. Берага ўжо не было відаць: паўсюль паўстала толькі цёмна-шэрая сцяна. Лявон і Ягор ведалі напрамак і адчайна ціснулі на педалі. Мурашкевіч адчуў, як рукі Машы ўчапіліся ў яго плечы і не адпускалі. Блізкасць яе чамусьці грэла яго, надавала ўпэўненасці. Нават не ўмеючы плаваць, Лявон не сумняваўся, што ўсё будзе добра, яны даплывуць.

Бераг прыняў іх, закарчанелых, амаль праз паўгадзіны плавання па раз'юшаным Мінскім моры — гэтыя хвіліны падаліся нашым вандроўнікам вечнасцю. Мокрыя да ніткі, стомленыя, але шчаслівыя, яны кінуліся да будынка комплексу "Юнацтва", каб хоць трохі абсохнуць…

***

…Як потым апынуліся ў атрадзе — самі не памятаюць. Але пасля гэтай вандроўкі, здавалася, нешта змянілася ў душы Лявона. Ён шмат разоў на дні міжволі ўспамінаў Машу, яе пацалунак, яе позірк, яе рукі на яго плячах, калі іх дваіх аб'яднала — хоць і на нейкія хвіліны — стыхія.

Так было і на гэты раз…

Пасля мыцця ў лазні Лявон з Ягорам павялі хлопчыкаў у корпус. Мурашкевіч ужо зайшоў у важацкі пакой, каб хоць крыху адпачыць перад вячэрай, як пачуўся стук у дзверы. На парозе стаяў піянер з іх атрада і шмыгаў носам.

— Што здарылася, Ігар? — спытаў Лявон.

— Мыла і ручнік забыўся ў лазні. Можна, я збегаю?

— Ігар, ідзі на вячэру з атрадам. А я сам забяру твае рэчы.

…Кручок дзынкнуў, лёгка адшчапіўся — напэўна, быў слабы, і Лявон, нічога не заўважыўшы, бо спяшаўся ў сталовую, зайшоў у "памывачны" пакой. І тут пачуў шум вады. На лаве каля ўвахода кінуліся ў вочы нейкія рэчы. Ён спачатку ўзрадаваўся, але гэта была жаночая бялізна. Зусім збянтэжаны, Лявон кінуў позірк туды, дзе чуўся шум вады, — і амаль страціў прытомнасць…

У гэты момант, як і тады, на беразе Мінскага мора, Маша падалася Мурашкевічу сапраўднай багіняй, і ён не мог адарваць вачэй ад яе цела. Цёмныя валасы падалі на белыя яблычкі грудзей. Стройная спіна, нібы точаныя клубы, калі дзяўчына грацыёзна выгінала цела пад вадзянымі струменямі, так і прыцягвалі позірк. Лявон уяўляў яе пад вадаспадам, пад якім на ўлонні прыроды дзяўчына атрымлівае асалоду ад свабоды і еднасці з гэтай самай прыродай…

Не паварочваючыся, Мурашкевіч пачаў адступацца да дзвярэй, але зачапіўся нагою за нейкі клунак, спатыкнуўся і ўпаў. Дзяўчына пачула шум.

— Ой, хто гэта? — крыкнула яна.

Выключыла ваду. Мурашкевіч падхапіўся, сціснуў клунак і кінуўся ў дзверы. У клунку, як потым высветлілася, сапраўды былі рэчы хлопчыка…

***

Канец змены ў лагеры адзначалі шумна. Лявон, Ягор, Маша і Алена сабраліся ў важацкім пакоі, каб весела правесці апошні вечар разам. Сёння яны маглі дазволіць сабе больш, чым звычайна, і таму на стале з'явілася бутэлька добрага віна. Разам з песнямі пад гітару напаўголаса і ўспамінамі пра хуткацечную змену гэта стварыла суадносную атмасферу. Але, як заўсёды бывае, віна не хапіла.

— У нас у пакоі ёсць пляшка. Знарок бераглі, — успомніла Маша.

— А хто пойдзе? — Алене, відавочна, не хацелася кудысьці ісці.

Ягор нічога не сказаў.

— Я пайду, — Маша паднялася з месца і накіравалася да дзвярэй.

— Я з табой, — вырвалася ў Лявона.

Маша гарэзліва паглядзела яму ў вочы.

— З такім кавалерам я магу не баяцца нічога...

...На вуліцы, як падалося Мурашкевічу, было даволі цёпла. Зорнае неба зіхцела-пералівалася мільярдамі залатых іголак. Лявон і Маша паволі брылі па лагерным пляцы. Было ціха. Лявон адчуваў, што разам з гарачынёй ад выпітага па целе разліваецца і нейкая эйфарыя.

Маша была апранута ў лёгкую блузку на гузіках і кароткую спадніцу.

— Табе не холадна? — ён зірнуў на дзяўчыну.

Маша не паспела адказаць, як нешта з лёгкім шумам пранеслася над яе галавой і знікла ў вячэрняй цішы. Спалохаўшыся, дзяўчына схапіла Лявона за руку.

— Не бойся, гэта проста кажан, — супакоіў яе Мурашкевіч.

Маша з хвіліну памаўчала, нібы пра штосьці задумаўшыся.

— Я ж сказала, што з такім кавалерам магу нічога не баяцца… Ну вось мы і прыйшлі, — яна паказала рукою на маленькі домік, дзе былі абсталяваны награвальнікі і дзе важатыя звычайна сушылі бялізну.

— Добрае вы месца выбралі для запасаў! — засмяяўся Мурашкевіч. — Я, шчыра кажучы, здзівіўся, калі мы выйшлі з корпуса: нашы пакоі ж на адным паверсе...

Унутры доміка віселі вяроўкі для бялізны, стаялі два награвальнікі, стол і ложак з панцырнай сеткаю, на якой быў матрац. Адзінае акно было ўбрана тоўстай рашоткай, і святло, якое ледзь-ледзь праходзіла ў пакой, вялікімі клеткамі клалася на сцены, ложак і стол.

Калі Маша з Лявонам зайшлі ў домік, дзяўчына ўсё яшчэ трымала яго за руку. Маша адразу зачыніла дзверы на засаўку, села на ложак, пацягнула Мурашкевіча за сабой. Той таксама сеў.

— Скажы, Лёва, у цябе было ў жыцці такое, пра што ты пасля вельмі шкадаваў?

Лявон, не разумеючы яе, не знайшоўся, што адказаць.

— А вось у мяне было. І я пасля не хачу шкадаваць…

Маша павярнулася і, прытуліўшыся да яго, пацалавала ў вусны. Лявон, у галаве якога раптам нешта ўспыхнула, на момант яшчэ змагаўся з сабою, але потым сваімі вуснамі прыпаў да яе вуснаў. Зарапад пачуццяў закружыў іх у нейкім салодкім вальсе — і ноч успыхнула ад святла страсці…

…Пасля ад'езду яны больш не бачыліся. Толькі малюнак захаваў памяць пра той летні раман. Лявон паказаў яго Машы перад іх расстаннем. "Вельмі прыгожа. Няхай ён застанецца ў цябе, — сказала тады яму Маша. — Мабыць, калі-небудзь успомніш…"

***

Мурашкевіч устаў, адкаркаваў загадзя прыпасеную для экстраных выпадкаў пляшку каньяку. Наліў трохі ў бакал. Палюбаваўся зіхаценнем святла ў ім. Зірнуў на дзяўчыну пад вадаспадам. Уздыхнуў. Выпіў. "Неяк дзіўна ўсё атрымліваецца ў жыцці, — падумалася яму. — Каб застаўся я з ёю, можа, усё было б па-іншаму. А зараз? З жонкаю неўзабаве раз'ехаліся-разышліся. Дзяцей не было. Адзін як той пень. Хаця — з імем. І каму ўсё гэта патрэбна, а?"

Лявон зноў наліў сабе. Сеў, утаропіў вочы ў партрэт. "І калі толькі прыходзіць азарэнне? У дваццаць? Шэсцьдзясят? Ці ніколі? "Ты — жанаты чалавек", — сказала. А чаго тады галаву дурыла? Ці кахаў я яе тады? А яна мяне?.."

***

На выставе было людна. Шумна. З бакалам шампанскага Мурашкевіч абыходзіў гасцей. Шматлікія інтэрв'ю, аўтографы ўжо стамілі яго, але ў любым выпадку трэба, як гавораць, "трымаць марку".

Каля эскізаў гасцей было менш. Лявон накіраваўся туды. І тут да яго падышла дзяўчына ў касцюме і на шпільках. Назвалася карэспандэнтам газеты.

— Скажыце, калі ласка, а чаму на выставе акрамя карцін шмат і эскізаў? Гэта даніна нейкай модзе?

— Акрамя гатовых работ у мастака заўсёды ёсць накіды, пра якія публіцы, у прынцыпе, ведаць не трэба. Але некаторыя з іх выклікаюць пачуцці не меншыя, чым закончаныя творы. Гэтыя эскізы — таксама маё жыццё. Напрыклад, "Дзяўчыну пад вадаспадам" я ўключыў у спіс у апошні момант.

— Напэўна, існуе нейкая гісторыя гэтай карціны. А мабыць, нават ёсць і гераіня…

— …Прабачце, вам прасілі перадаць, — перад Мурашкевічам стаяў супрацоўнік выставы і трымаў у руках канверт.

Лявон папрасіў прабачэння ў карэспандэнткі, адышоў убок. Разарваў канверт, дастаў адтуль лісток і прачытаў наступнае:

"Мой мілы Лёва! Была на тваёй выставе. Ганаруся табою. Бачыла "Дзяўчыну пад вадаспадам". Прабач, што не падышла да цябе: была з мужам. Пішу табе перад ад'ездам за мяжу — еду туды назаўсёды. Пра цябе ведаю ўсё. Прабач. Не спрабуй мяне шукаць. Гэта дарэмна.

Твая Маша".

Мурашкевіч згарнуў пісьмо і тут жа кінуўся да акна: з другога паверха было відаць, як ад будынка якраз ад'язджае легкавая машына. На момант Лявону падалося, што ў акенцы мільгануў жаночы твар. Неўзабаве машына знікла за паваротам.

# Праз творы Шаранговіча прамаўляе Пясняр

Галерэя Пасольства Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь запрашае на выстаўку народнага мастака Беларусі, прафесара Васіля Шаранговіча. Утульныя хаты згубленых у часе вёсак, нацюрморты з простых красак, веліч палёў пад неабсяжнымі нябёсамі — усю гэту прыгажосць варта пабачыць, бо ў ёй — прызнанне аўтара ў любові да Бацькаўшчыны.

**Аляксандра ДВАРЭЦКАЯ,**
**фота аўтара**

“Я ўдзячны лёсу, што нарадзіўся на Мядзельшчыне, — кажа В. Шаранговіч. — Удзячны жыццю, што за 8 кіламетраў ад Качаноў (малая Радзіма мастака. — **А. Д.**) нарадзіўся Максім Танк. У другім баку, за 8 кіламетраў, — Марыя Захарэвіч, а ў цэнтры — Міхась Чарняўскі. Сябравалі нашы бацькі, сябруем мы, сябруюць і нашы дзеці — ужо трэцяе пакаленне. Я ўдзячны за тое, што з сябрамі мы стольoccі год працавалі загадчыкамі кафедраў, нашыя вучні былі лепшымі, сапраўдным скарбам Беларусі і беларускай графікі. Я рады, што жыццё звяло мяне з Іржы Карасам... Жыццё звязвае нас са многімі людзьмі, лёс нешта вызначае, і мы павінны падпарадкоўвацца і радавацца, што ён такі, а не іншы. Хаця я і мастак, я заўсёды добрасумленна выконваў свае абавязкі, тое, што мне было наканавана лёсам і Богам. Я лічыў, што такім чынам я служу нашай Бацькаўшчыне.”



*Васіль Шаранговіч і спадар Іржы Карас.*

Васіль Шаранговіч — знакавая асоба ў беларускім мастацтве. За сорак год творчасці ён дасягнуў вельмі высокага ўзроўню ў сваёй працы: мастак праілюстраваў больш як шэсцьдзясят кніг, палова з якіх адзначаная на ўсесаюзных і рэспубліканскіх конкурсах. Майстар — уладальнік чатырох дыпломаў і медалёў Францыска Скарыны; за цыкл гравюр “Памяці вогненных вёсак” Васіль Шаранговіч у 1986 годзе быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі і бронзавым медалём трыенале “Майданэк-85” у Польшчы; яго выстаўкі экспанаваліся ў краінах Еўропы, Азіі і Амерыкі. Але галоўная заслуга творцы ў тым, што вялікая колькасць яго работ прасякнута любоўю да Беларусі, ён шырока ўжывае нацыянальныя мастацкія традыцыі, сімволіку і метафару. Да таго ж, Васіль Шаранговіч многім пачынаючым мастакам дапамог знайсці ўласны творчы шлях. Вучні знакамітага майстра добра вядомыя як у Беларусі, так і за яе межамі.

“Васіль Шаранговіч паслужыў і Бацькаўшчыне, і Богу. Тое, што ён зрабіў у галіне кніжнай графікі, — неймаверна складаная, але плённая праца”, — адзначыў першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца на ўрачыстым адкрыцці выстаўкі.

Трэба адзначыць, што павіншаваць любімага мастака, настаўніка і сябра завітала вельмі шмат людзей. Нездарма Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Чэшскай Рэспублікі Іржы Карас заўважыў, што ў галерэі сабралася адна вялікая сям’я. Гаўрыла Вашчанка, Аксана Аракчэева, зямляк мастака беларускі археолаг і гісторык Міхась Чарняўскі... Народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, з якой Васіль Шаранговіч, між іншым, хадзіў у адну школу, прачытала ў гонар мастака ўрывак з паэмы Якуба Коласа “Сымон-музыка”, дадаўшы, што “мы паспелі прычасціцца прыгажосцю зямлі, даўніной, пабачылі старыя вёскі, хаты, таму нам вельмі-вельмі дарагія радкі народнага Песняра Якуба Коласа, якія нібы “прамаўляе” праз свае творы Васіль Пятровіч”.

# Усе мы родам з дзяцінства

У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва праходзіць выстаўка, прысвечаная дзіцяці ў кожным з нас. Мастачка Арына Сямёнава і лялечны майстар Ірына Ражко прадставілі сумесны выставачны праект “Гасцёўня”, які працягнецца да 24 лістапада і дакладна не пакіне раўнадушнымі ні дзяцей, ні дарослых.

**Алеся АРЫЦКАЯ,**
**фота аўтара**

Выставачная зала музея на пэўны часператварылася ў ўтульны дзіцячы пакойчык, у якім ёсць месца марам, светлым фантазіям, казачным персанажам. Акрамя таго, на адкрыцці выстаўкі ў паветры лунаў пах шакаладных цукерак і мандарынаў — чароўны водар свята, знаёмы з дзяцінства. Таму кожны прысутны змог прынесці дадому не толькі яскравыя ўражанні, але і смачны пачастунак.

Гномы, каралеўна Мятлікаў, прыгажуні з менестрэльскіх балад і сімпатычныя мядзведзікі пазіраюць з куточкаў залы, тоячы пяшчотныя, добрыя ўсмешкі. Іх “маці” Ірына Ражко не толькі сама на працягу 10 год стварае чароўных персанажаў у самых розных тэхніках, але і вучыць гэтаму іншых. Яна арганізатар і куратар выставак “Балаганчык”, “Плюшавае сэрца”, “Аксамітнае сэрца”. Творы Ірыны Ражко знаходзяцца ў Музеі лялек у Санкт-Пецярбургу, у прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, ЗША, Ізраіля, Германіі.

А яшчэ ў зале ўвесь час сустракаешся позіркам з вялізнымі добрымі вачыма маленькіх хлопчыкаў і дзяўчынак на карцінах Арыны Сямёнавай. Падаецца, што мастачка ўлавіла менавіта тыя моманты, калі дзеці заміраюць у задуменні, вандруючы па таямнічых выспах сваёй фантазіі — менавіта з дзяцінства прыходзяць да яе вобразы будучых твораў. Маючы дыплом мадэльера-канструктара, яна працавала на кінастудыі “Беларусьфільм”, а таксама ў эксперыментальных маладзевых тэатрах Мінска мастаком па касцюмах. Сёння Арына займаецца станковым жывапісам, працуе ў змешанай тэхніцы. Яе работы экспануюцца ў галерэі “Славутыя майстры”, на арт-пляцоўках кавярні “Латте”, арт-буфета “Ньютон” і іншых выставачных пляцоўках. Яе творы знаходзяцца ў прыватных калекцыях Расіі, Галандыі, Ізраіля, Францыі, Германіі.





Калі вы засмучаныя шэрым восеньскім надвор’ем дый забыліся на жыццё без праблем, збочце ў Музей сучаснага выяўленчага мастацтва. Пахадзіце сярод персанажаў выстаўкі, зазірніце ў светлыя вочы лялек Ірыны Ражко і маленькіх летуценнікаў з карцін Арыны Сямёнавай ды ўзгадайце сябе ў маленстве. Праблемы ад гэтага не вырашацца, але адчуеце: дзесьці там, унутры, адпускае напружанне і становіцца лягчэй дыхаць, усміхацца, бачыць навакольную прыгажосць.

## ART-карагод

Выстаўка “У хадзе гадоў”, прысвечаная 80-годдзю Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага, адчыніла свае дзверы ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь. Прыхільнікі відовішчнага мастацтва да 25 лістапада могуць на ўласныя вочы пабачыць дакументы, фотаздымкі, афішы, праграмы, упрыгожванні і тэатральныя касцюмы са спектакляў тэатра. Паглядзець ёсць на што — дзякуючы асабліваму мастацкаму абліччу тэатра, арыгінальнасці рэжысёрскіх трактовак, глыбокаму падыходу да распрацоўкі рэпертуару.

Творчасць майстра жывапісных галаваломак Георгія Скрыпнічэнкі прапануе Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь. У экспазіцыю выстаўкі “Гармонія стагоддзяў”, якая працуе да 3 снежня, уваходзіць каля 90 твораў жывапісу і графікі з калекцыі Музея сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, ААТ “Прыёрбанк” і прыватнага збору. Творчасць майстра, якая ў 1980 — 1990-х гадах уварвалася ў беларускае мастацтва новым сюррэалістычным поглядам на рэчаіснасць, жывіцца ілюзіямі на мяжы рэальнай формы і фантазіі: на палотнах Скрыпнічэнкі суіснуюць жахлівае і прыгожае, камічнае і трагічнае. Мастак не пагарджае іроніяй — пра вельмі сур’ёзныя рэчы ён умее разважаць з усмешкай. Скрыпнічэнка стварае ўласны сусвет — пранізліва-рэальны і адначасова фантастычны. Дзіўныя героі, неверагодныя спалучэнні персанажаў, бязлітаснае дэфармаванне рэчаў і фігур, сумяшчэнне несумяшчальнага — вось адзнакі пазнавальнага аўтарскага метаду.

Заўтра ў мінскім клубе Re:Public пройдзе ўнікальны для Беларусі фестываль нямецкай музыкі і культуры Das Fest: у Мінск завітаюць нямецкія музыканты і кампазітары, якія выконваюць якасную поп-музыку пераважна на нямецкай мове. Сярод удзельнікаў фестывалю — вядомы рэжысёр, адзін з лепшых клавішнікаў Германіі, выканаўца поп- і соул-музыкі Марцін Кілгер; мультыінструменталіст і аўтар лацінa-рэгі на нямецкай мове Крыс Косма; стваральнік уласнага жанра “альпенпол” Табіяс Шварц-Гевалікс; адметны рэгі-выканаўца з Ямайкі Марлон Бі. Чатыры зусім розныя музыкальныя праекты з Германіі будуць упершыню прадстаўляць сваю музыку на беларускай сцэне. Аднак галоўная мэта правядзення фестывалю — эфектыўны культурны абмен паміж краінамі.

Галерэя “Мастацтва” запрашае на выстаўку жывапісу маладога расійскага творцы Сяргея Барысава “Простае і вечнае”, дзе да 28 лістапада ў наведвальнікаў ёсць цудоўная магчымасць пазнаёміцца з экспазіцыяй новых высокапрафесійных краявідаў і пейзажных эцюдаў, выкананых у манеры рускага рэалізму другой паловы XIX стагоддзя. Для таленавітага прыхільніка класічнай школы жывапісу, майстра пейзажу, партрэта і нацюрморта Беларусь — другая радзіма, таму што бацькаўшчынай яго прадзедаў з’яўляецца Віцебшчына. Цікавасць Сяргея Барысава да культурнай спадчыны нашай краіны і зацікаўленасць, як з беларускага боку, так і з расійскага, ва ўмацаванні інтэграцыйных сувязей паміж мастацкімі школамі абедзвюх краін, у абмене творчым вопытам сталі асноўнымі фактарамі стварэння гэтага праекта.

**Дзіяна КАРОЛЬ**

# У гонар свабоды

Сёння цяжка ўявіць усю складанасць жыццёвага і творчага лёсу мастакоў, якія нарадзіліся на пачатку мінулага стагоддзя. Адна з іх — Галіна Дакальская, якая ў Беларусі 1920 — 1930-х гадоў была на грэбені славы. Прыгожая, таленавітая, артыстычная, яна была жывым увасабленнем мастацкага асяроддзя. Разам з мужам-жывапісцам Мікалаем Пашкевічам яны былі бясспрэчнымі лідарамі беларускага мастацтва даваеннага перыяду.

Людміла НАЛІВАЙКА

І Галіна, і Мікалай нарадзіліся ў Літве, а вядомымі былі далёка за яе межамі. Іх працы высока ацэньваліся крытыкамі, музейшчыкамі. Яны маглі знайсці такую пластычную мову, якая задавальняла тагачасны ідэалагічны мецэнат і пры гэтым не пераставала быць свабоднай жывапіснай стыхіяй, годнай лепшых традыцый рэалістычнага жывапісу пачатку XX ст. Заўважым, што Пашкевіч быў адным з вучняў віцебскай майстэрні К. Малевіча і пераняў ад настаўніка прагу да наватарства, сумяшчаючы яе з рэалістычнай трактоўкай вобразаў. Гэтае наватарства мужа не магло не адбівацца на наватарскім стылі Галіны. Яны разам працавалі, узаемна падштурхоўвалі адно аднаго да творчай смеласці, неўтаймаванасці. У іх нават атрымлівалася пераконваць тых, хто ў мастацтве раней не шукаў свабоды.

Іх работы былі з трыумфам прыняты ў Маскве ў 1940 годзе. Г. Дакальская намалявала гістарычную кампазіцыю "Польская акупацыя ў Беларусі", якая да вайны экспанавалася ў Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі. Пашкевіч удзельнічаў больш як у дзесяці выстаўках у Мінску і Маскве. У 1941годзе ён быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Але вайна перакрыла творчыя планы: у 1941-м муж і жонка з'ехалі ў Каўнас, дзе нарадзілася іх дачка Алія. Потым была эміграцыя ў Германію (1944), другая ў ЗША (1949).

Іншая сітуацыя з беларускай графікай 1920 — 1930-х, якую яны стваралі для перыёдыкі: яна засталася на тых самых старонках, на якіх пабачыла свет у даваенны час. Яе можна, па неабходнасці, убачыць у архівах, сховішчах і ацаніць належным чынам унёсак Галіны і Мікалая як выдатных графікаў аператыўных сюжэтаў і тэм. Пасля заканчэння Віцебскага мастацкага тэхнікума спрэрша Г. Дакальская супрацоўнічала з газетай "Чырвоная змена", а потым — з "Літаратурай і мастацтвам", калі толькі стварыліся гэтыя рэдакцыі. Які быў яе дыяпазон? Маладая мастачка была захоплена магчымасцю ствараць малюнкі ў жанры шаржаў і карыкатуры на літаратараў, ілюстраваць іх творы. Пасля вучобы ў Ленінградскай Акадэміі мастацтва (1930 — 1933) М. Пашкевіч таксама пераязджае ў Мінск.



Шарж на В. Маракова.

У Дакальскай і Пашкевіча шмат блізкіх эстэтычных арыенціраў: любілі штрых, свабоду кампазіцыйнага вырашэння, прасветлены імпрэсіяністычны каларыт. На вокладцы часопіса "Чырвоная Беларусь" (1932) захаваўся партрэт Якуба Коласа як надзвычай рашучы і энергічны вобраз паэта-наватара падчас творчага працэсу. У калекцыі жывапісу НММ захоўваецца сем жывапісных твораў М. Пашкевіча і графічныя аркушы, а палатно "Вучоба" прадстаўлена ў пастаяннай экспазіцыі музея. У калекцыі таксама захоўваецца пейзаж Г. Дакальскай "Свіслач" (1930): ускраіна Мінска, светлы і ясны сонечны дзень, прывольная цячэ рака. І таксама вольна, нязмушана, жывапісна малюе мастачка пэндзлем пейзажны матыў, што сведчыць пра яе выключнае захапленне прыродным харастом. Яна пакінула выдатную жывапісную і графічную спадчыну, якую немагчыма не даследаваць і не адкрываць усё новыя свабодныя імпульсы своеасаблівага светабачання.


Галіна Дакальская ў гады студэнцтва.

1993 год. Мінск. НММ Беларусі. Выстаўка твораў М. Пашкевіча, Г. Дакальскай, А. Клэг з цыкла "Мастакі беларускага замежжа". Лос-Анджэлес, ЗША.

У 1993 і 1994 гадах у Літветворчасці Дакальскай і Пашкевіча былі прысвечаны спецыяльныя выданні — альбомы жывапісных твораў. Цяпер яны знаходзяцца ў бібліятэцы музея.

Беларуская мастацкая крытыка вельмі чуйна і ўважліва ставіцца да класікаў мінулага стагоддзя. Галіна Дакальская і Мікалай Пашкевіч — асобы гістарычнага раздарожжа, мастацкіх вандровак, якія праз выпрабаванні вучаць вялікай творчай прасторы, што звязвае нас з маладаследаваным даваенным часам. І гэта дае права сцвярджаць, што нашыя мастакі праклалі сваю смелую сцяжынку, якая для сучаснага мастацтва азначае наватарскае адкрыццё свету і культываванне наватарскіх адносін да творчасці.

# Пераадолець зямное прыцягненне

Да 65-годдзя Мінскага дзяржаўнага мастацкага каледжа імя А. К. Глебава была прымеркавана выстаўка творчых работ навучэнцаў гэтай установы. Прайшла яна ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва разам з прэзентацыяй каталога "Пленэр-2012", прысвечанага памяці выкладчыкаў — колішніх супрацоўнікаў каледжа.


Алег Каліценя "Эцюд".

Вольга ПАЛОМЦАВА

Менавіта яны дапамаглі сваім выхаванцам пераадолець зямное прыцягненне і ўпэўнена адчуць крылы таленту.

Павіншаваць навучэнцаў з урачыстасцю прыйшлі прадстаўнікі ўпраўлення культуры вобласці і горада, настаўнікі і вучні мастацкіх школ і студый, аматары мастацтва. Больш як 30 пленэрных работ навучэнцаў дэманстравалі пераемнасць традыцый славутай Глебаўкі, са сцен якой выйшла шмат таленавітых жывапісцаў, скульптараў, графікаў, майстроў манументальна-дэкаратыўнага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, мастацтвазнаўцаў. (Многія выпускнікі ўганараваны званнем "народны мастак Беларусі".)

Добрай традыцыяй лічаць у каледжы арганізацыю выязных пленэраў навучэнцаў і выкладчыкаў. Сёлета будучыя майстры малявалі не толькі беларускія краявіды. На іх рахунку ўдзел у міжнародных і рэспубліканскіх праектах: "Малюем Пакроўскі сабор" (г. Масква), "Палітра Прыдзвіння", прысвечаны І. Ф. Хруцкаму (г. Наваполацк), "Полацк — 1150 гадоў", міжнародны дзіцячы і маладзёжны плэнер "Віцебск — горад мастакоў", музейсядзіба І. Рэпіна ў Здраўнёве, "Партрэт ветэрана" (г. Мінск), "Нясвіж — культурная сталіца 2012".

Правядзенне "Пленэру памяці", прысвечанага выкладчыкам каледжа, якіх ужо няма сярод нас, прагучала як даніна павагі іх унікальнай мастацкай індывідуальнасці, педагагічнаму таленту, высокай асабістай культуры. Назавём толькі некалькі імён са спіса, што змешчаны ў каталогу: Іван Ахрэмчык, Андрэй Бембель, Уладзімір Жбанаў, Альгерд Малішэўскі, Віталь Цвірка.

Лепшыя работы навучэнцаў МДМК імя А. К. Глебава ўвайшлі ў каталог, выдадзены пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

# Школьныя песні

Спроба згадаць некалькі менавіта беларускіх школьных песень, хутчэй за ўсё, скончыцца няўдачай. Не таму, што іх зусім не было раней — яны існуюць, створаныя рознымі аўтарамі, але не набылі такой вялікай папулярнасці, як, напрыклад, даўным-даўно вядомыя "Когда уйдём со школьного двора" ці "Школьные годы чудесные". А як жа нашы, родныя, якія б спадабаліся маленькім беларусам?

Віка ТРЭНАС

Ініцыятыўная група, куды ўвайшлі музыканты, аўтары музыкі і тэкстаў, мастакі, педагогі, вырашыла выправіць недахоп школьнага рэпертуару. Так нарадзіўся "Альбом школьных песень".

Кружэлка складаецца з дзесяці песень. У іх назвах адлюстроўваецца багатая палітра школьнага жыцця: "Першыя ўрокі", "Нашы настаўнікі", "Школьны вальс", "Лета", "Школьная настальгічная", "Дырэктар школы", "Вальс развітання", "Апошні званок" ды іншыя. Укладальнік дыска, аўтар ідэі, музыкант Юры Несцярэнка распавёў, што стваральнікі альбома пастараліся паказаць супярэчлівыя перажыванні юнакоў і дзяўчат — ад хвалюючых момантаў сустрэчы са школай да асэнсавання апошняга званка і суму развітання, ад амаль што класічных школьных стандартаў да іранічных аповедаў з жыцця вучняў і настаўнікаў. Тут ёсць і сапраўдныя вальсы, і рок-н-рол, і постпанк.

Дыск мае і метадычную каштоўнасць. Да ўсіх асноўных песень дадаюцца так званыя "мінусоўкі" — фанаграмы, дзе запісаны акампанемент для выканання іншымі вакалістамі. Гэтыя матэрыялы можна выкарыстоўваць для арганізацыі культурнай праграмы ў школе, а таксама для пазашкольнай работы.

Таццяна Матафонава, ініцыятар стварэння школьных і ўвогуле дзіцячых літаратурна-музычных праграм, сцвярджае, што з выхадам "Альбома школьных песень" праца толькі пачынаецца. У планах — стварыць другую частку дыска, адлюстраваць зваротную сувязь, калі песні будуць выконваць ужо самі дзеці з розных рэгіёнаў Беларусі. Акрамя таго, ужо ёсць дапаўненні да першай кружэлкі — ад уважлівых, неабыякавых і ўдзячных слухачоў.



# Паэт і натоўп

Сонечным восеньскім днём у рэдакцыю “ЛіМа” завітаў малады годны хлапчук з вялізнымі блакітнымі вачыма.
Сямён Ісаеў, вулічны паэт, які жадае пакарыць свет, прынёс свае кнігі, а разам з імі — бадзёры настрой і ўпэўненасць у тым, што для маладосці і радасці няма перашкод. Асабліва калі ты — паэт і тваё прызванне — абуджаць самыя шчырыя і светлыя пачуцці ў чалавечай душы.



**Аляксандра ДВАРЭЦКАЯ**

Сямён Ісаеў — дваццацідвухгадовы студэнт БНТУ, будучы інжынер, які вось ужо год аддае ўсе свае сілы дый вольны час служэнню Яе Вялікасці Паэзіі. Прычым, спосаб данясення сваіх твораў да народа ён выбраў, можна сказаць, эпатажны — калі вершаў назапасілася шмат, а пачуцці захліставаюць, Сямён выходзіць на вуліцу і пачынае чытаць. Гучна ды эмацыянальна.

Цікава тое, што яшчэ зусім нядаўна хлапец нават не думаў пра рэалізацыю сябе як паэта:

— Восем год я пісаў у стол і нікому свае вершы паказваць не збіраўся. Таму галоўная мая заслуга ў тым, што я не закінуў сваю творчасць: увесну 2011 года раздрукаваў каля дзесяці вершаў і выйшаў з імі на вуліцу. Людзі слухалі, мне гэта вельмі падабалася. Звычайна чытаў ля кінатэатра “Беларусь” перад вечаровым сеансам. Вось тады і адчуў смак паэзіі: дагэтуль я пісаў адзін верш у тры месяцы, але мне так спадабалася рэакцыя людзей на маю творчасць, што толькі за адзін месяц у мяне нарадзіўся 21 верш. Яны былі розныя — і добрыя, і дрэнныя. Але ж галоўнае — пачалося мае развіццё.

Потым былі распаленыя ад сонца плошчы гарадоў-курортаў Крыма, зацягнутыя смугой вулачкі Пецярбурга, шумны Арбат у Маскве. Там паэта заўважылі, ён пачаў выступаць у клубах і нават на тэлебачанні. Зразумела, не абыходзілася і без кватэрнікаў. І паўсюль Сямён праз свае вершы заклікаў людзей стаць лепшымі дый часцей задумвацца пра складанасць самых простых пачуццяў:

— Галоўная тэма маіх вершаў — духоўнае развіццё. Я хачу данесці да людзей простую ісціну — трэба быць менш матэрыяльнымі, больш духоўнымі. Але гэта для хлапцоў. Што датычыць дзяўчат, мая мэта — задаволіць іх пачуццёвыя ўспрыманні. Дзяўчаты нашмат танчэй адчуваюць гэты свет. Я толькі пачынаю заўважаць адценні неба, а для іх гэта — звычайная справа.

Менавіта падчас выступлення Сямёна на Арбаце яму і прапанавалі дапамагчы з выданнем першай кнігі — “Демонстрация силы” (2011). Сёлета свет пабачыў другі зборнік вершаў “Семью семь”.

— Гэта проста цудоўна — выдаць кнігу. Як і раздаваць аўтографы. Але гэта напачатку. Цяпер я ўжо думаю не пра факт існавання кнігі, а пра яе змест. Кожны паэт павінен мець сваю кнігу. Наогул, вельмі важна не пакідаць задуманае ў тэорыі. Замест таго, каб хадзіць і ўяўляць, трэба садзіцца і пісаць. І лепш пра сваё жыццё, бо менавіта тое, што ў ім адбываецца, ты адчуваеш найбольш востра.

Як прызнаецца Сямён, чытаць вершы на вуліцах яму ўжо крыху надакучыла. Дый надвор’е, зразумела, не спрыяе. А ўвогуле, канечне, такія выступленні — нейкага кшталту энергетычная зарадка:

— Мяне зрабіў натоўп. Ён больш ведае, чым адзін чалавек. Натоўп вызначае лепшыя творы. Калі чытаеш, адразу разумееш, што і як напісаць. Паэзія — вусная творчасць. Ты мусіш прагаворваць кожны верш. Чым вышэй прафесійнасць паэта, тым званчэй перазвон гукаў: такі верш без увагі пакінуць немагчыма. Таму трэба чытаць свае вершы як мага часцей.

Сямёна крыху засмучае, што ў Мінску не ладзяць паэтычных слэмаў. Хлапец прызнаўся, што, калі б атрымалася паўдзельнічаць у мерапрыемстве такога кшталту, ён бы кінуў выклік Машы Маліноўскай з Гомеля, фіналістцы шматлікіх расійскіх паэтычных конкурсаў: “У Машы ёсць свой сайт, яна даволі папулярная паэтка ў Расіі, але ў Беларусі яе чамусьці не чуваць”.

На дадзены момант Сямён з’яўляецца NET-лаўрэатам Усерасійскай паэтычнай прэміі “Паслухайце!”. Яе ўручэнне адбылося ў Санкт-Пецярбургу 9 лістапада. Раней перамог у конкурсах такога кшталту ў яго няма. Толькі ўдзел у фестывалях паэзіі “Пластилиновый аист” (Магілёў) і “Кленовый день” (Барысаў).

— Калі ты паэт, трэба быць фанатыкам. І эгаістам. Я натхніўся Пушкіным і Ясеніным, зразумеў, што хачу такой жа папулярнасці. Але трэба шмат працаваць, бо талент складае толькі 10 працэнтаў. Астатнія 90 — праца. Трэба не кідаць пісаць. Таму, у каго адразу атрымліваецца, я па-беламу зайздрошчу. Слова — вельмі сур’ёзная сіла.

Напрыканцы нашай размовы, не адводзячы позірку ад маіх вачэй, Сямён Ісаеў прачытаў верш “Прощение”, прысвечаны каханай дзяўчыне. Вось тады я канчаткова зразумела, чаму паэтам патрэбны слухачы і чаму Сямён выйшаў на вуліцы.

# «Зброевая палата» ў авангардзе



*Маленькая разбойніца. 2012.*

**Вераніка ЮРЭВІЧ-МАЛАШЧУК**

Выбітны малады мастак Андрэй Пяткевіч прэзентаваў у “Галерэі Мастацтва” персанальную выстаўку жывапісу “Зброевая палата”. Наведвальнікі экспазіцыі не пралічыліся з выбарам:



*Амазонка. 2012.*

кожны персанальны праект мастака-інтэлектуала, які знаходзіцца ў авангардзе сучаснага беларускага жывапісу, — гэта эпатажнае відовішча, якое нікога не пакідае абыякавым. Кожная праца майстра — твор высокага філасофскага зместу.

А. Пяткевіч адрозніваецца ўнікальнай рэалістычнай манерай, якая лаканічна сумяшчае элементы сімвалізму і поп-арту. Высокі прафесійны ўзровень дазваляе яму свабодна адчуваць сябе ў любых жывапісных жанрах. Для больш поўнага эмацыянальнага ўздзеяння на гледача аўтар часцей за ўсё звяртаецца да сюжэтных кампазіцый, нацюрморта і партрэта, але эксперыментуе таксама і з арнаментальна-плоскаснымі формамі. Мастак увесь час дэманструе ўменне працаваць з колерам, будаваць кампазіцыі.



*Джокер. 2008.*

Узнятую злабадзённую тэму, нягледзячы на яе значнасць і актуальнасць, Андрэй Пяткевіч вырашае з пэўнай доляй гумару, здымаючы звязанае з ёй эмацыянальнае напружанне. Мастак не раз звяртаўся да праблем распусты і амаральнасці, экалагічных пытанняў... Іранічна дэманструючы хібы сучаснага чалавека, работы абуджаюць гледача да філасофскіх разваг, заклікаюць да духоўнага самаўдасканалення.

Праект “Зброевая палата” — добры прыклад такога стаўлення да праблемы. Зброя стэрэатыпна асацыіруецца з гвалтам і жорсткасцю і звычайна не ўспрымаецца як твор мастацтва. Але асацыятыўна-вобразныя кампазіцыі “Нацюрморт з лімонкай”, “Гарачая зброя”, “Труба справа” падкрэсліваюць менавіта мастацкі бок вайсковай амуніцыі. “Выбухны характар”, “Маленькая разбойніца”, “Шлюб” — лёгкія іранічна-рамантычныя творы, здольныя выклікаць усмешку. Фантазія Андрэя Пяткевіча настолькі бязмежная, што метафарычна-асацыяцыйныя вобразы рэвальвераў, аўтаматаў, пісталетаў набываюць у работах майстра іранічна-рамантычнае гучанне. Але мастак падымае і вострыя тэмы: барацьбу афрыканскага народа за незалежнасць увасабляюць такія працы, як “Амазонка”, “На сцежцы вайны”, жорсткае забойства жывёл — “На мушцы”, “Шэрая шапачка і чырвоны воўк”.

Творчасць Андрэя Пяткевіча — унікальная ў беларускім выяўленчым мастацтве. Яго асоба — прыклад сучаснага мастака-ўніверсала, які не толькі памайстэрску ўмее валодаць пэндзлем, але і здольны па-наватарску думаць.

## Стаўка на супер-профі

Заканчваецца праца над сольным альбомам музыканта, кампазітара і выканаўцы Віталя Качаткова (гурт “Новая гульня”). У альбоме будуць прадстаўлены песні Віталя на вершы паэткі Аксаны Ярашонак. Творчы тандэм існуе ўжо каля года. За гэты час створана каля 30 песень. Удзел у запісе альбома ўзялі Сяргей Анціншын, які “сціпла” лічыцца брыльянтавай гітарай Беларусі, і гукарэжысёр Сяргей Зайцаў (працаваў з “J:Морс” і іншымі вядомымі гуртамі), які выступіў таксама ўдарнікам. Урэшце група знайшла адметны саўнд. Некаторыя рэчы паспяхова гучаць у эфіры беларускіх радыёстанцый, займаюць дастойныя месцы ў хіт-парадах на музычных інтэрнэт-сайтах.

**Аксана КАМІНСКАЯ**

# А што там, за мяжой?

Сёння за межамі краіны пражывае 3 — 3,5 мільёна беларусаў. Зразумела, афіцыйная лічба куды меншая за рэальную. У Расіі пражывае больш як паўмільёна нашых суайчыннікаў, створана і дзейнічае каля 80 грамадскіх арганізацый беларусаў — іх аб'ядноўвае Федэральная нацыянальна-культурная аўтаномія беларусаў Расіі (НКА), Савет якой узначальвае вядомы пісьменнік Валерый Казакоў.

## ТРЫМАЙЦЕСЯ СВАЙГО

За два з паловай гады беларусамі, якія пражываюць у Расіі, праведзена чатыры з паловай тысячы мерапрыемстваў. Нацыянальную культуру яны прадстаўляюць не толькі ў Расіі, Беларусі, але і іншых краінах. Адзначаюць народныя святы (Каляды, Гуканне вясны), ладзяць літаратурныя імпрэзы з прэзентацыямі кніг, вечары нацыянальнай кухні… І тут значную падтрымку можа аказаць Беларусь. Прынамсі, перадаюцца суполкам нацыянальныя касцюмы, музычныя інструменты, метадычная літаратура (у гэтым актыўна супрацоўнічаюць з міністэрствамі культуры і адукацыі Беларусі, Інстытутам культуры, Рэспубліканскім цэнтрам нацыянальных культур).

На нарадзе грамадскіх арганізацый беларусаў Расіі, што праходзіла ў пасольстве Беларусі ў Маскве, прагучала цікавая прапанова: наладзіць для настаўнікаў курсы па беларускай мове, каб пасля ўжо яны маглі вучыць беларускіх дзяцей роднай мове — арганізоўваць заняткі, факультатывы. Тым больш што гэтага просяць самі беларусы — прынамсі, у Іркуцкай вобласці. А вось у Маскве, калі ўжо і ўлады давалі згоду на адкрыццё беларускай школы, ахвочых вучыцца ў ёй дастаткова не знайшлося.

Здавалася б, адну з асноўных сваіх задач НКА выконвае — зберагае і прапагандуе нацыянальную культуру. Ды разам з тым нямала пытанняў і праблем, якія хвалююць. Калі ўзяць пад увагу вынікі перапісу насельніцтва, дык колькасць беларусаў з кожным разам усё памяншаецца. Ранейшая лічба — 1,2 мільёна, па выніках 2010 года — крыху больш як 500 тысяч. Яшчэ колькі дзесяцігоддзяў — і лік пойдзе ўжо не на сотні тысяч. Хто тады парупіцца пра роднае? І справа зусім не ў тым, што колькасць этнічных беларусаў насамрэч так моцна змяншаецца, а ў тым, што ўсё менш называюць сябе беларусамі. "Беларусам трэба больш адчуць сябе беларусамі", — прагучала на нарадзе ў Маскве. Слушна.

А наконт касцюмаў ды музычных інструментаў… Некаторыя лічаць, што гэта лішняе і дробязнае. Ды большасць справядліва не пагаджаецца: калі створаны і дзейнічаюць нацыянальныя калектывы, то і строі ім патрэбны нацыянальныя, беларускія.

## СЕМ ПАВЕРХАЎ РАДЗІМЫ

Адзін з самых значных і доўгачаканых праектаў дыяспары і пасольства — Беларускі цэнтр у Маскве. Гэта дзелавы і культурны цэнтр. Называюць яго яшчэ і дыпламатычным — па тых сферах, якія ён будзе ахопліваць. Урачыстае адкрыццё запланавана на сярэдзіну 2014 года. Але падрыхтоўчая работа актыўна ідзе ўжо сёння.

Як паведаміў саветнік-пасланнік пасольства Беларусі ў Расіі Алег Іваноў, гэта добры сучасны будынак. З тэхнічнага боку там будзе кіназала на 280 месцаў з вельмі якасным сучасным абсталяваннем, памяшканні для выставак, прэзентацый...

— Усё ж такі тры паверхі пад зямлёй і чатыры — над ёю дазволяць нам нешта зрабіць. Інфраструктура ў нас будзе. Матэрыяльная база — таксама. Прычым мы вырашылі, што, паколькі гэта будынак пасольства, да таго ж, у цэнтры Масквы, ён, як бы пафасна ні прагучала, узорна-паказальны. І не толькі звонку, але і знутры — з пункту гледжання напаўнення. Цяпер мы працуем над канцэпцыяй Цэнтра, таму што, з аднаго боку, мы не можам там праводзіць камерцыйныя мерапрыемствы, як гэта робяць украінскі, татарскі, венгерскі. У нас не будзе платных канцэртаў. Затое плануецца пастаянная выстаўка нашага дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхніцы (вядуцца перамовы з Акадэміяй навук). Дыяспара просіць, каб там быў асобны кабінет — з бібліятэкай беларускіх выданняў, у тым ліку рэдкіх, магчымасцю праводзіць заняткі — моўныя курсы.

Калі будзе падрыхтавана канцэпцыя Цэнтра, яе мяркуецца накіраваць кіраўнікам рэгіянальных аб'яднанняў — магчыма, будуць унесены нейкія карэктывы, дапаўненні. Таму што гэта Цэнтр не для пасольства — ён павінен працаваць на ўсю рэспубліку.

— Перарэзаўшы стужку, мы павінны не проста фармальна даць адпаведную інфармацыю, — падсумоўвае Алег Іваноў. — Цэнтр павінен запрацаваць. А каб ён запрацаваў, павінны быць ідэі, якія ўжо рэалізаваны і ў бюджэтах, і ў праграмах, планах, у прыцягненні спецыялістаў. Таму гэта работа і пачалася ў мінулым годзе, а больш канкрэтна працуем цяпер. Таму ў 2014-м мы не проста прымем гасцей, а прапануем абгрунтаваны і разлічаны на перспектыву план работы.

## ПРЫ ЧЫМ ТУТ "ЛІМ"?

Іркуцкае аб'яднанне беларусаў узначальвае Алег Рудакоў, які нарадзіўся і да 17 гадоў жыў у невялікай вёсачцы пад Полацкам. Што прыемна і нават ганарова, да стварэння аб'яднання беларусаў у Іркуцку спрычыніўся і "ЛіМ".

— Недзе ў пачатку-сярэдзіне 1990-х, калі я з'ехаў у Іркуцк, выпісваў газету "Літаратура і мастацтва" — і ў Іркуцку быў яе адзіным падпісчыкам, — распавядае Алег Васільевіч. — І вось у газеце быў надрукаваны палемічны артыкул, на які я выклаў свой погляд. Як бывае — напісаў і забыўся. Пасля прыходзіць ліст з "ЛіМа" — кажуць, цікава. Так я канчаткова пасябраваў з газетай. Калі ў 1995 годзе прыехаў у Мінск, зайшоў ужо ў знаёмае выданне. Ды хутка адчуў сябе няёмка — у мяне пыталіся: а колькі беларусаў жыве ў Іркуцку, а ці захаваліся беларускія вёскі, ці ведаеце вы Яна Чэрскага, які быў з Беларусі, але жыў і працаваў там… Гэта былі пытанні, на якія я не ведаў адказаў. Вярнуўшыся ў Расію, надрукаваў у іркуцкай маясцовай газеце аб'яву: сябры-беларусы, адгукніцеся. Такім чынам паступова сабраўся аргкамітэт, пасля — у 1996 годзе — правялі першы з'езд, на якім было створана грамадскае аб'яднанне "Іркуцкае таварыства беларускай культуры", якое носіць імя Яна Чэрскага.

На тым першым з'ездзе прысутнічалі ўсяго толькі 23 чалавекі, а сёння ў таварыства больш як 700 сяброў, хаця, зразумела, у вобласці пражывае куды больш беларусаў. У таварыства каля 20 кірункаў дзейнасці, створана 17 розных гуртоў, батлейкі, секцыі бытавога танца, моладзевы клуб. Да таго ж, на сродкі спонсараў выдаюць газету "Маланка". У мінулым годзе яны названы лепшым нацыянальна-культурным аб'яднаннем у Іркуцку.

— На імпрэзы, канцэрты, — зазначае Алег Рудакоў, — запрашаюць часта. Прычым не толькі ў Іркуцку, але і ў іншых гарадах Расіі і Беларусі. Так, у мінулым годзе выступалі нашы гурты на "Славянскім базары", сёлета бралі ўдзел у святкаваннях юбілею Полацка, дзе прадставілі старажытную песню, запісаную ў Сібіры, — там згадваецца полацкі раён.

**Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

# Да новага знаёмства з вершамі комі



Комі-пярмяцкая і комі-зыранская літаратура, якія прадстаўляюць адзін з не такіх і далёкіх ад нас народаў Расіі, вельмі мала знаёмы беларускаму чытачу. Хаця традыцыі ў прыгожага пісьменства комі даўнія, вартыя ўвагі. У свой час некалькі публікацый паэтаў комі пабеларуску арганізавалі Мікола Аўрамчык, Міхась Стрыгалёў. З Рэспублікай Комі (тады — Комі АССР) і Комі-Пярмяцкай акругай няпросты лёс звёў у ранейшыя дзесяцігоддзі беларускіх паэтаў, празаікаў, публіцыстаў Міколу Хведаровіча, Аркадзя Чарнышэвіча, Леаніда Свэна, Тамару Цулукідзе... На мове комі гучаць вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міколы Аўрамчыка. А сёння прапануем перастораныя па-беларуску вершы нашай сучасніцы паэткі комі Ніны Абрэзкавай.

**Максім ЛАДЫМЕРАЎ**

Ніна АБРЭЗКАВА

***

*Вернешся ў родны горад,*
*дарослым і гордым…*
*Помні, што ў хаце бацькоўскай*
*Нізкі вушак —*
*ты галаў схілі на парозе…*

***

*Прывітанне, бацькоўская хата!*
*Хай сплывае з крынічнай вадою*
*памяць дарог…*
*Мне не трэба нічога болей,*
*Мне не трэба болей нікуды.*
*Я дома.*

### Бабулі

*Зроблена ўсё. Ты стамлёна*
*прысела на ганку.*
*Рукі твае спачываюць*
*на ўтульных каленях.*
*У валасах тваіх вецер спявае*
*асеннюю песню —*
*Песню пра косы твае,*
*што калісьці былі смалянымі.*

*Зроблена ўсё. І чакае хвіліны*
*сукенка —*
*Тая, што толькі аднойчы…*
*Ды ты не прывыкла*
*Да новых, да белых хусцінак…*
*Ты ўсё рыхтавала… А як жа…*
*Сена, што недасушыла...*
*А як жа чарніцы*
*ў дуброве,*
*І рукавічкі для ўнукаў,*
*І недаспяваная песня?..*

***

*Час не залечыць маршчынак*
*тваіх, дарагая матуля.*
*У гэтых маршчынках сцяжынкі*
*мае і дарогі паснулі.*
*У гэтых маршчынках*
*дзяцінства маё залатое.*
*Я ў гэтых маршчынках*
*самоту сваю супакою.*
*З маршчынак тваіх нарадзіўся*
*сынок мой прыгожы.*
*Маршчынкі твае я ва ўласным*
*люстэрку знаходжу…*

***

*Чакаем,*
*Гукаем,*
*Шукаем*
*Найбольшага шчасця…*
*А вось жа —*
*Сядзіць на каленях,*
*Маленькае, шэравокае:*
*— Мама-а!*
*Валюся-я!*
*Трымай мяне-е!*

***

*Колеру вачэй тваіх*
*Сукню вышывала я…*
*Апрану —*
*І ў небе ты адшукай мяне…*
*Ці ў блакіце хваляў я*
*Стану сіняй кропляю,*
*Ці валошкай пекнаю*
*У вясновым сне…*

*Падыдзі, каханы мой,*
*Не глядзі прыдзірліва.*
*Не схаваю позірку*
*і не падману…*
*Сукню вышывала я,*
*Колеру вачэй тваіх,*
*Каб мяне заўважыў ты,*
*Каб не абмінуў…*

***

*Калі захочаш,*
*Я стану човам…*
*Мы паплывём.*
*Калі захочаш,*
*Я стану ветрам…*
*Мы паімчым.*
*Калі захочаш,*
*Я стану зоркай…*
*Ці даляціш?..*

***

*Ты, калі можаш,*
*Даруй мне памылкі мае*
*І няўпэўненасць гэту.*
*Я ж яшчэ толькі вучуся*
*Каханню.*

***

*Ведай, аднойчы птушкай*
*Сядзе на падваконне*
*Душа твайго ненароджанага*
*дзіцёнка…*
*Паглядзіць на цябе,*
*Пагладзіць па галаве:*
*"Які ты стары. Сягоння*
*Сорак гадоў з майго*
*ненараджэння…"*

*…Але гэта далёка —*
*Зараз яшчэ даволі*
*І шчасця, і радасці, і жыцця…*
*Толькі ў высокім небе,*
*Там, дзе вока не ўбачыць,*
*Горка і бесприытульна*
*Плача тваё дзіця…*

***

*Можа, час мне выпраўляцца*
*У краіну, дзе ў гаях*
*Дрэмле вецер…*
*…Ды прызнацца,*
*Можа стаіца,*
*Што і там я —*
*Не своя…*

***

*За вершам гэтым,*
*Бы за матыльком,*
*Я цікавала…*
*Але ён*
*Знайшоў прытулак*
*На тваім плячы…*
*Разгубленая…*
*…Я не знаю зараз,*
*Хто мне больш патрэбны:*
*Ты*
*Ці гэты верш,*
*Што да цябе прывёў.*

***

*Перавязі мяне, чоўнічак,*
*на той бераг.*
*Чуеш — зыча-кліча знаёмы голас.*
*Чуеш — кліча-плача*
*знаёмы голас —*
*Перавязі мяне, чоўнічак,*
*на той бераг.*

*Перавёз мяне чоўнічак*
*на той бераг.*
*Гукаю, зычу-клічу знаёмы голас.*
*Гукаю, клічу-плачу*
*знаёмы голас —*
*Толькі рэха на тым беразе.*

**Пераклад з комі**
**Таццяны СІВЕЦ**

# Зямля пад белымі крыламі

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

Слова краязнаўцы



**Юрась КАМЯГІН, краязнаўца з Гродна, распавядае пра сваё захапленне, якое стала справай жыцця:**

— Час ад часу я дастаю з кніжнай палічкі зборнік “Дзень паэзіі-1969” і перагортваю яго. Гэтую невялічкую кніжку, якая вельмі дарагая для мяне, набыў на пачатку 1977 года. Менавіта тады ў Іўеўскую школу, дзе я вучыўся, прыехала група беларускіх літаратараў, каб правесці творчую сустрэчу з чытачамі. Памятаю, у той дзень не вельмі добра сябе адчуваў. З захапленнем слухаў выступленні Рыгора Семашкевіча, Еўдакіі Лось, Юркі Голуба, Язэпа Семяжона, бо ўпершыню бачыў перад сабой жывых пісьменнікаў. Пасля заканчэння вечарыны да гасцей выстраілася чарга па аўтографы. Тут жа, побач, можна было набыць кніжкі паважаных аўтараў. Вось так я стаў уладальнікам паэтычнага зборніка з блакітнай вокладкай.

Удзельнікі сустрэчы хутка паставілі свае подпісы, а Еўдакія Лось чамусьці затрымала мяне і пачала задаваць пытанні. Уважліва мяне выслухаўшы, яна параіла чытаць не толькі прыгодніцкія раманы, але і сур'ёзную літаратуру, у тым ліку паэтычныя кніжкі. Пасля разгарнула толькі што набыты мною зборнік, дзе былі надрукаваны і яе вершы, і напісала: “Юра, не хварэй!” І размашыста падпісалася: “Е. Лось”.

Так я зацікавіўся творамі нашых беларускіх аўтараў, і даволі хутка гэта захапленне стала справай усяго жыцця. Вось ужо больш як чвэрць стагоддзя збіраю звесткі пра беларускіх пісьменнікаў, якія загінулі падчас Вялікай Айчыннай вайны альбо былі рэпрэсіраваныя ў гады ліхалецця. І колькі тут яшчэ ёсць “белых плям”!

Здаецца, тая сустрэча з чытачамі ў 1977 годзе была для Еўдакіі Лось апошняй. Цалкам верагодна, што і аўтограф, які цяпер захоўваецца ў маёй бібліятэцы, стаў апошнім пісьмовым пажаданнем у яе жыцці. Паэтка заўчасна памерла 3 ліпеня 1977 года, калі ёй было ўсяго сорак восем гадоў. А я і да гэтае пары з цеплынёй і хваляваннем успамінаю тую незабыўную сустрэчу.

## НОВЫ ФАРМАТ

Пра малавядомыя факты, звязаныя з гісторыяй Брэсцкай крэпасці і яе абаронцамі, распавядае новая выстаўка ў Музеі абароны Брэсцкай крэпасці. У экспазіцыі “Па слядах музейных калекцый” прадстаўлены экспанаты з фондаў мемарыяла, якія не ўвайшлі ў асноўную экспазіцыю, але дэманстраваліся ў розныя гады падчас тэматычных выставак. Музей на тэрыторыі крэпасці адкрыўся 8 лістапада 1956 года. За два першыя месяцы яго наведалі больш як 11 тысяч чалавек, у 1957 годзе — ужо больш як 100 тысяч.

Пачаўшы сваё жыццё з некалькіх экспанатаў і 13 фотаздымкаў, сёння ўстанова мае больш як 600 фотаработ. Экспазіцыйная плошча складае 1000 кв. м. За кожным з амаль 4000 экспанатаў — гады карпатлівай працы. Экспазіцыя ўвесь час удасканальваецца. За апошнія гады абноўлены інтэр'еры ўсіх 10 залаў. Да юбілейнай даты — 50-годдзя музея — цалкам была зменена экспазіцыя першай залы, прысвечаная гісторыі стварэння Брэсцкай крэпасці.

**Бажэна СТРОК**

Музейны ўнікат

# Захавальніца бацькоўскай веры

Трапляючы ў Брагінскі гістарычны музей з карціннай галерэяй, адразу заўважаеш незвычайны экспанат — па-мастацку выробленую з дрэва скарбонку для збірання і захоўвання грошай, якая мае назву “даразахавальніца”. Прайсці міма проста немагчыма — настолькі цікава выглядае гэтая царкоўная рэч.

**Святлана ЖЫРАВА, фота аўтара**

Даразахавальніцу як яскравы ўзор дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва розныя эксперты адносяць да XVIII стагоддзя. Выраблена яна з дрэва, што таксама цікава, бо раней такія рыштункі выраблялі з каменю, а на разным купале даразахавальніцы размешчаны драўляны крыж. Што гэта за парода дрэва — невядома, але выглядае нібы слановая косць. Зверху майстры пакрылі выраб, унутры якога маецца выява Божай Маці, сусальным золатам, ад чаго святыня выглядае яшчэ больш манументальна.

Даразахальніца-ікона — не толькі неверагодна прыгожы, знакаміты і каштоўны экспанат музея. У яе надзвычай няпросты лёс, які неразрыўна звязаны з нашай сям'ёй.

Некалі ў вёсцы Грушнае Брагінскага раёна стаяла прыгожая і вялікая Пакроўская царква, якую пабудавалі прыхаджане яшчэ ў 1792 годзе. Храм меў вялікі прыход, людзі нават з далёкіх вёсак ехалі сюды. У 1930-я гады пры царкве служыў мой прапрадзед Фёдар, які чытаў малітваслоў падчас службы, бо добра ведаў грамату і стараславянскую мову.



*Даразахавальніца.*

Але працягвалася гэта нядоўга. У 1936-м разбурылі і Пакроўскую царкву. Вяскоўцы частку царкоўных рэчаў захавалі ў сваіх дамах. Мой прапрадзед Фёдар паспеў забраць з вогнішча царкоўныя кнігі і даразахавальніцу, якая стаяла ў алтары.

З таго моманту ў хату да майго прадзеда паглядзець на святыню прыходзілі людзі і з суседніх вёсак. На даразахавальніцу маліліся, пра штосьці прасілі, у хаце праводзілі сапраўдныя царкоўныя службы, бо на той момант у раёне не было ніводнага храма. Такім чынам святыня захоўвалася ў нашай сям'і да 1988 года.

У канцы 80-х у Брагіне вырашылі стварыць гістарычны музей з карціннай галерэяй. Экспанаты для яго збіралі па ўсім раёне. Менавіта тады мая бабуля і перадала даразахавальніцу музею.

Цяпер святыня займае пачэснае месца сярод іншых экспанатаў. Але часам здаецца, што ўсё ж такі ікона не там, дзе трэба. Даразахавальніца нібы сумуе па сваім мінулым. Яе месца ў царкве, у алтары, дзе няма чужых вачэй. Бо гэта сапраўдная святыня.

Праекты

## Вандроўка па батлеечнай краіне

У рамках праекта “Музейныя лабірынты” Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь запрасіў сваіх прыхільнікаў на незвычайнае мерапрыемства — “Усё пачалося з «Батлейкі»”, на якім творчая майстэрня “Батлейка” прадставіла гасцям свет маленькіх тэатраў з вялікімі магчымасцямі і багатай гісторыяй.

**Дар'я ШОЦІК, фота аўтара**

Хлопчыкі і дзяўчынкі з задавальненнем назіралі, як ствараецца шпянёвая тэатральная лялька, якая выкарыстоўваецца ў прадстаўленнях батлейкі. Трэба заўважыць, што такая лялька адрозніваецца ад простай тым, што ў яе ёсць ручка-шпяня, дзякуючы якой можна вадзіць “героя”. Звычайна выраблялі ляльку з белай льняной тканіны, на рукавы ішоў шэры неапрацаваны лён, на сукенку — каляровы ў стужачкі, а на фартух бралася тканіна з узорамі. Прынамсі, майстры заўважылі: такую ляльку дзеці любяць выкарыстоўваць і ў сваім хатнім тэатры.

Акрамя гэтага, на свяце бацькі разам з дзецьмі паспрабавалі сябе ў ролі Радзівілаў — Міхала Казіміра Рыбанькі, Францішкі Уршулі ды іншых — падчас прадстаўлення спектакля “Дасціпнае каханне”. Гэта першая п'еса Уршулі, напісаная з нагоды дня нараджэння яе мужа.

— У нашай аматарскай студыі маецца тры скрыні з пераноснымі тэатрамі, — распавяла мастачка Ганна Выгонная. — Мы паказваем сюжэты з гісторыі Нясвіжа. Але па сваім аздабленні тэатр наближаны да звычайнай батлейкі, рэпертуар якой складалі калядныя п'есы.

У кожным з трох тэатраў ладзіцца сваё міні-прадстаўленне. Адна драўляная скрыня, напрыклад, аформлена ў выглядзе Нясвіжскай ратушы, дзе даюць спектакль пра тое, як Радзівіл Сіротка запрасіў італьянскага архітэктара Джавані Марыя Бернардоні наведаць Нясвіж.



*Ганна Выгонная прадстаўляе шпянёвую ляльку.*

Таксама Ганна Выгонная правяла майстар-клас па маляванні пячаткамі — знакамі сярэднявечнага майстра.

Падарожжа па “музейным лабірынце” працягваецца!

Невымоўнае

## Памяць, якую не выкрасліць…

Урачыстая прэзентацыя кнігі “Лагерь смерти Освенцим: живые свидетельства Беларуси” ў Беларускім музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны паслужыла нагодай для таго, каб яшчэ раз прайсціся па залах і пазнаёміцца з цікавымі экспанатамі.

У першых залах прадстаўлены рэчы і матэрыялы, якія сведчаць пра пачатак Вялікай Айчыннай вайны і баі, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі.

— Нягледзячы на тое, што гэтыя падзеі далёкія ад сённяшняга дня, тым не менш вайна нагадвае пра сябе, — зазначыла падчас экскурсіі навуковы супрацоўнік экспазіцыйнага аддзела музея Святлана Северына. — На месцах баёў усё яшчэ вядуцца раскопкі, падчас якіх адшукваюцца ўнікальныя рэчы.

Адна з залаў музея аформлена ў цёмныя тоны як сімвал акупацыі тэрыторыі Беларусі. Асаблівая ўвага ў гэтай зале надаецца прадметам, знойдзеным падчас раскопак на месцы лагера ў пасёлку Дразды Мінскага раёна. Нельга не звярнуць увагу на дыяраму лагера смерці Трасцянец. Бачны хлеў у агні, дзе 29 — 30 чэрвеня 1944-га, напярэдадні вызвалення Мінска, фашысты спалілі больш як 6500 вязняў. На заднім плане дыярамы — так званыя машыны-“душагубкі”, у якіх перавозілі людзей з мінскага лагера па вуліцы Шырокай у Трасцянец. Усё гэта, здаецца, заклікае: “Такое не павінна паўтарыцца!”.

**Людміла БЕКІШ**

Асоба ў гісторыі

# Якуб Колас і віцебская філія «Маладняка»

Жыццё, літаратурная і грамадская дзейнасць Якуба Коласа цесна звязаны з Віцебшчынай. Ён неаднаразова сустракаўся са сваімі чытачамі ў Полацку, Лёзне, быў дэпутатам Вярхоўнага савета БССР па Аршанска-Чыгуначнай выбарчай акрузе. У 30-я гады некалькі разоў наведваў Віцебск, прысутнічаў на рэпетыцыях і прэм’ерах спектакляў, якія даваў па п’есах Якуба Коласа Другі Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр (БДТ-ІІ). Дарэчы, з 1944 года тэатр стаў насіць імя Песняра.

**Мікалай ЗУЕЎ**

Віцебская філія “Маладняка” была ўтворана 18 лістапада 1924 г. і праіснавала да лістапада 1928-га. Яе арганізатарамі і кіраўнікамі выступілі Алесь Дудар, Мікола Каспяровіч, Язэп Мазуркевіч. Акрамя ўласнай творчасці, выступленняў у мясцовым і рэспубліканскім друку, выдання калектыўных зборнікаў “Пачатак” (1926) і “Світанне” (1927) маладнякоўцы рыхтавалі даклады пра літаратуру, ладзілі літаратурныя вечары і сустрэчы і такім чынам далучаліся да вывучэння спадчыны вядомых пісьменнікаў. “Зарэцкі і яго творчасць”, “Рэвалюцыя і літаратура”, “Вечарына і даклад аб творчасці М. Багдановіча ў гадавіну яго смерці”, “Маладнякаўская проза: К. Чорны” — гэтыя і іншыя тэмы былі пазначаны ў пратаколах пасяджэнняў членаў філіі.

У лістападзе-снежні 1926 г. у Беларусі шырока адзначалася 20-годдзе творчай дзейнасці Якуба Коласа. Яшчэ ў маі віцебскія маладнякоўцы на агульным сходзе праслухалі і абмеркавалі даклад кіраўніка абласнога аддзялення “Маладняка” Язэпа Мазуркевіча пра творчасць Песняра. На лістападаўскім сходзе зноў разглядалі пытанне “Аб юбілеі Я. Коласа”. У рэзалюцыі запісалі: “Пажадана запрасіць Я. Коласа, утварыць вечар філіі, студый, гурткоў”.

У лістападзе 1926 г. СНК БССР прымае пастанову “Аб урачыстым адзначэнні 20-годдзя літаратурнай творчасці паэта і пісьменніка Якуба Коласа (Кастуся Міцкевіча)”.

15 лістапада 1926-га кіраўнік Віцебскай філіі накіроўвае ў ЦБ “Маладняка” ліст, дзе ёсць важныя, на маю думку, словы: “…прошу даць адказ на пытанне “Аб напрамку і формах удзелу “Маладняка” ў юбілею Я. Коласа”. У нас гэта пытанне вырашана ў станоўчым плане, але сама форма не ясна. Сход запрашае на 21 лістапада к сабе прадстаўніка ЦК для жывой сувязі; гэта надта патрэбна і карысна”.

Адзначу, што ў асобных філіях “Маладняка” адносіны да творчасці Якуба Коласа былі неадназначныя. Дата 21 лістапада 1926 г., названая Я. Мазуркевічам, невыпадковая. Менавіта на гэты дзень было прызначана адкрыццё ў Віцебску БДТ-ІІ. Сярод шматлікіх віншавальных тэлеграм было зачытана прывітанне Якуба Коласа. 28 лістапада “Віцебская сялянская газета” змясціла тэкст віншавальнай тэлеграмы і фотаздымак з аўтографам Якуба Коласа.

Як вядома, пры філіях “Маладняка” існавалі літаратурныя гурткі і літаратурныя студыі ў школах, тэхнікумах, на рабфаках. У плане віцебскай філіі на 25 — 30 лістапада 1926 г. асобным пунктам пазначана “Юбілей Коласа”, а канкрэтна для літаратурных студый — “Чытанне і абмеркаванне аповесці Я. Коласа «У Палескай глушы»”.

5 студзеня 1927 г. менавіта па ініцыятыве мясцовай філіі ў Віцебску адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 20-годдзю творчай дзейнасці Якуба Коласа. Даклад зачытаў Язэп Мазуркевіч. Выступіў на ўрачыстым пасяджэнні і сам юбіляр. Відаць, гэта быў яго першы прыезд у горад над Дзвіной. Пра гэтую значную падзею ў культурным і літаратурным жыцці Віцебска паведаміла газета “Заря Запада”.

20-годдзе творчай дзейнасці Якуба Коласа ў Віцебску адзначалася шырока: у інстытутах, школах, тэхнікумах. Для больш глыбокага і дэталёвага асвятлення гэтага пытання патрабуюцца дадатковыя архіўныя пошукі, таму мы далучаемся да думкі М. Мушынскага пра тое, што пошукавай працай у архівах дзяржаўных устаноў, размешчаных не ў Мінску, а ў абласных цэнтрах, ніхто пасапраўднаму не займаецца.

Пазней Якуб Колас сустракаўся з віцебскімі пісьменнікамі, рэжысёрамі, артыстамі ў лютым 1930-га, восенню 1931-га, у красавіку 1936-га, у студзені і снежні 1937 года.

Постаці

# Апошні прытулак Тодара Мінкава

## Сенсацыйная знаходка ў Драгічыне

На старых могілках горада Драгічына знойдзена магіла вядомага педагога другой паловы XIX ст., нацыянальнага героя Балгарыі Тодара Мінкава.

**Сяргей ГРАНІК,**
**дырэктар Драгічынскага ваенна-гістарычнага музея імя Д. К. Удовікава**

Пра гэтую магілу я пісаў у газеце “Драгічынскі веснік” яшчэ ў верасні 2010 г. і прасіў усіх, каму штосьці вядома, расказаць пра Тодара Мінкава. Матэрыял патрапіў у інтэрнэт, і людзі пачалі адгукацца. Чаму ж такі вядомы чалавек апынуўся ў палескай глыбінцы ў канцы свайго жыцця? Адказ на гэтае пытанне трэба яшчэ шукаць. Але шмат чаго пра лёс Мінкава нам ужо вядома.

Нарадзіўся Тодар Мінкаў у балгарскай вёсцы Арбанасі паблізу г. Русе. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Аўстрыі, дзе вучыўся ў Венскай гімназіі. Далей быў Дрэздэнскі політэхнічны інстытут. Юнак, які планаваў стаць інжынерам-пуцейцам, праходзіў практыку на чыгунцы ў Саксоніі. Менавіта там ён пасябраваў з рускімі студэнтамі і добра вывучыў рускую мову.

З пачаткам Крымскай вайны 1853 — 1856 гг. разам з іншымі студэнтамі запісаўся добраахвотнікам у Балгарскі легіён рускага войска і ўзяў удзел у абароне Севастопаля. Там яму прысвоілі званне паручніка і прызначылі палкавым інжынерам. У баях быў паранены ў нагу, пасля выздараўлення Тодара прызначылі другім ад’ютантам галоўнакамандуючага Паўднёвым войскам князя Міхаіла Гарчакова.

Пасля заканчэння вайны Тодар Мікалаевіч вярнуўся ў Дрэздэн, каб скончыць вучобу. Атрымаўшы дыплом інжынера, перабраўся ў Расію. Да гэтага часу ў яго ўжо была мара — выхоўваць у падрастаючага пакалення любоў да Айчыны. Ён лічыў, што будучыня дзяржавы залежыць ад адукацыі яе народа. З гэтай мэтай у 1862 г. Мінкаў адкрывае ў г. Нікалаеў (Украіна) пансіён для прадстаўнікоў балканскіх народаў, які быў разлічаны на 40 выхаванцаў. Фінансавалася ўстанова з дзяржаўнай казны Расійскай імперыі, паступалі сродкі і ад бацькоў выхаванцаў. Усяго са сцен пансіёна Мінкава выйшла больш як тысяча выхаванцаў, якія ўпісалі свае імёны ў гісторыю Балгарыі. Самы знакаміты — балгарскі пісьменнік Алеко Кастусёў (1863 — 1897 гг.).

Падчас Руска-турэцкай вайны 1877 — 1878 гг. пансіён становіцца зборным пунктам для добраахвотнікаў, якія хацелі адправіцца на Балканскі фронт. Кожны дзень праз яго праходзілі дзясяткі славянскіх патрыётаў.

Пасля атрымання Балгарыяй незалежнасці ў 1878 г. Мінкаў вырашае застацца ў Расіі. За плячыма — 17-гадовы педагагічны стаж. Пансіён працягваў дзейнічаць. Ахвотнікаў вучыцца ў ім было вельмі шмат, і не толькі з Балгарыі.

Аднак у 1892 г. Паўднёваславянскі пансіён з-за недастатковага фінансавання спыніў існаванне. Тодар Мінкаў выйшаў на пенсію і застаўся прылічаным да Міністэрства народнай асветы. Якраз у той час яго сям’я вырашыла пераехаць у маёнтак Равіны Кобрынскага павета Гродзенскай губерні. Менавіта тут ён правёў апошнія 14 гадоў свайго жыцця.

Пачынаючы з 1893 г. Мінкаў значыцца ў памятных кніжках Гродзенскай губерніі як ганаровы міравы суддзя Кобрынска-Пружанскай акругі. Яму, аўтарытэтнаму і пісьменнаму чалавеку, даверана было вырашаць усе спрэчныя пытанні, якія ўзнікалі паміж людзьмі і рэлігійнымі канфесіямі.

Але гэтага Тодару Мікалаевічу было мала, ён хацеў займацца яшчэ адукацыяй і выхаваннем. У сваім маёнтку адкрыў прыватны ліцэй для падрыхтоўкі моладзі да навучання ў кадэцкіх карпусах. Сюды прыязджалі юнакі нават з далёкіх балканскіх краін, якія здабылі незалежнасць.

За ўдзел у Руска-турэцкай вайне 1877 — 1878 гг. і педагагічную дзейнасць Тодар Мінкаў быў узнагароджаны ордэнамі Святога Станіслава І, ІІ і ІІІ ступеней, Святой Ганны І, ІІ і ІІІ ступеней, Святога Уладзіміра ІІІ ступені, чарнагорскім ордэнам Князя



*Тодар Мінкаў.*

Даніло І і ІІ ступеней, балгарскімі ордэнамі “Святы Аляксандр” ІІІ ступені, “За грамадзянскія заслугі” І ступені і шматлікімі медалямі. У Балгарыі імя Мінкава носяць навучальныя ўстановы і многія вуліцы. Думаю, што і ў Драгічыне магла б з’явіцца вуліца яго імя. Гэта было б справядліва.

15 сакавіка 1906 г. Тодар Мінкаў памёр у Равінах. Блізкія пахавалі яго на ўскрайку мястэчка Драгічын ля капліцы Пятра і Паўла. Праз Драгічын у XX ст. прайшло тры вайны, і гэта цуд, што магіла знакамітага балгарына захавалася да нашых дзён. Толькі вось неабходна давесці яе да ладу, бо пахаванне доўгі час заставалася недагледжаным. Упэўнены, што равінскі перыяд жыцця Мінкава яшчэ знойдзе сваіх даследчыкаў.

Між іншым

# Скарб з крэпасці

Многія берасцейцы і госці горада ўжо змаглі пазнаёміцца з пастаянна дзеючай экспазіцыяй, прысвечанай гісторыі рэгіёна, якая працуе ў Брэсцкім краязнаўчым музеі. У шасці залах прадстаўлены перыяд ад першабытнаабшчыннага ладу да першай чвэрці XX ст. Наогул жа гэтай экспазіцыі адведзена дзесяць залаў. Плануецца, што ў поўным аб’ёме яна будзе прадстаўлена да 2015 года.

Работа над стварэннем экспазіцыі, якая змяшчае больш як 2,2 тысячы экспанатаў, у тым ліку досыць унікальных, працягвалася два дзесяцігоддзі. Наведвальнікі змогуць убачыць адзіную ў Беларусі дзеючую мадэль друкаванага станка XVI ст., купэ цягніка XIX ст., сапраўдныя дакументы з аўтографам Тадэвуша Касцюшкі, шкатулку, інкруставаную 58 рубінамі, эксклюзіўную карту помнікаў каменнага і бронзавага вякоў брэсцкага рэгіёна і скарб — шкатулку з меднымі, срэбнымі і залатымі манетамі, якую знайшлі ў падмурку Брэсцкай крэпасці. Ёсць тут і інтэрактыўныя залы з дыярамай хутара Залессе, дзе нарадзіўся Адам Міцкевіч, інсталяцыяй акопа часоў Першай сусветнай вайны.

Дарэчы, Брэсцкі абласны краязнаўчы музей — адзін з самых маладых такога кшталту ў нашай краіне: 1950-ы лічыцца годам яго нараджэння. Менавіта тады быў зацверджаны штат, а музейныя супрацоўнікі сабралі і запісалі ў кнігу ўліку больш як 200 экспанатаў. У тым самым годзе адкрылася першая часовая выстаўка. Сёння музей ганарыцца такімі калекцыямі, як археалагічная, нумізматычная, этнаграфічная, рукапісных і старадрукаваных кніг, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, жывапісу, графікі. Працягваецца распрацоўка пастаяннай гісторыка-краязнаўчай экспазіцыі. Штогод музей і яго філіялы арганізоўваюць выстаўкі, музейныя і музычныя вечары, дні краязнаўства, выязныя экспазіцыі.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Ад Макушы да Кузьмінкі…

Яркае свята дэкаратыўна-прыкладной творчасці і рамеснага мастацтва "Ад Макушы да Кузьмінкі не засталося зялёнай травінкі" прайшло ў этнаграфічным комплексе традыцыйных народных промыслаў у раёне прыпынку "Зялёны гай" г. Магілёва. Аўтэнтычныя хаткі з печкамі запрашалі ў свае сцены, каб зрабіць прахалодны восеньскі дзень цёплым і ўтульным.

**Алёна БЕЛАНОЖКА,**
**фота аўтара**

Галоўнымі персанажамі сталі людзі з сапраўды залатымі рукамі — народныя ўмельцы. А госці свята атрымалі выдатную магчымасць наведаць кірмаш твораў і набыць рэчы, ад якіх зыходзілі магічнае цяпло і прыгажосць. Выстаўку зладзілі ўдзельнікі аматарскага аб'яднання рамеснікаў "Магілёўскія майстры" і народнай студыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва "Чараўніцы", якія працуюць пры Магілёўскім гарадскім цэнтры культуры і вольнага часу.



Народны майстар Беларусі Ігар Грышын прадстаўляе свае драўляныя вырабы.

Керамічныя вырабы нібыта захавалі ў сабе гарачыню агню, у якім майстры загартоўвалі іх да звону. Музычныя інструменты, сувеніры, скульптуры і статуэткі — вялікі асартымент яскрава сведчыў пра талент народнага майстра Беларусі Наталлі Русіян і майстра па кераміцы Руслана Сямёнава. Каляровыя, сонечныя вітражы і малюнкі на шкле вярнулі наведвальнікаў у лета: усе адценні фарбаў сустрэліся ў работах майстра па шкле Ніны Сергуценкі. Чырвань медзі, нізкі бісеру і россыпы натуральных камянёў склаліся ў аксесуары і ювелірныя вырабы неверагоднай прыгажосці: ад іх проста немагчыма было адвесці позірк.

Умелыя рукі майстроў Святланы Лебедзевай, Аляксандры Вешнявецкай і Святланы Дамбраўскас стварылі са скуры, тэкстылю ды стужак фантазійныя дрэвы, дэкаратыўныя пано і калажы для афармлення інтэр'ераў. Прыхільнікі вязаных вырабаў таксама знайшлі сабе экспанаты па душы: Надзея Якімава і Святлана Цімашэнка прадставілі на выстаўцы па-хатняму ўтульныя рэчы.

Асаблівае месца сярод вялікай разнастайнасці рэчаў занялі побытавыя і мастацкія вырабы разьбяра па дрэве Ігара Грышына. Экалагічна чыстыя, прыгожыя прылады і абярэгі былі гатовыя ўвайсці ў дом новых уладароў, каб прыносіць ім удачу і дабрабыт.



Старшыня народнай студыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва "Чараўніцы" Магілёўскага гарадскога Цэнтра культуры і вольнага часу Надзея Якімава.

Шмат зацікаўленых гледачоў сабралі творы каваля Марата Драчова. Яго майстэрства, сёння вельмі рэдкае, ператварыла халодны метал у тонкія, як карункі, казачна прыгожыя вырабы.

Усе жадаючыя маглі набыць да надыходзячай зімы знакамітыя дрыбінскія валёнкі. Таксама майстры прывезлі шмат капелюшоў, сувеніраў, цацак, якія карысталіся вялікім попытам сярод наведвальнікаў этнаграфічнага комплексу.

## З глыбінкі

# Падмурак для музея

Такога музея у нас пакуль няма. Ён — залатая мара тых, хто цікавіцца персонай вядомага польскага пісьменніка з пружанскімі каранямі.

А тое, што ўвага да "маэстра эпохі гусінага пяра" расце, яшчэ раз паказала нядаўняя літаратурная вечарына ў цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Міколы Засіма, калі пружанцы прымалі ў сябе перакладчыкаў твораў Юзафа Ігнацы Крашэўскага на беларускую і рускую мовы. Берасцейшчыну прадстаўлялі літаратары Руслана Гусева, Расціслаў і Анатоль Бензерукі, Мікола Папека. Сапраўдный удачай стаў прыезд знанага спецыяліста ў галіне мастацкага перакладу — Міхася Кенькі з Мінска.

Цікава было пачуць з першых вуснаў пра асаблівасці работы над гістарычнай прозай, вершаванымі творамі, пачуць урыўкі з перакладаў. Напрыканцы сустрэчы Руслана Гусева абвясціла пра стварэнне грамадскага кніжнага фонду для будучага музея Крашэўскага. Яго мэта — сканцэнтраваць у адным месцы кнігі самога літаратара, а таксама выданні, прысвечаныя яму, і тым самым пакласці пачатак назапашванню матэрыялаў. Пакуль кнігазбор будзе захоўвацца ў раённай бібліятэцы.

На момант свайго стварэння фонд ужо налічваў паўсотні асобнікаў кніг, якія перадалі ўдзельнікі сустрэчы. Сапраўднай перлінай калекцыі стаў прывезены Міхасём Кенькам 10-томны збор твораў Крашэўскага ў перакладзе на рускую мову. Арганізатары запрашаюць усіх далучацца да папаўнення фонду. Пажаўцелыя бестселеры пана Юзафа, што марнуюцца на гарышчах дзедавых хат ці на запыленых антрэсолях, вартыя лепшай долі. Давайце падорым ім новае жыццё!

**Людміла БУНЕЕВА,**
**г. Пружаны**

## Творчая майстэрня

# Для вас, модніцы

Ствараць арыгінальныя вырабы са скуры Ларыса Гаскевіч пачала зусім нядаўна. У леташнім сакавіку яна вырашыла адвесці свайго дзесяцігадовага ўнука Глеба ў студыю "Натхненне", якая працуе пры Маладзечанскім цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік". Паглядзела, як працуюць юныя майстры, і паспрабавала сама штосьці вырабіць.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

З Ларысай Анатольеўнай пазнаёміліся ў Глыбокім на Дні беларускага пісьменства. Заўважыла: жанчыны і дзяўчаты падоўгу затрымліваліся каля яе вырабаў, выказвалі сваё захапленне работамі і ахвотна іх набывалі.

— З вялікім задавальненнем працую са скураю, — распавяла Ларыса Анатольеўна. — Цяпер мы з Глебам разам ствараем прыгожыя рэчы. Хлопчык — інвалід дзяцінства, і для яго гэтыя заняткі — свята ў акенцы. Бачылі б вы, як ён старается. Мы адчуваем вялікую радасць ад таго, што займаемся такім дзіўным рамяством. Нам падабаецца тварыць, удзельнічаць у розных выстаўках. Новыя мадэлі кашалькоў, модных сумачак і розных чахлоў распрацоўваю сама.

Акрамя Глеба Мельнікава цікавыя рэчы са скуры выраблае і Аксана Карніловіч — таксама інвалід-калясачнік. Работы свайго педагога, члена Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, кіраўніка студыі "Натхненне" Святланы Бяловай яна ўгледзела на выстаўцы, якая ладзілася падчас святкавання дня горада Маладзечна, і вельмі захацела ствараць штосьці падобнае.

— Дзеці з абмежаванымі магчымасцямі з асалодаю займаюцца творчасцю,— зазначыла Святлана Яўгенаўна. — А як радуюцца кожнаму маленькаму шэдэўру, які нарадзіўся дзякуючы іх стараннем! Хаця кожны творчы крок патрабуе намаганняў.



Ларыса Гаскевіч прадстаўляе свае вырабы.

# Запрашаюць Гервяты

Музычныя вечары ў Гервяцкім касцёле Святой Тройцы Астравецкага раёна сталі ўжо традыцыяй, падзеяй, пад якую "падстройваюць" свае планы сотні людзей не толькі з Астравецкага і суседніх раёнаў, але і з блізкага і далёкага замежжа — Вільнюса, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Калінінграда… 17 лістапада адбудзецца трэці на працягу года канцэрт арганнай і вакальнай музыкі — кожны праходзяць з нязменным аншлагам.

Традыцыю дабрачынных канцэртаў, усе сродкі ад якіх ідуць на рэстаўрацыю храма, які здзіўляе сваёй гжэчнай прыгажосцю і вытанчанасцю, заснавалі год таму ксёндз-пробашч Гервяцкага касцёла Леанід Нясцюк і арганіст Андрэй Міхневіч. У праграме лістападаўскага канцэрта — класічныя творы сусветна вядомых кампазітараў у выкананні арганістаў Аляксандра Музыкантава і Андрэя Міхневіча, вакалістаў Таццяны Глазуновай і Кірыла Старасценкі. Тыя, каму даводзілася бываць на папярэдніх канцэртах, сцвярджаюць: самыя глыбокія ўражанні ад музыкі, якія можна атрымаць толькі на храмавых канцэртах, слухачам гарантаваны. І таму квіткі замаўляюцца за некалькі тыдняў.

Гервяцкія вечары пакуль менш "распіяраны", чым тыя, што праходзяць у Нясвіжскім ці Мірскім замку — на жаль, а можа, і на шчасце. Але па мастацкім узроўні, сіле ўздзеяння яны, магчыма, нават больш значныя. Людзі ідуць і едуць сюды дзеля сваёй душы, а не з тым каб адночы пахваліцца сябрам ці выпадковым знаёмым: "І я там быў…"

**Ніна РЫБІК,**
**Астравецкі раён**

## Афарызм

*Запытай ты сябе, чалавеча:*
*Што зрабіў для айчыны, ці многа?*

**Якуб КОЛАС**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Выдавецкі дом "Звязда".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў
Наклад — 2717.
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 15.11.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4971
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12